

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

11 СНЕЖНЯ 1998 Г. № 50/3978 КОШТ 4 000 РУБ.



## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы. 15 снежня канчаецца падпісная кампанія на першае паўгоддзе 1999 года. Часу зусім нямнога, але ён яшчэ ёсць, каб сказаць сваё слова ў падтрымку беларушчыны і аб тым, што мы ёсць, былі і будзем, а для гэтага ўсяго трэба схадзіць у любое паштовае аддзяленне і аформіць падпіску на нацыянальную перыёдыку, каб заўтра не гаварыць, што беларускія выданні ніхто не чытае, і што мы гінем. Калі не можаце падпісацца на "ЛіМ" адразу на паўгоддзе, падпішыцеся на квартал, а то і на месяц. Паспрыяйце аформіць падпіску на наш штотыднёвік блізкім да Вашага месца жыхарства бібліятэкам, школам, грамадскім установам. Кошт "ЛіМа" на адзін месяц — **50 тысяч рублёў**, на квартал — **150 тысяч** і на паўгоддзе — **300 тысяч**.*

**Наш індэкс — 63856.**

# Зноў побач, праз стагоддзі, назаўжды

Ва ўтульным дворыку БДУ з'явіліся два помнікі — Францішку Скарыну і Міколу Гусоўскаму. Гэтыя дзве медныя скульптуры падараваны універсітэту, які, дасць Бог, некалі стане нацыянальным універсітэтам, грамадска-асветніцкім клубам "Спадчына", які ўзначальвае Анатоль Белы (ён жа — і кіраўнік праектаў па стварэнні і ўзвядзенні помнікаў). Аўтар помніка Ф.Скарыну — скульптар Сяргей Адашкевіч, а помніка М. Гусоўскаму — Уладзімір Панцялееў.



Традыцыя ўзвядзення помнікаў у дварах універсітэтаў мае сваю гісторыю і сягае ў еўрапейскае сярэднявечча. У Кракаўскім (Ягелонскім) універсітэце стаіць помнік Мікалаю Каперніку, у Пражскім (Карлаўскім) — Яну Гусу, у Берлінскім — братам Гумбальтам, у Маскоўскім — М.Ламаносаву, у Віленскім — першадрукару Ф.Скарыну.

І вось зараз да ліку гэтых еўрапейскіх універсітэтаў далучыўся наш універсітэт.

Варта тут адзначыць, што гэтыя помнікі выдатным дзеячам нашай культуры ўзведзены ў Мінску ўпершыню, а помнік М. Гусоўскаму — наогул першы ў Беларусі. Стварэнне помніка М.Гусоўскаму ставіць кропку ў працяглай спрэчцы паміж тымі, хто лічыць М.Гусоўскага дзеячам беларускай культуры і пісьменства, і тымі, хто адмаўляе яму ў гэтым на падставе таго, што яго галоўныя творы былі напісаны на лацінскай мове і жыў ён доўгі час у Кракаве. Устаноўкай помніка М. Гусоўскаму навуковая і літаратурная грамадскасць нашай краіны канчаткова прызнала, што гэты выдатнейшы і буйнейшы волат эпохі Адраджэння, аўтар знакамітай паэмы "Песня пра зубра", належыць не толькі сусветнай, але і беларускай культуры.



У рэктара БДУ Аляксандра Казуліна і ў Анатоля Белага ёсць намер зрабіць універсітэцкі дворык гасцінным прытулкам і для іншых вялікіх людзей Бацькаўшчыны — Еўфрасінні Полацкай, Васіля Цяпінскага, а таксама тых выдатных вучоных, якія працавалі ў БДУ і стварылі яго славу — першаму рэктару Уладзіміру Пічэту, бацьку геаграфічнай навукі Беларусі Аркадзю Смолічу і бацьку гістарычнай — Мітрафану Доўнар-Запольскаму, першаму прэзідэнту АН БССР, прафесару БДУ Усеваладу Ігнатоўскаму і іншым.

**Н. К.**



## КОЛА ДЗЁН

***Прыціхлі маразы, пачаліся завеі... Ці мы забыліся, што такія зімы былі раней, ці сапраўды ў прыродзе нешта творыцца — думаем над гэтым і ўжо мяркуем, як і чым сустрэць Новы год, калі сёння затрымоўваецца зарплата і растуць цэны. Але да такіх варункаў нам не прывыкаць.***

***На гэтым тыдні споўнілася сем гадоў з таго дня, калі былі падпісаны знакамітыя Белавежскія пагадненні, у выніку якіх была пастаўлена кропка ў гісторыі Савецкага Саюза. Праўда, апошнім часам у краінах СНД усё больш з'яўляецца палітыкаў, якія не толькі мараць, але і шмат робяць, каб кропка стала коскай і каб мы і далей будавалі савецкі сацыялізм. Настальгія па вялікай краіне будзе яшчэ доўга жыць на 1/6 частцы планеты, як у кожным чалавеку жыве ўспамін пра тое, што з ім было раней. Аднак нельга вярнуцца ў былое, а тым больш былое вярнуць.***

***Прыціхлі маразы, пачаліся завеі... На вуліцы восьмы год постсавецкай гісторыі...***

### *ГРОШЫ ТЫДНЯ*

Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь увёў у абарот разліковы білет вартасцю 500 000 рублёў. Новая купюра зроблена на белай паперы з укаранёнымі ў папяровую масу ахоўнымі валокнамі чырвонага і жоўтага колеру. На шырокім купонным полі размешчаны вадзяны знак — выява рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў. Колер новай купюры — вішнёвы і жоўты. Так што, відаць, не за гарамі і мільённая купюра... Але ад гэтага жыць не лягчэй...

### *НАЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ*

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь указам N 590 назначыў Латыпава Урала Рамдракавіча міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь, вызваліўшы яго ад пасады памочніка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Нарадзіўся Урал Рамдракавіч 28 лютага 1951 года ў вёсцы Катаева Бакалінскага раёна Башкірскай АССР. З адзнакай закончыў юрыдычны факультэт Казанскага дзяржаўнага універсітэта імя Леніна і Вышэйшыя курсы КДБ СССР у Мінску. З 1974 па 1989 год праходзіў службу ў тэрытарыяльных органах КДБ СССР на пасадах аператыўнага і кіруючага саставу. З 1989 па 1994 год паслядоўна займаў пасады начальніка кафедры спецыяльных дысцыплін, намесніка начальніка Інстытута нацыянальнай бяспекі РБ па навуковай рабоце. З 1994 года па цяперашні час — памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Доктар юрыдычных навук, прафесар. Валодае англійскай і французскай мовамі. Іван Іванавіч Антановіч адпраўлены ў адстаўку.

### *СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ*

Амаль адначасова ў двух незалежных выданнях — "Народнай волі" і "Свободных новостях" з'явілася гутарка з Міхаілам Чыгірам. Відаць, яшчэ многія не забыліся, што М.Чыгір два гады назад быў прэм'ер-міністрам нашай краіны і падаў у адстаўку перад рэферэндумам 1996 года. Гэтыя публікацыі маглі быць успрыняты чытачамі, як звычайныя. Але... Міхаіл Чыгір вяртаецца ў вялікую палітыку і больш таго — ён гатовы ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах.

### *ПРАПАНОВА ТЫДНЯ*

Група прадстаўнікоў грамадскасці Віцебска звярнулася да мэра горада з адкрытым лістом, у якім прапанавала "на месцы дэмантаванага помніка Сувораву" ўстанавіць помнік "збіральніку ўсходнеславянскіх крывіцкіх земляў віцебскаму князю, Вялікаму князю Літоўскаму Альгерду Гедымінавічу". Адказу на ліст пакуль што няма, але можна здагадацца якім ён будзе...

### *КІНО ТЫДНЯ*

У нашай краіне не ўпершыню праходзіць міжнародны фестываль праваабарончага кіно, які прысвечаны 50-годдзю прыняцця ААН Дэкларацыі правоў чалавека. З фестывальнай праграмай знаёмяцца жыхары Мінска, Брэста і Магілёва. Усе прагляды — бясплатныя. Асноўнай фестывальнай пляцоўкай стаў мінскі Палац культуры прафсаюзаў. Некаторыя мінскія кінатэатры не дазволілі ўдзельнікам фестывалю выкарыстоўваць свае памяшканні для паказу фільмаў, хоць, як лічыць старшыня журы, вядомы расійскі рэжысёр Аляксей Сіманаў: "Любое сапраўднае мастацтва садзейнічае абароне правоў чалавека". На жаль, як бачым, у некаторых мінскіх кінатэатрах так не лічаць...

### *ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ*

У газеце "Народная воля" змешчаны новы твор (прыпавесць) народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава "Камень", які ён напісаў у Фінляндыі. Прыпавесць "шмат аб чым нам гаворыць..."

### *ДАКЛАДНАСЦЬ ТЫДНЯ*

У друку з'явілася інфармацыя, што ў новым годзе ў беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак будзе новы часопіс "Качели". Галоўны рэдактар часопіса, гаворачы пра сваё выданне, зазначыла, што, на яе думку, "дзіцячых перыядычных выданняў у рэспубліцы і многа, і мала. Што менавіта да часопісаў, то на беларускай мове іх, напрыклад, два — "Вясёлка" і "Бярозка", а на рускай — часопіса няма". Можна і сапраўды падумаць, што рускамоўных часопісаў у нас няма, калі не глядзець у кіёскі, а вось дзіцячых беларускамоўных — дакладна толькі два і іх у любы месяц можа не стаць.

### *НАМЕР ТЫДНЯ*

Маладзёжны рух "Маладая Беларусь" выказаў намер ініцыіраваць правядзенне ў Мінску мясцовага рэферэндуму. Для таго, каб ініцыятыва ажыццявілася, трэба на працягу двух месяцаў з дня яе рэгістрацыі сабраць 125 тысяч подпісаў. На рэферэндум плануецца вынесці тры пытанні: ці хочуць мінчане самастойна выбіраць старшыню Мінгарвыканкама, ці падтрымліваюць ідэю будаўніцтва АЭС паблізу сталіцы і аднаўленне дзейнасці раённых Саветаў дэпутатаў. Але, як мы ўжо ведаем, сёння многія намеры застаюцца толькі намерамі, хаця, часам, бываюць і нечаканасці...

### *ЛІЧБЫ ТЫДНЯ*

З крыніц МСК СНД і Міністэрства фінансаў РБ стала вядома, што па стане на 1 верасня гэтага года, на пачатак фінансавага крызісу, Беларусь была вінавата дзяржавам СНД 26.736.1 млрд. рублёў, а прадпрыемствы краін Садружнасці завінаваціліся нашым 16.423 млрд. рублёў. У агульнай суме доўгу непараўнальна большая частка прыпадае на Расію — 25.142.7 млрд. беларускіх рублёў. 32,9 працэнта гэтай сумы складае запазычанасць беларускіх вытворцаў за газ. Супраць лічбаў, як гаворыцца, не папрэш... Яны гавораць самі за сябе.

### *ПАВЕДАМЛЕННЕ ТЫДНЯ*

Не першы год ідуць размовы пра адкрыццё другога канала Беларускага тэлебачання. І вось днямі прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка паведаміў журналістам, што ў хуткім часе будзе адменена вяшчанне на тэрыторыю нашай краіны аднаго з расійскіх тэлеканалаў. Якім будзе "БТ-2", можна ўжо і сёння сказаць, маркуючы па першым канале Беларускага тэлебачання...

---

ПАДЗЕЯ

# Мяжа тысячагоддзяў і наша мова

У межах дня адчыненых дзвярэй кафедры гісторыі беларускай мовы Белдзяржуніверсітэта адбылася прэзентацыя адразу дзвюх кніг. Першая з іх — "Беларуская мова ў другой палове XX стагоддзя" — выйшла ў выдавецкім цэнтры БДУ і ўключае матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі з аднайменнай назвай. У больш чым ста дакладах і паведамленнях лінгвістаў Аўстрыі, Польшчы, Славакіі, Украіны, а таксама даследчыкаў з ВНУ Беларусі, Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук аналізуецца стан і перспектывы далейшага развіцця беларускай літаратурнай мовы, выказваецца сур'ёзная заклапочанасць за лёс мовы тытульнай нацыі напрыканцы другога тысячагоддзя. Кніга такога характару (нават па аб'ёме — больш як 320 старонак вялікага фармату) фактычна ўпершыню дае сістэматызаваны матэрыял па дынаміцы колькасных паказчыкаў у дачыненні да беларускіх школ і вучняў беларускіх класаў, у ёй прыводзяцца арыгінальныя назіранні над так званай "трасянкай", аналізуюцца праблемы варыянтнасці беларускай літаратурнай мовы, актыўныя працэсы ў словаўтварэнні, адметнасці розных стыляў, праблемы тэорыі і практыкі выкладання беларускай мовы і інш.

Другая кніга — "Беларуская мова" — выйшла ў выдавецтве Апольскага універсітэта (Польшча) і з'явілася чарговай манаграфіяй з серыі "*Najnowsze dilje jezukow słowiańskich*", якая ажыццяўляецца ў межах Міжнароднага праекта "Змены ў сучасных славянскіх мовах. 1945—1995 гг.". Ідэя гэтага праекта нарадзілася яшчэ восенню 1990 г., тады ж быў створаны і арганізацыйны камітэт на чале з дырэктарам Інстытута польскай філалогіі Апольскага універсітэта (на той час гэта была яшчэ Вышэйшая педагагічная школа) прафесарам Станіславам Гайдам. Каардынатарам праекта ад Беларусі быў абраны дацэнт Мікалай Прыгодзіч.

Асноўная работа па стварэнні манаграфіі па беларускай мове першапачаткова праводзілася на кафедры беларускай мовы Белдзяржуніверсітэта пад кіраўніцтвам прафесара Льва Шакуна. З 1997 года да распрацоўкі манаграфіі падключыліся навукоўцы з Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. І вось літаральна перад самым пачаткам XII Міжнароднага з'езда славістаў у Кракаве выйшла з друку беларуская манаграфія, дзевятая па ліку з запланаваных дванаццаці (да гэтага ўжо былі надрукаваны кнігі па сербскай, балгарскай, рускай, чэшскай, славенскай, славацкай, харвацкай і лужыцкай мовах).

Выдадзеная тыражом у 600 экземпляраў, кніга ў многім стала адкрыццём для славістаў. Яна складаецца з пяці частак: 1. З гісторыі беларускай мовы і яе вывучэння, 2. Сацыялінгвістычныя аспекты функцыянавання беларускай літаратурнай мовы, 3. Гаворкі беларускай мовы, пасляваенная моўная сітуацыя і дынаміка маўлення ў Беларусі, 4. Змены ў структуры беларускай літаратурнай мовы і дынаміка яе норм, 5. Функцыянальна-стылявая дыферэнцыяцыя беларускай літаратурнай мовы.

На думку стваральнікаў манаграфіі, чытачы знойдуць тут самыя разнастайныя матэрыялы з жыцця беларускага слова напрыканцы другога тысячагоддзя. Па зразумелых прычынах аўтары кнігі не змаглі пазбегнуць пэўнай сацыяльна-палітычнай скіраванасці пры аналізе моўных фактаў і сучасных тэндэнцый, паколькі агульнае развіццё беларускай мовы ў другой палове XX стагоддзя адбывалася ва ўмовах жорсткага партыйна-дзяржаўнага дыктату і цалкам падпарадкоўвалася строга вызначаным ідэалагічным дактрынам. Таму ў большасці выпадкаў навуковы аналіз праводзіцца на фоне непрыхаванага болю за лёс беларускай мовы, якая па-ранейшаму працягвае выцясняцца з найбольш значных і ўплывовых сфер грамадскага жыцця народа і краіны.

Выданне сёння дзвюх новых кніг па праблемах беларускай мовы — сведчанне сур'ёзнай заклапочанасці філалагічнай грамадскасці як у Беларусі, так і за мяжой станоўішчам адной з найбольш старажытных еўрапейскіх моў. Ці не пара замест надуманых рэферэндумаў і апытанняў па-сур'ёзнаму ўзяцца за навядзенне дзейснага парадку ў жыцці мовы тытульнай нацыі?!




**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**
*ў другой палове XX стагоддзя*

**Мікалай ПРЫГОДЗІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук**

---

СУСТРЭЧЫ

# Дзесяты раз у Віцебску

Міжнародны музычны фестываль імя І.Салярцінскага — у разгары. Яго ўрачыстае адкрыццё адбылося ў сераду ў Віцебскім музычным вучылішчы, якому нададзена імя гэтага вядомага знаўцы мастацтваў, асветніка, земляка-віцябляніна.

Складаючы праграму фестывальнага тыдня, арганізатары імкнуліся да юбілейнай адметнасці: музычны фэст імя І.Салярцінскага адбываецца ўжо дзесяты раз запар! З гэтай нагоды ў Музычнай гасцёўні Віцебска размясцілася экспазіцыя, прысвечаная мінулым фестывальным падзеям. Цудоўна спалучыўся з атмасферай свята і яшчэ адзін юбілей — 85-годдзе народнага артыста Беларусі, прафесара, старэйшыны нашай кампазітарскай школы Анатоля Багатырова, ураджэнца Віцебска. Яго аўтарскі канцэрт на радзіме — доўгачаканая і арганічная падзея ў шэрагу размаітых імпрэз фестывалю.



Так, сёлета яны зноў — размаітыя, эмацыянальна ды інтэлектуальна змястоўныя. Замоўлены сустрэчы з кампазітарамі, выканаўцамі, навукоўцамі, асветнікамі, сярод якіх знаныя Сяргей Стадлер, Іван Сакалоў, Дзмітрый Талстой, Генадзь Забара, Віктар Скорабагатаў, Ігар Алоўнікаў, Барыс Бергер, Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" на чале з Уладзімірам Байдавым, Полацкі камерны хор пад кіраўніцтвам Людмілы Жукавай... У праграмах — музыка С. Манюшкі, В.Капыцько, А. Літвіноўскага, С.Рахманінава, М. Сільвестрава, К.Штокгаўзена, М.Радзівіла, сучасных польскіх кампазітараў ды інш., ды інш. А яшчэ — вечарына, прысвечаная 200-годдзю Адама Міцкевіча, традыцыйныя навуковыя чытанні, вернісаж віцебскіх мастакоў, выстаўка "Рахманінаў і Шаляпін", імпрэза пад назваю "Сузор'е муз", якую ладзіць творчая інтэлігенцыя Віцебска... Фестываль прадоўжыцца да 15 снежня.

**С.Б.**

---

ДРУК

# Усе хочуць быць... "культурнымі"

Першай пачала выходзіць у каляровым выкананні "Культура". Услед за ёй захацелі стаць "культурнымі" "Раніца" (колішні "Піянер Беларусі") і "Зорька". Балазе, гэтае жаданне разумеюць і падтрымліваюць у Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па друку. Кіраўніцтва яго паклапацілася, каб і папулярныя ў школьнікаў выданні выходзілі ў каляровым выкананні. На мінулым тыдні з'явіліся першыя — у пэўнай ступені пробныя — іх нумары. Прытым — нумары здвоеныя. А вось з новага года гэтак будзе пастаянна — і "Раніца", і "Зорька" павялічваюць свой штотыднёвы аб'ём удвая.

ФЕСТЫВАЛІ

# Да наступнай восені, "Восень"!

Традыцыйны фестываль адбываўся сёлета ў настолькі нетрадыцыйным антуражы, што арганізатары жартам прапаноўвалі перайменаваць яго ў "Беларускую музычную зіму". У астатнім жа ён цалкам адпавядаў добрай завядзёнцы — збіраць лепшыя набыткі айчыннага мастацтва, далучаць творчы плён сяброў-гасцей, каб не забываліся людзі на з'явы прыгожыя, на падзеі радасныя.

Нават роднае ТБ, якое з непадробнай "зімовай свежасцю" ставіцца да сур'ёзных музычных акцый (кінематаграфічнаму "Лістападу" прысвячаліся дзённікі — адкрыццё ж Міжнароднага фестывалю "Беларуская музычная восень" спадобілася звышсакрэтнасці, відэазапіс "выплыў" у начным эфіры праз пару сутак пасля падзеі). Дык вось, нават роднае ТБ не проста паведаміла пра заканчэнне юбілейнага, 25-га, свята мастацтваў, а нават паказала (праўда, пасля паўночы, але дзень у дзень!) кавалак праграмы Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі ды інтэрв'ю яго мастацкага кіраўніка Валянціна Дудкевіча.

У той самы вечар, калі галоўную канцэртную пляцоўку краіны ўпрыгожваў маляўнічы "Карагод сяброў", дзе перапляліся каларытныя танцы, жанравыя сцэнкі, жартоўныя прыпеўкі ды народна-інструментальныя найгрышы, у Камернай зале сталічнай філармоніі сабраліся прыхільнікі Дзяржаўнага камернага хору Беларусі. Гэты знаны калектыў, якім нязменна кіруе маэстра Ігар Мацюхоў, адзначаў новай праграмай сваё 10-годдзе.

Фестываль, які завяршыўся на парозе каляндарнай зімы, пакінуў на добры ўспамін лістападаўскую дэкаду. Падчас яе наша публіка адкрывала наноў імя Барыса Беразоўскага — маладога расійскага піяніста, які жыве цяпер у Лондане і які знайшоў у сваім шчыльным творчым графіку "акенца для Мінска", бо гэта для яго не проста чарговы горад на гастрольным шляху. У Мінску ён выступаў яшчэ хлапчуком, сярод іншых таленавітых дзяцей — выхаванцаў Цэнтральнай музычнай школы пры Маскоўскай кансерваторыі, якія прыязджалі да нас з канцэртамі. Беларуская дзяржаўная філармонія была для яго і своеасаблівай стартавай пляцоўкай перад міжнароднымі конкурснымі выступленнямі. Сёлета Мінск падараваў яму творчае партнёрства з вельмі паважаным у музычным свеце маэстра — галоўным дырыжорам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі Генадзем Праваторавым...

Падчас лістападаўскай дэкады публіка захаплялася майстэрствам польскіх музыкаў (Кракаўскі квартэт), з цікавасцю чакала прыезду акардэаністаў з суседняй Летувы. Адкрывала новыя грані творчага аблічча сваіх артыстаў: кларнетыста Генадзя Забары, піяніста Алега Крымера, Ансамбля салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава. Вітала знаных расіян, улучаных у супольнае з беларускімі музыкамі гранне: кларнетыста Івана Мазгавенку, фагатыста Валерыя Папова...

А яшчэ публіка, як зазвычай... гаравала. З тае прычыны, што паўсюль, дзе хацелася б пабываць, не паспееш. Вось і застаецца чакаць наступнага фестывалю — са спадзевам, што дарункі чарговай "Музычнай восені" будуць не менш прывабнымі і зноў парадуюць магчымасцю шчодрага выбару.

**С. Б.**







*На здымках—удзельнікі канцэртаў: маэстра І. Мацюхоў, салісты Б Беразоўскі, Г. Забара, артысты Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі.*

АНОНС

# Затрубяць трубы ў Гомелі

Гомельскі каледж мастацтваў імя Н. Сакалоўскага ладзіць свой традыцыйны штогадовы фестываль лаўрэатаў. Сёлета ён пройдзе пяты раз і прысвечаны будзе мастацтву выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах. Арганізатары — Міністэрства культуры, Беларуская акадэмія музыкі, упраўленне культуры Гомельскага аблвыканкама і, вядома ж, сам каледж на чале з яго знаным дырэктарам Эдуардам Кірыленкам, — абяцаюць удзельнікам і гасцям фестывалю чатыры дні мастацкіх уражанняў, творчай працы, прафесійных стасункаў.

Сярод лаўрэатаў міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў, што ўдзельнічаюць у канцэртных праграмах, — выхаванцы класа прафесараў Мікалая Волкава, Барыса Нічкова, Уладзіміра Будкевіча, дацэнта Івана Брычыкава. А якія размаітыя калектывы! Народны духавы аркестр Гомельскага каледжа мастацтваў пад кіраўніцтвам Валянціна Кавалёва, духавы аркестр Беларускага універсітэта культуры "Светач" пад кіраўніцтвам Віктара Парамонава, Баранавіцкі гарадскі канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам Васіля Прадуна, ансамбль флейтыстаў "Сірынкс" пад кіраўніцтвам Ніны Аўраменкі, ансамбль салістаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі — знаны Актэт драўляных духавых пад кіраўніцтвам Барыса Нічкова ды Генадзя Гедыльтара, духавы аркестр Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Льва Муранава, духавы аркестр БАМ "Фанфары Беларусі" на чале з Аркадзем Берыным! Нашай сталічнай публіцы гэткае сузор'е можа толькі прысніцца...

Надзвычай важна, што свята музыкі не абмяжоўваецца сценамі каледжа мастацтваў. Канцэрты пройдуць таксама ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны, у тэхнічным універсітэце імя П. Сухога, у медыцынскім інстытуце, Беларускім дзяржаўным універсітэце транспарту, музычна-педагагічным каледжы, дарожна-будаўнічым ды політэхнічным тэхнікумах. Горад па-сапраўднаму адчуе фестываль!

А музыкам давядзецца папрацаваць не толькі перад шырокай публікай, але і ў асяроддзі калег, маладых спецыялістаў ды будучых прафесіяналаў. Плануюцца майстаркласы для трубачоў, флейтыстаў, габаістаў, кларнетыстаў, фагатыстаў, выканаўцаў на ўдарных інструментах, для аранжыроўшчыкаў і кіраўнікоў мастацкіх калектываў. Шэраг прафесійных праблем абмяркуюць удзельнікі навуковапрактычнай канферэнцыі.

Зважаючы на дзівосную прыцягальнасць гучання духавых інструментаў — і сола, і ў аркестры, няцяжка зрабіць прагноз: фестывальныя канцэрты, што адбудуцца з 16 па 19 снежня, збяруць шматлікіх слухачоў і "наробяць шуму" ў Гомелі.

**С. Б.**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬ...*

## Першая кніга паэта

Гарадская бібліятэка імя Герцэна, дзе адкрыты літаратурна-мастацкі салон, стала адным з цэнтраў творчага жыцця. У ім прайшлі юбілейныя вечарыны вядучых творцаў Гомельшчыны: празаіка і драматурга Васіля Ткачова, паэтаў Віктара Яраца і Юрыя Фатнева. Прыемна, што тут не забываюць і пачаткоўцаў. Гэтымі днямі ў салоне адбылася прэзентацыя першай кнігі вершаў "Нязбытныя сны" педагога Алега Ананьева.

## "Беларусь была яго лёсам"

Так называецца апошні дакументальны фільм трылогіі аб жыцці і дзейнасці першага сакратара ЦК КПБ П. Машэрава. Аўтар і прадзюсер кінастужкі — Марына Кір'янава, якая вось ужо 10 гадоў працуе над гэтай тэмай. Першымі ў рэспубліцы з фільмам пазнаёміліся гамяльчане (дэманстраваўся ён у кінатэатры імя Калініна). Справа ў тым, што рэжысёрам стужкі з'яўляецца іх зямляк А. Кашэўнікаў, а Гомельскі аблвыканкам прымаў удзел у фінансаванні фільма. Афіцыйная прэм'ера яго адбудзецца 15 снежня ў Мінску.

## Рэрыхі ў Светлагорску...

Святаслаў і Мікалай Рэрыхі — вялікія дзеячы сусветнай культуры. Яны і выдатныя мастакі. Перасоўная выстава іх работ крочыць па Беларусі. З ёю раней пазнаёміліся аматары мастацтва Віцебска. А ў гэтыя дні — і жыхары Светлагорска. Экспазіцыя з 56 работ-арыгіналаў была адкрыта ў музеі гісторыі горада. Арганізатары унікальнай выставы — Міжнародны цэнтр Рэрыхаў у Маскве, Гомельскі інфармацыйна-культурны цэнтр "Адамант" і аддзел культуры Светлагорска. Да таго ж, экспазіцыя ўключае каляровыя ксеракопіі архіўных дакументаў пра жыццё і творчасць вялікай сям'і.

## У "Гасцёўні" гучаць рамансы

У цэнтральнай бібліятэцы Рэчыцы працуе "Гасцёўня", у якой прапагандуецца наша культура, літаратура і музыка. На гэты раз тут сабраліся аматары рамансa. З вялікім канцэртам выступіла салістка Белдзяржфілармоніі Таццяна Моўчан, выступілі таксама выканаўцы і аўтары песень Аляксандр Карсакоў і Юрый Гуменнікаў. У іх выкананні прагучалі песні Уладзіміра Высоцкага і Юрыя Візбара.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ГРОДНА...*

## Такім гасцям заўсёды рады

Нядаўна горад Дзятлава наведала ўраджэнка Слоніма, заслужаная артыстка Расіі Людміла Іларыёнава. Лепшая выпускніца акадэміі імя Гнесіных, галоўная гераіня дакументальнага фільма "Мінулых дзён зачараванне" Людміла Канстанцінаўна — адна з самых вядомых выканаўцаў рускіх старажытных рамансаў. Таленавітая артыстка спявае не толькі на знакамітых расійскіх і іншых сусветных сцэнах, але і на высокім прафесійным узроўні навучае царкоўным спевам моладзь, якая вучыцца пры Жыровіцкай вышэйшай духоўнай семінарыі.

Людміла Іларыёнава шчыра і праніклёна расказала прысутным пра сваю творчасць, падзяліліся планамі на будучае. У бліжэйшы час спявачка ў суправаджэнні ансамбля рускіх народных інструментаў выступіць перад суседзямі. Сродкі ад дабрачыннага вечара пойдуць на працяг будаўніцтва новай Спаса-Прэабражэнскай царквы ў райцэнтры.

## Гэта наша з табой біяграфія

За сваю 500-гадовую гісторыю дзятлаўская зямля зведала нямала. Па ёй ступаў рускі цар Пётр І. У гады Вялікай Айчыннай, вызваляючы Дзятлаўшчыну, загінулі смерцю храбрых Героі Савецкага Саюза П. Пятроў, Я. Фогель, І. Фурсенка. На гэтай шматпакутнай зямлі паўтарыў подзвіг Івана Сусаніна мясцовы селянін Іосіф Філідовіч.

Прайшлі дзесяцігоддзі. Шмат што змянілася ў лепшы бок. Аб усіх важнейшых падзеях, якія адбываліся ад часоў першабытных да нашых дзён, аб знакамітых людзях свайго краю дапытлівы чытач сёння даведаецца з навуковапапулярнага выдання "Памяць", гісторыка-дакументальнай хронікі Дзятлаўскага раёна, якая не залежваецца ў кнігарні. Гэтую кнігу ўважліва чытаюць пісьменнік Вячаслаў Адамчык, гісторык Міхаіл Петрыкевіч, даярка калгаса "Расія" Валянціна Карпач, механізатар калгаса "Гвардыя" Уладзімір Чарняўскі і многія іншыя. Бо кожны з іх — часцінка цяперашняга Дзятлава, часцінка яго гісторыі.

**Іосіф ЗАЯЦ**

*МАГІЛЁЎ...*

## "З крыніц народных"

Так называецца абласны фестываль народнай музыкі, які нарадзіўся чатыры гады таму на Магілёўшчыне. Спачатку яго пазыўныя гучалі ў Бялынічах. Сёлета крыніцы народнай музыкі запульсавалі ў раённым цэнтры Круглае. Фестываль носіць конкурсны характар. Памерацца майстэрствам у Круглае прыехалі ўсе лепшыя ансамблі і аркестры народнай музыкі клубных устаноў вобласці. Пераможцамі конкурсу сталі народныя аркестры народных інструментаў з Бабруйска і Горак, народныя ансамблі Шклоўскага раённага Дома культуры і "Батлейка" Круглянскага раённага цэнтра культуры, ансамбль Вяйнянскай школы мастацтваў. Сярод дзіцячых калектываў лепшым прызнаны ансамбль народнай музыкі "Танок" сярэдняй школы N 33 з Магілёва. За лепшае суправаджэнне лаўрэатам стала аркестравая група народнага ансамбля "Дзяніца" з Дрыбіна, якой прысуджаны прыз глядацкіх сімпатый. У ліку лаўрэатаў — сямейны дуэт балалаечнікаў Бабічаў з Бабруйска, якія выканалі варыяцыі на тэму рускай народнай песні "Пры далінчацы", а таксама салістка ансамбля "Батлейка" з Круглага Любоў Верабей. Лепшым дырыжорам прызнана кіраўнік аркестра народных інструментаў з Бабруйска Валянціна Воранава, лепшым аранжыроўшчыкам — музычны кіраўнік народнага аркестра з Клімавіч Уладзімір Казырэнка, лепшым аўтарам — магілёўскі кампазітар Уладзімір Глушакоў.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

*ВІЦЕБСК...*

## Вечары сучаснай харэаграфіі

Яны сталі ў Віцебску традыцыйнымі. У гэтым снежні на сцэне культурна-дзелавога цэнтра ААТ "КІМ" прайшоў XI міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі. Першы вечар быў прысвечаны вяртанню брэйка. У ім прынялі ўдзел брэйк-групы з Санкт-Пецярбурга, Літвы, Латвіі. Унікальны вечар прадставіў тэатр "Балет Яўгена Панфілава" з Пермі. Прэм'ерны спектакль "Крываве вяселле" па матывах п'есы Гарсія Лоркі, быў прысвечаны 20-годдзю творчай дзейнасці гэтага харэографа.

**Святлана ГУК**

 ЧАСАПІС

## У вянок вялікаму Адаму



**Як ужо ведае наш чытач, да 200-годдзя Адама Міцкевіча вялікую творчую працу падрыхтаваў Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга. І вось у зале сталічнай філармоніі адбылася прэм'ера гэтай тэатралізаванай музычнай праграмы. У яе аснове — адмысловы песенны вянок, створаны кампазітарам Эдуардам Зарыцкім на вершы Адама Міцкевіча ў перакладзе Васіля Жуковіча. Прэм'ера прайшла — песні засталіся, і лепшыя з іх, безумоўна, дададуцца да сучасных музычных набыткаў, натхнёных вобразамі айчыннай паэзіі. Цудоўна прыжыліся, зрабіліся "сваімі" ў эстраднай песні класічныя вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча... Цяпер у беларускай эстрады ёсць і свой Адам Міцкевіч.**

*На здымку: падчас прэм'еры ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі — дырыжыруе народны артыст рэспублікі Міхал Фінберг.*

*Фота К.ДРОБАВА*

## Брашура пра Калоднае

**Згодна архіўным дадзеным, першае ўпамінанне пра вёску Калоднае Столінскага раёна датуецца 8 лістапада 1888 года. І вось да 110-годдзя вёскі выйшла брашура, у якой змешчаны нарыс пра гісторыю самой вёскі, а таксама і пра гісторыю зараджэння і станаўлення вясковых адукацыйных устаноў. Такое патрэбнае і — лічу! — удалае спалучэнне тэматыкі зусім невыпадковае, бо аўтарам нататкаў з'яўляецца дырэктар мясцечковай базавай школы Міхась Карсека.**

**Пра выхад краязнаўчага выдання паруплілася рэдакцыя пінскай райгазеты "Пінскі веснік".**

**У. ТАРАСЮК**

## Удалы "чортаў тузін"

**Трынаццатая кніга — "Беларуская літаратура. 100 лепшых сачыненняў на літаратурныя і вольныя тэмы" — прафесара Берасцейскага дзяржаўнага ўніверсітэта, загадчыка кафедры літаратур народаў свету Міколы Мішчанчука стала "прычынаю" ягонай творчай справаздачы як літаратуразнаўцы, пісьменніка, аўтара шэрагу дапаможнікаў для студэнтаў і вучняў.**

**Кніга, якая прэзентавалася, грунтоўна распавядае пра тое, як пісаць самастойна творчыя працы. Адрасуецца яна школьнікам, навучэнцам, абітурыентам. Акрамя таго, віноўца сустрэчы чытаў свае вершы і абразкі, адказваў на пытанні прысутных.**

**На філалагічным факультэце, дзе адбылося мерапрыемства, вырашылі, што такія сустрэчы-справаздачы стануць традыцыйнымі.**

**Уладзімір ТАРАСЮК**

## На карысць Польшчы і Беларусі

**Споўнілася год, як у Мінску дзейнічае Польскі Інстытут. За гэты час інстытутам ладзіліся мастацкія і фотавыставы, канцэрты, прагляды кінафільмаў, навуковыя канферэнцыі. Дырэктар інстытута спадар Томаш Нягодзіш здолеў наладзіць добрыя кантакты з людзьмі мастацтва і навукі. Культурніцкія акцыі Польскага Інстытута набываюць усё большы рэзананс.**

**Польшча была для некалькіх пакаленняў беларускіх інтэлектуалаў "акном у Еўропу". Такім чынам, Польскі Інстытут мае ў Беларусі моцнае апірышча. Беларусі і Польшчы неабходна паразуменне, і гэтае паразуменне найпрасцей знайсці ў культурнай галіне. Гэтым і займаецца Польскі Інстытут у Мінску.**

**5 снежня ў Бібліятэцы імя Янкі Купалы адбылася сустрэча дырэктара і супрацоўнікаў інстытута з мінскай грамадскасцю. Слова бралі Томаш Нягодзіш, Алесь Анціпенка, Вячаслаў Ракіцкі. Спадар Ракіцкі слушна заўважыў, што хоць Польскі Інстытут працуе ў Мінску толькі год, але здаецца, што ён быў тут заўжды. Многія з тых, хто браў удзел у праграмах інстытута, згадзіліся б з гэтымі словамі,**

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**

НОВАЕ

# "Першацвет" мяняе... "цвет"

Часопіс маладых літаратараў — так значылася ў падзагалоўку "Першацвета", які ўпершыню прыйшоў да чытачоў у кастрычніку 1992 года. З таго часу, дзякуючы настойлівай працы ініцыятара стварэння ў нашай дзяржаве менавіта такога выдання і яго нязменнага галоўнага рэдактара Алеся Масарэнкі, выйшла 70 нумароў "Першацвета". Цэлая бібліятэчка атрымалася з невялікіх памерам і аб'ёмам кніжак. А да ўсяго часопіс займаўся і кнігавыданнем. Праўда, каб выпусціць зборнік таго ці іншага маладога аўтара, не хапала сродкаў. Тым не менш выйсце знайшлі: "кнігі" друкаваліся ў самім часопісе.

Пасля ж сёлетняга дзевятага нумара "Першацвета" месяцы два ён у кіёсках "Белсаюздруку" не з'яўляўся, не прыходзіў сталым чытачам і па падпісцы. Найбольш дасведчаныя ведалі: выданне мяняе статус і будзе выпускацца ў якасці дадатку да газеты "Переходной возраст". А яшчэ з'явіліся пагалоскі, што "Першацвет" цалкам зменіць свой... "цвет".

І вось тое, пра што гаварылася, адбылося. "Першацвет" сапраўды з'явіўся ў новай іпастасі. Цяпер ён — літаратурна-культуралагічны часопіс маладых літаратараў Беларусі. Толькі што пабачыў першы нумар новага "Першацвета", здвоены, пазначаны кастрычнікам-лістападам (адпаведна 71—72 нумар з часу з'яўлення першага, цяпер, так бы мовіць, "гістарычнага" "Першацвета"). Часопіс набыў сучаснае афармленне, змяніўся і яго фармат (кшталту часопіса "Крыніца").

А чым адметны новы "Першацвет", можна даведацца з вуснаў яго нага рэдактара Людмілы Рублеўскай:

"Перад вамі — першы выпуск абноўленага "ПЕРШаЦВЕТу"...

"ПЕРШ" — Літаратура, Мастацтва, Бацькаўшчына.

"ЦВЕТ" — айчыннай і сусветнай літаратуры, культуры, мастацтва, сучаснасць і гісторыя, эксперымент і класіка.

"ПЕРШаЦВЕТ" — гэта ТЭКСТ і КАНТЭКСТ.

ТЭКСТ — панарама маладой беларускай літаратуры, адлюстраваная ва ўсёй паўнаце — ад творчасці пачаткоўцаў да тых, хто ўжо мае імя ў літаратуры; творы сусветнай літаратуры ў перакладзе маладых.

На старонках КАНТЭКСТу часопіс... стварае асяродак для літаратурнай вучобы — асновы тэорыі літаратуры і літаратурны практыкум, школа філасофіі і культуралогіі, гісторыя класічнага і сучаснага мастацтва, актуальныя літаратуразнаўства і крытыка..."

А больш поўнае ўяўленне аб новым "Першацвеце" можна атрымаць, пазнаёміўшыся з самім нумарам. У "Семінары" — гутарка з В.Іпатавай "Галоўнае сёння — трымацца разам...", у "Анатоміі шэдэўра" — гаворка пра "Ладдзю роспачы" У.Караткевіча, у "Повязі" — невядомыя матэрыялы пра В.Маракова. І, канечне ж, багата прадстаўлена паэзія і проза — як аўтараў не такіх і маладых, так і зусім юных. А яшчэ можна зазірнуць у творчую суполку старшакласнікаў Мінска "Вулей", атрымаць заданне напісаць оду, пазнаёміцца з кнігай З.Вішнёва "Штабкавы тамтам"...

Над нумарам плённа папрацавалі як супрацоўнікі часопіса (Пятро Васючэнка, Міхась Скобла, Андрэй Федарэнка, Каця Лапцева, Віктар Жыбуль, Мікола Віч, Галіна Багданава, Андрэй Любы, Наталля Кузьміч, Алена Пісьмянкова — усіх іх рэдакцыя прадстаўляе), так і аўтары. Адны з іх знаёмы па "Першацвеце" колішнім, іншыя прыйшлі ў "Першацвет", які змяніў свой "цвет".

# Знаёмства адбылося

У кіёсках "Саюздруку" некалькі дзён таму з'явіўся часопіс з незвычайнай, стыльна аформленай вокладкай. Але назва яго, хаця і трансфармаваная, знаёмая беларускаму чытачу — "ПЕРШаЦВЕТ". Першымі з гэтым часопісам пазнаёміліся жыхары Пухавіцкага раёна, дзе 5 снежня праходзіў Дзень маладзёжнай прэсы, арганізаваны газетай "Чырвоная змена". А 8 снежня ў грамадскім прэсцэнтры "Дома прэсы" адбылася прэзентацыя абноўленага часопіса, на якую прыйшлі старшыня Дзяржкамітэта па справах моладзі (які з'яўляецца заснавальнікам часопіса) Аляксандр Пазняк, першы намеснік старшыні Дзяржкамітэта па друку Зіновій Прыгодзіч. Яны станоўча ацанілі змены, якія адбыліся з часопісам, парадаваліся за творчую моладзь краіны, якая мае падобнае выданне.

На прэзентацыі выступілі галоўны рэдактар газеты "Чырвоная змена" Алесь Карлюкевіч, галоўны рэдактар газеты "Переходный возраст", дадаткам да якой з'яўляецца "ПЕРШаЦВЕТ", Алена Філіпчык, рэдактар нумара абноўленага "ПЕРШаЦВЕТа", аўтар праекта часопіса Людміла Рублеўская, прафесар Уладзімір Конан, пісьменнік, літаратуразнаўца Пятро Васючэнка. Выступоўцы адзначалі важнасць падобнага выдання для культурнай прасторы нашай краіны, новыя перспектывы, якія адкрыліся перад часопісам. Не абышлося без спрэчак, розных меркаванняў. Супрацоўнікі рэдакцыі і высокія госці адказалі на пытанні журналістаў, якія прадстаўлялі паўтара дзесятка газет, часопісаў і радыёстанцый.

Прысутныя маглі пазнаёміцца з карцінамі імправізаванай выставы маладых мастакоў Ганны Ціханавай, Зміцера Вішнёва і Віктара Жыбуля. Прадстаўнікі андэграўнднай суполкі "Вулей" Антон Тарас і Алесь Хворы (мінскія старшакласнікі), пра якую расказваецца ў рубрыцы часопіса "ПЕРШаЦВЕТ" "Траянскі конь", прачыталі свае вершы пры запаленай свечцы, стварыўшы "штучнае зацямненне". Таксама выступілі Аксана Данільчык, Руслан Баек, Сяржук Мінскевіч, Мікола Віч, Зміцер Вішнёў і іншыя. Творчасць маладых, прадстаўленая на кароткай літаратурна-музычнай частцы імпрэзы, засведчыла такі прынцып абноўленага "ПЕРШаЦВЕТа", як плюралізм — чыталіся творы розных жанраў і накірункаў, ад традыцыйных санетаў да авангарднай паэзіі.

Вяла вечарыну рэдактар аддзела крытыкі часопіса "Нёман" Ірына Шаўлякова.

**Н.К.**

ВЫСТАВЫ

# Пачатак "новай эры"

У Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь — філіялы па ўсёй краіне. Аднак, мабыць, найбольш вядомы — у Магілёве. Музей імя В.К.Бялыніцкага-Бірулі. Тут разгорнута экспазіцыя твораў генія беларускага краявіду. Сюды перавезены з лецішча "Чайка" (Цвярская вобласць РФ), дзе майстар правёў апошнія гады жыцця, ягоныя асабістыя рэчы, прадметы хатняй абстаноўкі. Музей яшчэ і навуковы цэнтр, бо тут захоўваецца мноства дакументаў, якія так ці інакш датычаць жыцця вялікага майстра, успаміны аб ім, аналітычныя матэрыялы.

Музей В.К.Бялыніцкага-Бірулі для магілёўцаў — прадмет асаблівай гордасці (як для навагрудцаў — музей Адама Міцкевіча). І для такой гордасці ёсць падставы, бо гэта — адзін з нямногіх у Беларусі паўнавартасных мемарыяльных музеяў. Тут ёсць і унікальныя экспанаты (у Магілёў варта з'ездзіць хаця б для таго, каб пабачыць шэдэўры Бялыніцкага-Бірулі), густоўныя інтэр'еры; ёсць тое, што прынята называць аурай — у гэтых сценах, сярод гэтых карцін у галаву прыходзяць добрыя думкі, а на сэрца — спакой. Немалаважна і тое, што ў мемарыяльным музеі ёсць залы для зменных экспазіцый. Такім чынам, у чарговую сустрэчу з палотнамі Бялыніцкага-Бірулі трапіш і на выставу сучаснага мастака. Так, падчас пленэру імя Неўрава ў Музеі імя В.К.Бялыніцкага-Бірулі працавала выстава графікі Ларысы Жураковіч, мастачкі з Бялыніч. А зараз на гэтым месцы — экспазіцыя жывапісу з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея. Гэта выстава ўжо экспанавалася ў Мінску і мела вялікі поспех.

"И образ милый, незабвенный..." — расійскі партрэт першай паловы XIX стагоддзя. Партрэты жаночыя, сямейныя, некалькі краявідаў. Мне падалося, што ў Магілёве невялікая, з невысокай столлю зала больш адпавядае камернаму характару выставы, чым залы мінскага музея. Але гэта вельмі суб'ектыўнае меркаванне. На выставе экспануюцца творы Васілія Трапініна, Цімафея Нефа, Пімена Арлова, Аляксея Валаскова, Максіма Вараб'ёва, Есіфа Аляшкевіча, Івана Смірноўскага, Аляксея Тыранава, Філіпа Будкіна, Фёдара Тупава. Аўтары некаторых твораў нявысветленыя, таму на шыльдачках напісана "невядомы мастак 1 паловы XIX ст.". Большасць пералічаных імёнаў вядомыя толькі спецыялістам, гісторыкам мастацтва. Аднак часта бывала, што мастакам, якія не трапілі ў кагорту класікаў, пашчасціла занатаваць для нашчадкаў тое, што класікі з пэўных прычын абмінулі ўвагай — звычайнае жыццё звычайных людзей; засведчыць тое, што з году ў год, са стагоддзя ў стагоддзе змяняецца толькі прадметнае асяроддзе, а людзі застаюцца ўсё тымі ж. Іншы раз спынішся ля "Партрэта невядомай" XIX альбо яшчэ больш далёкага стагоддзя і здзіўлена адзначыш, што ведаеш яе шмат гадоў і ці не ўчора размаўляў з ёй па тэлефоне.

У Нацыянальнага мастацкага музея багатыя фонды, але малыя экспазіцыйныя плошчы. Час ад часу музей робіць тэматычныя выставы, але дагэтуль іх бачылі толькі мінчукі. Бо па традыцыі ў беларускіх гарадах Нацыянальны мастацкі музей дэманструе толькі сучаснае мастацтва. Выстава іканапісу альбо жывапісу мінулых стагоддзяў хутчэй паедзе ў Маскву ці на Тайвань, чым у Гомель ці Віцебск. Для такой палітыкі, мабыць, былі свае прычыны. Але зараз нараджаецца новая традыцыя, бо новы дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў лічыць, што з гэтай дыскрымінацыяй трэба канчаць. Выстава жывапісу XIX стагоддзя ў Магілёве — яскравае сведчанне пачатку "новай эры" ў стасунках Нацыянальнага мастацкага музея і ягоных філіялаў.

Невыпадкова пачалося з Магілёва. У горадзе моцны культурны асяродак, а ў Музеі імя Бялыніцкага-Бірулі кваліфікаваныя супрацоўнікі і дырэктар. Да таго ж, дырэктар Наталля Статуева — патрыёт свайго горада і свайго музея. Яна здолела пераканаць кіраўніцтва Нацыянальнага мастацкага музея, што Магілёў гэтая выстава папросту неабходная. І, дарэчы, Наталля Рыгораўна мае рацыю. Я быў на адкрыцці выставы і бачыў, як успрымалі магілёўцы творы, як слухалі музыку і рамансы мінулага стагоддзя на канцэрце, прымеркаваным да вернісажа.

Упэўнены, што першая такога роду выстава не будзе для Магілёва апошняй. А калінебудзь і абласныя цэнтры здолеюць здзівіць сваімі музейнымі калекцыямі сталіцу.

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**

ПОШТА

# Вуліца П. Глебкі ў Мінску

*З цяжкаю хваробай*
*дваццатага века,*
*Якая праклён пасылае вайне,*
*Даведаўся я: ёсць у Мінску аптэка*
*На вуліцы Глебкі, патрэбная мне.*

*З рэцэптам ад доктара,*
*з хворай нагою*
*Па вуліцы крочу. Стаміўся ў хадзе:*
*Яна мне здалася такою даўгою,*
*Якое не ведаў дагэтуль нідзе.*

*Нарэшце ў аптэцы мне выдалі лекі,*
*Аддаў за якія апошні мільён.*
*Чамусьці падумаў: зайсціся б*
*да Глебкі,*
*Успомніць,*
*якім хлебасольным быў ён.*

*Сустрэў бы мяне, як заўсёды,*
*гасцінна, —*
*У цёплай кватэры хапала ўсяго.*
*І пэўна спытаў бы: "Як наша краіна*
*Жыве, куды сёння ідзе, да чаго?"*

*Такое пытанне задаць кожны можа, —*
*А як боль у вузел тугі завязаць?*
*Пытаю пра гэта ў стрэчных*
*прахожых, —*
*На гэта не можа ніхто адказаць...*

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

5 лістапада 1998 г.

# Спрэчка з люстэркам

ПОЗІРК У БУДУЧЫНЮ БЕЛАРУСІ

## Не зусім лірычны ўступ

Ён ужо шмат гадоў не "размаўляе" ранкамі з люстэркам. Не "спявае" яму жыццярадасных маршаў. Адвёўшы вочы ад цьмянага прамавугольніка ў ванным пакоі, проста голіцца. Амаль навобмацак, каб не зачапіцца вокам за таго, што па той бок люстэркавай мяжы. Не з-за сораму (хто ж у гэтым прызнаецца?) — з-за шкадобы выдаткоўваць марна хоць кроплю жыццёвай энергіі, якой і так хранічна не стае. "Мы не ўрачы, мы — боль", — у соты раз разжоўвае ён невядома калі вычытаную фразу.

Дзесьці зверху з неўтаймаванасцю жывёліны пачынае раўсці водаправодны кран. Дзесьці знізу не па-ранішняму дзелавіта і ўпарта выбухае застарэлая сямейнай спрэчка.

Дом, гэты дванаццаціпавярховы будан з халоднымі, як турэмныя сутарэнні, сценамі, сутаргава прачынаецца. Натужліва вуркоча "прамая кішка" ліфта, раз-пораз "выціскаючы" з сябе натапыраных ад холаду людзей на няўтульныя снежаньскія вуліцы...

У чарговы раз ён палохаецца імклівапазбежнага надыходу безлітаснага будня. "Чыставікі бяссоння, жыцця чарнавікі"... Задушаным птушанём перастае дрыжэць у руцэ электрабрытва.

І ўсё ж ён не стрымліваецца. Кленучы сябе, быццам знячэўку, падымае вочы. Час збянтэжана спыняецца. А ён застаецца самнасам з тым, якому калісь з радаснай гатоўнасцю падпарадкоўваўся ўвесь свет, якому падуладна было ўсё, які любіў і кахаў, які верыў і прымушаў верыць, які жыў і дапамагаў жыць... Не дацягнуў, не вытрымаў, не змог, не здолеў... Ён застаецца сам-насам з уласным позіркам, у якім разгубленая недарэчнасць. Як пры сустрэчы з колішнім і адзіным сябрам, якому калісьці бяздумна і паспешліва здрадзіў... "Ты хто?" — "А ты?" — "Чалавек!" — "Дружа-а, калі ж гэта было!" — "Ды не, усё наладзіцца, усё вернецца..." — "Няўжо?.." Чыя з іх, небаракаў, праўда? Бясконцая, безвыніковая спрэчка з люстэркам...

А суседні пакой "выстрэльвае" барабанным пошчакам вар'яцкай музыкі. Аніяк не ў такт пахмурным ранішнім думкам. Сын, лёгка развітаўшыся са сном, радуецца разам з магнітафонам чарговому ранку. Абрыдлае ўзаеманепаразуменне! Ён, імгненна ўскіпаючы, ірве на сябе дзверы сынавай спальні. І зноў час напалохана спыняецца. А ён бачыць у вачах хлопца не страх (ох, як бы бацьку гэтага хацелася!), а здзіўленне і стомленую ўпартасць, які ў таго, што ў абрыдлым люстэрку. "Калі ты ўжо навучышся разумець мяне, сын!" — ледзьве не з крыкам ірвецца ён у безнадзейную педагагічную бойку. Адказ — як абухом па галаве: "А сапраўды, бацька, калі ты мяне гэтаму навучыш?"

Звычайны дзень, у якім людзі баяцца люстэркаў, уласных дзяцей, думак і мараў, пачынаецца. Колькі такіх дзён яшчэ ў Беларусі?

## Новае стагоддзе вачамі дзяцей:

### СПРОБА САЦЫЯЛАГІЧНАГА АПЫТАННЯ

Калісьці родная школа. Пакой-бытоўка, пераўтвораны мужчынамі-педагогамі ў курылку. Снежаньскі ранні надвячорак. За дзвярыма — цішыня, бо першы ўрок другой змены даўно распачаты.

— Ну і што благога ў тым, што дзеці нашы нас іншым разам не разумеюць? — задзірыста прымае позу глыбакадумнага лектара знаёмы настаўнік. — безумоўна, дэфект у бацькоўскім выхаванні відавочны. Але і гарантыя пры ўсім пры тым стопрацэнтная, што хоць і наробяць яны процьму памылак, якіх і бацькі іхнія ў свой час вышэй галавы нарабілі, але выпраўляць іх насуперак усяму не так будуць. Сам ведаеш, няма чаго з імі спрачацца. Бо хіба ж будзеш біцца з уласным ценем! Вучыць трэба, вочы на свет адкрываць, што б ні здаралася — узаемапаразуменне знаходзіць. Каб былі яны не проста разумнымі, якія ва ўсіх бедах толькі сябе абвінавачваюць, а сапраўды мудрымі, якія не абвінавачваннямі займаюцца, а свой свет будуюць. Упарта, мэтанакіравана, свядома.

— Ну дык твая праўда, — не задумваючыся, падхопліваю думку. — Старэе нацыя, усё больш хвароб яе апаноўвае, вымірае паціху. Забыўшыся на маладосць, толькі і робім, што з сабой не згаджаемся, уласныя болькі на дзяцей перакладваем, пакутуем без меры і прычыны і іх да таго ж прывучаем. Рабская філасофія! Нічога канструктыўнага, стваральнага, адно самаразбуральнае спрэс. Дык мо варта ўжо і да дзяцей прыслухацца, якія неўпрыкмет за нас разумнейшымі сталі?!.

Згаджаемся адзін з адным. Плануем гэткае імправізаванае сацыялагічнае апытанне ў межах некалькіх выпускных класаў. Пытанне — адно: якой бачыцца будучыня Бацькаўшчыны нашым дзецям?

*"Светлай і радаснай... Інакш і быць не можа. З эканомікай усё наладзіцца. Хоць і не ведаю як. Не дадзена, як гавораць, сярэднім розумам спасцігнуць тое, што зараз у нас "наверсе" робіцца. Няма жадання пакуль у палітыку лезці... Так, цудоўна ведаю, які заняпад зараз на Беларусі. Наркаманы, алкаголікі, маладыя злачынцы. Маральнае і фізічнае выміранне. Усё гэта, натуральна, палохае. Але пратэставаць у нас забаронена, а патрабаваць волі — тым болей. Аднак не ўсё кепска! Толькі б не разупэўніцца ва ўласных сілах і ўласнай геніяльнасці. Веру я, што ў сённяшніх ВНУ (а адукацыя ў нас, дзякуй Богу, еўрапейскага ўзроўню) вучыцца наш будучы прэзідэнт, прэзідэнт сапраўды незалежнай Беларусі..."*

— Вось табе і пазітыў з канструктывізмам, — адкладваючы сачыненне-анкету, смяецца педагог. — Ніякіх чорных думак! Безумоўна, не ведае дзяўчына, як усё павернецца, але досыць упэўненая, што абавязкова да лепшага. Пераканана ў геніяльнасці свайго пакалення. Максімалізм, узведзены да паталогіі? Ды не, аптымізм, якога нам зараз гэтак не стае. Так што не спрачацца з гэтымі дзецьмі трэба, а вучыцца ў іх, як жыццю радавацца. Нават такому, як на Беларусі нашай.

— А мо і не ў дзяўчыне справе? — заўзята спрачаюся з настаўнікам. — Яна зараз — як люстэрка бацькоў сваіх. Верыць пакуль свята ў тое, у чым яны ўпэўнены. А свайго погляду яшчэ, відаць, і няма... А вось гэты, хлопец, глядзі, занадта ўжо сумняваецца ва ўсім, з недаверам на свет пачынае пазіраць:

*"Беларусь даб'ецца сусветнага прызнання. Але на шляху ўрада нашага і народа — мноства перашкод у дасягненні гэтай мэты. У нас зараз эканамічны крызіс..."*

— І самае цікавае, спадар настаўнік, абзац гэты наш хлопец рашуча закрэслівае, а ўзамен вось што піша:

*"Лічу, што Беларусь знікне з палітычнай карты свету. Сённяшняе наша эканамічнае становішча жахлівае. Куды коцімся?! У якой краіне свету такое магчыма: людзі цэлы дзень праводзяць у чэргах за яйкамі? Беларусь сканае з-за ўласнага раўнадушша і кволасці. А яе "галоўны памочнік" — Расія — таксама ў безнадзейным крызісе..."*

— Дык у крызісе, напэўна, і сям'я хлопца гэтага, — нястомна разважае спадар настаўнік. — У нас колькі людзей, столькі і ўяўленняў аб будучыні Беларусі. Шкада, але раўнапраўна існуюць побач і дзяржава Лукашэнкі, і твая, і мая, і дзяржава вось гэтага хлопца, у якую ён не верыць, бо ўпарта пакуль не верыць у сябе. І гаворку зараз трэба весці не столькі пра дзяцей нашых, колькі, вобразна кажучы, пра дзяцей ідэі. Колькі разоў мы ўжо згаджаліся, што ідэі гэтай, нацыянальнай ды агульнай, — проста няма. Толькі персанальныя ды і тыя не ў кожнага. Вось і стракатасць у асэнсаванні шляху да свайго кроўнага... Згодны, дзеці — наша люстэрка, але да таго часу, пакуль укладваем мы ў іх толькі ўласнае, толькі шчырае, выпакутаванае, а не скрадзенае цішком пачуццё годнасці У адваротным выпадку ў адной сям'і жывуць-не ўжываюцца бацька-нацыяналіст, жонка-манархістка з камуністычным ухілам, дачка-сябра рускага нацыянальнага адзінства ды яшчэ цешча ў даважак - прыхільніца прэзідэнта, шчырага ды ўсенароднаабранага... І ў гэтым таксама свой сэнс. Усё ідзе, як наканавана. А выжывае душой і духам толькі той, хто хоча застацца чалавекам...

Анкеты... Анкеты... Анкеты... Стандартныя аркушы паперы, вырваныя з вучнёўскіх сшыткаў лісткі... Дзіцячы почырк. Там-сям — памылкі... не, пакуль, бадай, не жыццёвыя — арфаграфічныя. І зусім не яны прыцягваюць нашу ўвагу... Катэгарычныя надпісы "Жыве Беларусь!", нават паспешлівыя малюнкі бел-чырвона-белага штандара. На адным аркушы — гарачая падтрымка сённяшняй дзяржаўнай палітыкі, на другім — яе катэгарычнае непрыняцце. Але з кожнай старонкі — люстэркам мы: аднолькавыя і непадобныя, катэгарычныя і няўпэўненыя, жыццярадасныя і самотныя. Глядзім на сябе і спрачаемся самі з сабой, хоць і няма ў гэтым аніякага сэнсу. Ды — што з сабой зробіш? Спрэчка паміж бацькамі і дзецьмі спрадвечная і бясконцая, і пошук ісціны яе — як пошук сэнсу жыцця. Але ж, відаць, не шукаць яго трэба, марнуючы дарэмна дні, а проста жыць. Ламацца на гэтым, падаць, зноў падымацца, ісці далей, застаючыся самімі сабой. І не палохацца знячэўку ўласнага люстэркавага позірку: у ім хоць і пакамячаная, зашмальцаваная гадамі, але ўласная праўда. Не чужая, не суседская — уласная. І не баяцца позірку ўласных дзяцей: у іх вачах — мы самі, наш працяг, няхай пакутлівы, з першага погляду незразумелы, але ў любым выпадку — шчаслівы. Відаць, толькі так. А Беларусь была, ёсць і будзе. Як адзіная ў свеце матуля, яна даруе нам усё: і абыякавасць, і валацужнасць па чужых дварах у пошуках рубля, і нават здраду. Яна будзе чакаць нас, як маці, і будзе да апошняга верыць, што мы вернемся. Шчаслівымі і дужымі, мудрымі і пяшчотнымі...

Перагортваем лісты вучнёўскіх сшыткаў, заглядваем ва ўласныя душы, радуемся, калі пазнаём сябе, сумуем, калі гэта не ўдаецца, і спрачаемся, спрачаемся... Як гэта невыносна цяжка — быць разумным ды мудрым! А Беларусь чакае... І цудоўна, шаноўныя старшакласнікі, што не маўчыце вы зараз, а разважаеце на поўны голас, што не сляпыя вы — відушчыя, што не глухія вы — чуйныя!

*"Магчыма, няварта псаваць свае маладыя гады ў краіне без перспектыў, дзе матэрыяльнае пастаянна пераважае над духоўным, дзе пастаянна няма грошай на развіццё культуры і мастацтва, дзе такая "ўцечка" мазгоў... Але я веру ў Беларусь! Я тут жыву, буду жыць, таму павінен клапаціцца аб радзіме!"*

*"Так, у нас стане больш алкаголікаў (хоць гарэлка і падаржэла), стане больш наркаманаў і забойцаў. Магчыма, пачнецца вайна. Эканоміка як была недаразвітай, так недаразвітай і застанецца. Усё гэта будзе, калі мы перастанем верыць у сябе. Усё ў нашых руках, спадарове!"*

*"Шанцаў у маладых процьма. Кожны, каб стаць чалавекам, грамадзянінам, можа атрымаць дастойную адукацыю. Вось толькі б настаўнікі нашы не збеглі б за мяжу з-за жабрацкага ганебнага заробку."*

*"Калі бацькі не адолелі,дык, напэўна, наша пакаленне дасць нейкую надзею Беларусі..."*

*"І ніякіх падачак ад Захаду. Мы — гордыя! Самі выкараскаемся!"*

*"Уцякаць адсюль — не выйсце. Ці выжыве беларус без Беларусі?! Тут толькі адзіны шлях, пастарацца як мага хутчэй стаць беларусамі!"*

*"Наша будучыня залежыць ад сапраўды адукаваных разумных людзей. Як ні круці — ад нас. Ад нашых канкрэтных укладаў у культуру, мастацтва, калі спатрэбіцца — у палітыку."*

*"Няма сумневу, што адолеем мы эканамічны і палітычны крызіс. І жыццё народа нармалізуецца паступова. І ў мастацтве з'явяцца людзі, якія праславяць Беларусь на ўвесь свет. І стане яна адной з вядучых дзяржаў Еўропы, як і было гэта ў старадаўнасці. Ці ж вытрымаем мы, ці ж выжывем, калі будзем інакш думаць..."*

*"Я веру ў нашых людзей, у Беларусь, а значыць — і ў свае сілы."*

— Рассаднік нацыяналізму, дый годзе, — смяецца настаўнік. — Вось абвінавацяць нас з табой, што душы дзіцячыя калечым, настройваем маладзёнаў на немаведама што. "Пратэставаць у нас забаронена, а патрабаваць волі — тым болей..."

— Ды хто з іх, дружа, пратэстуе? Хто волі патрабуе? Як і мы, саракагадовыя, разабрацца жадаюць, што да чаго. Ты ў шаснаццаць гадоў, калі ў беларускай школе вучыўся, дзе ўсё па-руску выкладалася (нават мова родная), думаў вось так пра лёс Бацькаўшчыны? На першамайскіх дэманстрацыях партрэтам Брэжнева радасна памахваў! Як і я, зрэшты. А яны — думаюць! Да самастойнага жыцця прымяраюцца. Не ў італіях з германіямі, а ў роднай Беларусі! Ды што цябе пераконваць? Лепш за мяне гэта ведаеш, таму, хітраван, і радуешся...

— А чаго сумаваць? У дзетак гэтых вучыся. Аптымізму ім не займаць. Я вось думаю: мабыць, і не ад бацькоў ён пераняты. Не ад бацькоў, а — насуперак ім. На словах мяркуючы, упарта юнакі за сваё трымацца будуць... А ўвогуле, навязваць дзецям свой вопыт — проста амаральна, табе не здаецца? Усё роўна, як успамінаць беззваротнае ды няўдалае мінулае. Натуральна, раіць, пазітыўныя ўстаноўкі даваць, урэшце проста па-чалавечы, па-бацькоўску падтрымліваць — святы абавязак кожнага, хто зразумеў, што за кагосьці да свайго скону адказвае. Дзеці — не толькі ж наш адбітак (што за таптанне на месцы!), яны — лепшыя за нас. Не верац у тое, у што верылі мы, спадзяюцца на тое, у чым мы даўно расчараваліся. Што ў гэтым благога? Адным словам, лепшыя яны за нас, разумнейшыя, больш сумленныя. Інакш і сэнсу ў жыцці няма...

А я ўжо не слухаю знаёмага настаўніка. Ягонае ды ўласнае словаблудства дакучаюць. А мо крыўдна, што старэм? І ўсё, пра што так заўзята спрачаемся ды разважаем, ужо было. І будзе. Як услед за непаўторным днём — заўжды тужлівыя зацемкі, за заняпадам — росквіт, за здрадай — ачышчэнне. А нашы дзеці... Яны, сапраўды, не нашая ўласнасць. Дзеці ідэі, дзеці сваёй уласнай мары жыць дастойна, па-людску. Калі так ужо камусьці пажадана — дзеці разбэшчанасці, безыдэйнасці, зусім іншай маралі... Наркотыкі, раннія злачынствы, ваяўнічы нонканфармізм і маска знарочыстай абыякавасці. Малады народны фронт і Беларускі патрыятычны саюз... І ўсё насуперак не толькі нам, якія ў свой час таксама ішлі навобмацак, слухалі іншую музыку, спявалі іншыя песні і думалі не так, як нашы бацькі і дзяды. Усё насуперак яшчэ і сабе, бо надакучыла быць рабамі, марыянеткамі ў не вельмі чыстых руках махляроў-палітыкаў. І ўсяму гэтаму доўжыцца, пакуль жывём. І кожны раз бацькоўская думка-выснова, як пакутлівае першаадкрыццё, мае дзеці — зусім не мае, я магу прапанаваць ім сваю любоў, але не свае думкі, бо думкі ў іх заўжды ўласныя, я магу паспрабаваць быць такім, як яны, але не дай мне Бог спрабаваць перарабіць іх на свой капыл. Жыццё не вяртаецца назад нават на Беларусі, яна не спыняецца на ўчарашнім. І хто возьме на сябе адказнасць асуджаць ці матывавана абвяргаць вось гэтыя дзіцячыя думкі, у якіх — і незагойны недавер, і крыўда, і вечны дакор нам, не вельмі разумным і зусім непрадбачлівым,

*"Я не бачу святла ў канцы тунеля..."*

*"Кепска жывём! Хто вінаваты? Ды ўсе мы! Будучай Беларуссю будзе кіраваць новы прэзідэнт. Магчыма, Пазняк, які ўпарта настройвае моладзь супраць цяперашняй дзяржаўнай палітыкі. Але ці ёсць гарантыя, што і ён не пачне здзекавацца з беднай дзяржавы? Ці ёсць гарантыя, што гэты кругазварот здрадніцтва на Беларусі не вечны? Відаць, гарантыю гэтую зможам даць Бацькаўшчыне толькі мы — маладыя... А раптам не здолеем, як і нашы бацькі?!"*

*"Беларусь на сёння амаль цалкам залежыць ад Расіі. А ў будучыню суседа я не веру. Кіруе расіянамі другі Брэжнеў, ды яшчэ і схільны да алкаголю. Беларусь, мабыць, і змагла б стаць на ногі самастойна, ды толькі няма ў нас ні газу, ні вугалю, ні нафты, а на трактарах і бульбе з нішчымніцы не выбрацца. Застаецца спадзявацца на нашага прэзідэнта, які, як мне здаецца, шчыра спрабуе дабіцца дабрабыту сваёй дзяржавы..."*

*"А я не веру свайму прэзідэнту! Няўжо ў тым, што мы жывём так кепска, вінаваты толькі народ, толькі мой тата і мая мама, якіх я амаль не бачу днямі, бо працуюць яны суткамі дзеля таго, каб я выглядала не горшай за іншых. Так, яны не маюць часу, каб выхоўваць мяне, каб гаварыць са мной па душах, каб пераконваць мяне ў тым, што чалавек нараджаецца не для пакут, а для шчасця. Дый непатрэбна мне ўжо гэта! Мо таму я такая благая? Але ведаю, што лепей за маіх бацькоў няма нікога ў свеце! Хоць і не здолелі яны зрабіць дзяржаву шчаслівай для ўсіх, хоць і пакутуюць яны, забыўшыся з-за пошукаў грошай на ўласнае прызванне, забыўшыся на саміх сябе..."*

*"Толькі цуд можа выратаваць Беларусь! Цікава, ці здольныя мы яшчэ на цуд?"*

*"Мы павінны ўсё рабіць для таго, каб была наша Беларусь сапраўды незалежнай. Не зробім, дык дзеці нашы нас проста не зразумеюць..."*

Мы стаміліся. Мы моўчкі курым. Нам не стае ўласнае душы, каб увабраць у сябе і зразумець хаця б крыху душы дзіцячыя. І ці маем мы ўвогуле на гэта права? Мы спрабуем быць такімі, як яны. Атрымліваецца кепска. Выходзім з сябе, і імкнёмся зрабіць іх такімі, як мы. У выніку ў горшы бок мяняемся толькі самі. І вось гэтая імправізаваная спроба сацыялагічнага апытання таксама яўна няўдалая. Бо проста немагчыма прыйсці тут да нейкай адзінай педагагічнай высновы з пераканаўчымі лічбамі працэнтаў "за" і "супраць", з нейкімі супакаяльнымі псіхалагічнымі прагнозамі і рэкамендацыямі. Дый няма ніякага жадання.

На настаўніцкім стале — россып лісткоў і сшыткаў. Дзіцячыя душы, і ў кожнай, як у чыстым люстэрку — будучыня Бацькаўшчыны, будучыня нашых унукаў і праўнукаў. Мабыць, зноў памылковая, але ўсё ж — будучыня. Ці знойдзецца ў ёй месца для нас, для тых, каму зараз сорак, пяцьдзесят, хто не плануе сваіх памылак, але чамусьці пастаянна іх робіць пры жыццёвым планаванні?..

Школьныя калідоры выбухаюць перапынкам, жыццярадасна звіняць дзіцячым розгаласам. У нашу курылку зняцку залятае расчырванелы і шчаслівы шасцікласнік Міколка. Той, у якога я год назад вёў родную

*(Працяг на стар. 12)*




## ЧАСАПІС

## “Адвечны водгук праўды, волі”



**30 лістапада ў Доме літаратара адбыўся вечар, прысвечаны 75-годдзю паэмы Якуба Коласа “Новая зямля”. Ладзілі яго літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа і Саюз пісьменнікаў.**

**У вечары прынялі ўдзел дырэктар музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская, пісьменнік Анатоль Жук, спявак Іван Краснадубскі, літаратуразнавец Міхась Мушынскі, заслужаная артыстка Беларусі Тацццяна Мархель і інш. Прысутнічаў і Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч, сын песняра, а вяла вечар пісьменніца Вольга Іпатава. Усе яны гаварылі пра “Новую зямлю”, пра яе значэнне ў нашай літаратуры і жыцці.**

**М.Мушынскі так сказаў пра “Новую зямлю”: “Гэта кніга гаворыць нам аб мінулым і малюе будучае”. А.Жук адзначыў, што гэтая паэма — філасофія жыцця і смерці, філасофія прыроды.**

**Шмат гаварылі і пра самога стваральніка неўміручага твора беларускай літаратуры. Т.Мархель так сказала пра Якуба Коласа: “Якуб Колас ёсць тое, што мы нясём у сваіх сэрцах”.**

**Цудоўна выступіў самадзейны артыст Язэп Гарэцкі; які з непаўторным запалам чытаў урывак “Дзядзька-кухар”.**

**А ў заключэнне вечара перад гледачамі выступіў ансамбль “Мінскі гармонік”, які яшчэ раз падкрэсліў святочны настрой ва ўсёй зале.**

**Мне і маім аднакласнікам надоўга запомніцца гэты вечар. І неадночы на ўроках беларускай літаратуры будзем прыгадваць словы выступоўцаў, цытаваць радкі бессмяротнай паэмы.**

**Алесь ГАРБАЦЭВІЧ,**
**вучань 98-ай школы горада Мінска**

*Фота Сяргея ЛУК’ЯНАВА*

## А ў “Здабытках”...

**“Здабыткі” — так называецца зборнік, якому дае жыццё Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Нядаўна пабачыў свет яго трэці выпуск. Змест склалі матэрыялы секцыі “Гістарычныя кнігазборы Беларусі” Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі “Бібліятэка ў сучаснай інфармацыйнай прасторы”, прысвечанай 75-годдзю НББ, што была праведзена 24 кастрычніка 1997 года. Паколькі шырока пра работу гэтага даследчыцкага форуму не паведамлялася, ёсць падставы падрабязней спыніцца на гэтым выпуску “Здабыткаў”.**

**Матэрыялы, змешчаныя ў ім (а гэта даклады і паведамленні, якія былі прачытаны на секцыі), тычацца праблематыкі дакументальных помнікаў на Беларусі, тэарэтычных пытанняў кнігазнаўства, гісторыі кніг і бібліятэк і іншых пытанняў.**

**Уяўленне аб змесце можна атрымаць па назвах матэрыялаў. Адкрываецца выпуск дакладам загадчыка аддзела рукапісаў, рэдкай кнігі і старадрукаў НББ Т. Рошчынай “Бібліяграфічная рэканструкцыя беларускіх гістарычных кнігазбораў”. Далей ідуць матэрыялы: “Кніжныя зборы Радзівілаў. Гісторыя даследаванняў у Польшчы” З. Ярашэвіча-Пераслаўцава, “Калекцыя “Бібліятэка Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў” у фондах Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь” В. Герасімава, “Экслібрысы бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў у фондах ЦНБ НАН Беларусі” А. Стэфановіча, “Старажытныя славянскія кнігі з бібліятэк Беларусі” В. Пуцко, “Кніжныя зборы Супрасльскага Благавешчанскага манастыра (XV—XIX стст.)” Л. Шчавінскай і Ю. Лабынцава.**

**Зацікаваць як знаўцаў, так і аматараў літаратуры і матэрыялы: “Да гісторыі кнігазбору Пуслоўсіх” В. Шоцік, “Кніжная культура Веткі” С. Лявонцьевай, “Мінскія кнігазборы XIX стагоддзя” Л. Жоўнар, “Міхась Мялешка і яго бібліятэка” В. Скалабана, “Раскрываючы дужкі... Пра кнігазбор Кастуся Езавітава” А. Каўкі, “Аўтографы і дароўчыя надпісы на кнігах з даваенных фондаў аддзела беларускай літаратуры Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі” Л. Сільновай...**

КНІГАРНЯ

# Каваль Сілуян, Багуслава, Хлеўнік і іншыя

Даўно не надаралася напаткаць такую цікавую кнігу казак. Купіў яе дзецям, але перагарнуў старонку-другую і — захапіўся сам, неўпрыкмет прачытаў ад пачатку да канца. І дзеці засталіся ў захапленні і паклалі кніжку Георгія Марчука “Чужое багацце” (а гэта пра яе гаворка) на паліцу сваіх найбольш любімых. І невыпадкова. Г. Марчук, які даўно працуе ў гэтым жанры (дагэтуль выйшлі кнігі “Жылі-былі дзед Васільчык і баба Кацярына”, “Казкі”, шэраг п’ес-казак сталі спектаклямі), добра ведае псіхалогію малых, а яшчэ — добра разумее законы жанру. Як вядома, любая казка (і народная, і так званая аўтарская) толькі тады прыцягне ўвагу, калі яна мае дынамічны, займальны, з нечаканымі паваротамі сюжэт, а да ўсяго ў ёй ёсць і героі, якія сваім знешнім выглядам і сваімі паводзінамі, характарамі не падобныя на іншых.

З шэрагу такіх персанажаў — Хлеўнік з казкі “Каваль Сілуян і злы дух”. Праўда, паколькі дзеянне ў творы адбываецца ў наш час, “у вёсачцы за Давыд-Гарадком, удалечыні ад вялікіх гарадоў, аэрадромаў і вакзалаў... за сямю лясамі, трыма балотамі, куды не вядуць мінская, кіеўская і варшаўская дарогі...”, дык і Хлеўнік, хоць і жыў у хляве, але “у асобным пакойчыку з ложкам і тэлевізарам”. А ў астатнім ён вельмі падобны на ўсіх адмоўных герояў, з якімі дзеці добра знаёмы па іншых казках: не любіў мыцца і стрыгчыся, заўсёды быў незадаволены нечым, насіў пры сабе розныя ключы, замкі. І, канечне ж, хацеў разбагацець.

Багатая фантазія падказала Г. Марчуку і яшчэ аднаго арыгінальнага персанажа — “незнаёмца з чужым імем Буфо”. Гэты дык Хлеўніка ва ўсім абышоў! Бо калі Хлеўнік — нягоднік, так бы мовіць, мясцовага значэння, дык Буфо — з больш шырокім размахам дзейнасці. Каб разбагацець, ён абяцае тым, хто паверыў яму, паездку за мяжу: ці то ў Амерыку, ці то ў Канаду. Не абышлося ў творы і без традыцыйных персанажаў — Каровы, Каня, Авечкі, Казы. А сюжэт — надзіва выйгрышны. Станоўчыя героі, а імі найперш з’яўляюцца каваль Сілуян і яго каханая дзяўчына-сірата Багуслава, трапляюць у самыя неверагодныя сітуацыі, а правільней пасткі, якія раз-пораз расстаўляюць на іх шляху Буфо і яго памагаты Хлеўнік.

Казка “Каваль Сілуян і злы дух” нясе ў сабе важны выхаваўчы момант. Знаёмячыся з творам, юныя чытачы пераконваюцца, што толькі ў добрым хаўрусе і згодзе можна перамагчы зло і падман, а дзейнічаючы рашуча, смела — выйсці пераможцам з самых складаных варункаў. Г. Марчук менш за ўсё схільны быць дыдактычным, ён перш за ўсё выступае ў ролі старэйшага таварыша і настаўніка. І ён жа, зразумела, не абмінае магчымасці правесці асноўную думку, што становіцца ў казцы свайго роду ідэяй: абагульняючы сэнс набывае вобраз замка шчасця, ключы ад якога трэба хаваць. Імі спрабуюць завалодаць Буфо з Хлеўнікам. І не без поспеху, але — надоўга цешацца сваёй уладай.

Тэматычна блізкая гэтай казцы і тая, што дала назву кнізе. Праўда, у гэтым творы, у параўнанні з першым, часавыя паняцці больш змешчаны. З аднаго боку — усе атрыбуты

ЧАСОПІСЫ

# “Рабі тое, што сёння патрэбна людзям”

Герой восьмага нумара “Крыніцы” — канечне ж, У.Дамашэвіч. Сцвярджаючы гэта, не збіраюся прыўмяншаць значнасць індывідуальнасці іншых аўтараў, прадстаўленых на яе старонках. І ўсё ж найперш — У. Дамашэвіч. Ён з тых літаратараў, хто і ў так званыя “застойныя часы” смела рэзаў праўду-матку ў вочы, не зважаючы на чыны і пасады, адстойваючы беларускасць, змагаючыся за Беларусь. І вось прыйшла ў “Крыніцы” чарга і да Уладзіміра Максімавіча паўстаць во ўвесь творчы, а мо правільней сказаць — грамадзянскі рост.

У гэтым упэўніваешся ўжо, знаёмячыся з гутаркай Л.Галубовіча з У.Дамашэвічам. Абодва субяседнікі выглядаюць годна. І пытанні — не “аб’езджаныя”, і адказы адпаведныя, якія нярэдка пераўтвараюцца ў, няхай і кароткі, маналог: “Я ўсё жыццё пратэставаў супраць няпраўды і несправядлівасці, гэтую рысу я перадаваў і героям сваіх апавяданняў і аповесцяў. Мо гэта часам патанала ў нагрувашчванні бытавых рэаліяў, дэталяў другога плана, але ў аснове ў мяне — пошукі дарогі да праўды, асуджэнне гвалту над чалавекам, супрацьленне гэтаму гвалту, асуджэнне яго як ганебнай з’явы чалавечага жыцця. А калі браць шырэй, то задача літаратуры — абуджаць у чалавеку ўсе лепшыя пачуцці, ачышчаць яго душу ад бруду, ад усіх цяжкіх грахоў і хвароб, якімі хварэе і доўга будзе хварэць чалавек. Некаторыя кажуць, што літаратура нічога не павінна, але я з гэтым не згодзен. Раз ты стаў пісьменнікам, дык не патрэць свой дар на глупства, на дрындушкі, на падманкі, а рабі тое, што сёння патрэбна людзям. А ім патрэбна разумнае, мудрае слова, якое памагала б жыць, працаваць, бачыць далей і глыбей”.

А як У.Дамашэвіч рабіў тое, што “сёння патрэбна людзям”, відаць з тэкстаў яго выступленняў у абарону беларускасці. Першае з іх мае назву “Гутарка з блудным сынам” і адбылося яшчэ ў кастрычніку 1968 года на пленуме СП БССР. Змешчаны таксама выступленні на IX з’ездзе пісьменнікаў Беларусі 24 красавіка 1986 года (у перакладзе на рускую мову было паслана разам з лістом тадышняму Генеральнаму сакратару ЦК КПСС М.Гарбачову), на пленуме СП БССР у красавіку 1987 года і на X з’ездзе пісьменнікаў 25 красавіка 1990 года. Заклапочаны роздум пісьменніка-грамадзяніна ахоплівае перыяд у больш чым 30 гадоў. Канечне, на прамовах ляжыць адбітак свайго часу. Для прыкладу, у 1968 годзе У.Дамашэвіч, выказваючы заклапочанасць станам беларускай мовы ў рэспубліцы, не мог не апеляваць да “кіруючай сілы” — кампартыі, уносячы ў свае развагі як бы карэктывы: “Відаць, у нас уся бяда ў тым, што ёсць пэўная катэгорыя людзей, якія не толькі “ідуць” у нагу з сучаснасцю, але і, як бы сказаць, “апярэджваюць” яе. Яны гатовы спешным маршам ісці ў камунізм і, безумоўна, гаварыць па-руску. Бо што ты за камуніст, калі ты гаворыш на нейкай другой мове?.. Мне здаецца, што адно і другое вельмі добра можна спалучыць: быць адначасова рускім і камуністам, палякам і камуністам, беларусам і камуністам. Больш таго, нацыянальная адзнака, як паказаў час, застаецца трывалейшай: кітайцы не перасталі быць кітайцамі, аднак яшчэ невядома, ці яны камуністы”. І гэтаксама У. Дамашэвіч не мог не спрабаваць пазнаёміць са сваімі развагамі М.Гарбачова. Выкарыстоўваў любую магчымасць, каб дайшло да вышэйшых інстанцый тое, што болем адзывалася ў сэрцы, не давала спакою. Але ці быў пачуты?! Пачуць дык пачулі, ды, зразумела, не так, як хацелася б. А ў выніку асобныя творы У.Дамашэвіча, каб стаць кнігай, у выдавецтве чакалі сваёй чаргі добрых дзесятак гадоў. Ды і словы ў абарону беларускай мовы, калі і былі пачуты, дык толькі тымі, хто ў гэты час знаходзіўся ў зале. Ды і сярод калег-пісьменнікаў былі ахвочыя здзівіцца: маўляў, і навошта яму ўсё гэта трэба, дзівак-чалавек! А гаворкі аб тым, каб выступленні былі апублікаваны, і ісці не магло. Больш таго, яны, за рэдкім выключэннем, не падаваліся і ў перакладзе ў справаздачах са згаданых мерапрыемстваў.

Воблік У.Дамашэвіча — пісьменніка, грамадзяніна, чалавека — паўстае са сведчанняў тых, хто яго добра ведае, ці тых, хто дзякуючы Уладзіміру Максімавічу атрымаў падтрымку, калі на шляху ў літаратуру рабіў першыя крокі (У.Дамашэвіч, як вядома, даў пуцёўку ў літаратуру многім сёння вядомым пісьменнікам). Характэрныя назвы згадак: “Беларус”, “Рэдактар”, “Адзінаборац з плынню”, “Чалавек”, “Чалавек як твор”, “Годнасць”. Пішуць пра У.Дамашэвіча Л. Галубовіч, А.Федарэнка, Ю.Станкевіч, А.Наварыч, Г.Шупенька, С.Андраюк. Як, у сувязі з гэтым, не пагадзіцца з С.Андраюком: “Увогуле ж у асобе Дамашэвіча мы бачым шчасліваее яднанне чалавечага і творчага лёсу, рэдкую духоўную цэласнасць. Творчасць ягоная, як ідзі пацверджаны жыццём. Любоў да Радзімы, да людзей, сумленнасць, прынцыповасць, шчырасць заўсёды ціаніліся і цэняцца і ў жыцці, і ў літаратуры”.

З “замежнікаў” у нумары найперш прыцягвае ўвагу Ш.Бадлер. Зноў жа — з развагамі пра яго і з перакладамі з кніг “Краскі зла” і “Маленькія паэмы прозай”. У некалькіх радках сказаць пра Ш.Бадлера — па сутнасці, нічога не сказаць. Таму застаецца зазначыць, каб зацікавіць недасведчанага чытача, што гэты французскі паэт — з шэрагу творцаў, без якіх цяжка ўявіць сусветную літаратуру. І тады, калі ён пісаў (зямны шлях Ш.Бадлера абмежаваны 1821—1867 гадамі), і цяпер, калі з часу жыцця яго мінулася столькі гадоў...

Дзень сённяшні, вяртанне да вытокаў, да гістарычнай памяці праз прызму народнага светаўспрымання — у паэме В.Яраца “На крохкай крызе”. Паэт, задумваючыся над жыццём, па-свойму разважае пра лёс Бацькаўшчыны:

***Здалося ў сне маім: то крыгай***
***дрогкай, крохкай,***
***якой праз ноч плыву, праз боль людскі,***
***Айчыны светлы зруб***
***яшчэ без даху, крокваў***
***нясе пад ветрам плынь.***
***У акіян які?***

Пра лёс Беларусі, але і пра лёс усёй Зямлі, чалавецтва:

***Здалося ў сне маім:***
***то крыгаю Зямля уся***
***плыве ў сусвеце-космасе***
***без меж-граніц.***
***На мове на сваёй і я ў любові кляўся***
***ёй — хлебнай — у палях,***
***ёй — рыбнай — ля крыніц.***
***Здалося ў сне маім: той крыгай***
***крохкай, дрогкай***
***плыву праз ноч нявер’я***
***ў свет ранішні святла,***
***дзе чырвань неба шчодрай***
***густых праменняў гронкай***
***ахрысціць чалавека,***
***хмурыны зняўшы зла.***

З аповесцю-мрояй “Горад на востраве сноў” выступае Г.Багданава. У.Арлоў знаёміць з адным з прадстаўнікоў беларускай эміграцыі І.Касяком, якога чытач ведае па кнізе “Беларусь учора і сяння”, напісанай разам з Я.Найдзюком. У “Крыніцы” ж прапануюцца два першыя раздзелы з кнігі І.Касяка “З гісторыі Праваслаўнай царквы Беларускага народа”.

Часопіс распаўсюдзіў даволі арыгінальную анкету: “Адзін дзень майго жыцця: 14 траўня”. Засведчыць, чым быў гэты дзень памятны (ці звычайны) у іхнім жыцці, знайшлося нямала ахвочых. Змешчаны аповеды А.Каско, Л.Рублеўскай, В.Яраца, В. Акудовіча, З.Дудзюк, Р.Тармолы-Мірскага (вершаваны), Н.Мацяш, Я.Гучка, В.Шніпа, В.Жыбуля, З.Вішнёва, Дз.Падбярэзскага, С.Мінскевіча, А.Станюты. Адказы, зразумела, розныя. Розніцца яны і памерам, а галоўнае — зместам. Ёсць звычайныя сведчанні, ёсць спробы публіцыстычных разваг, нярэдка прысутнічае роздум над жыццём, сітуацыяй у краіне ўвогуле — і гэта апраўдана, нельга ж асобны дзень цалкам выхапіць з плыні паўсядзённасці. Аднаму з аўтараў пасля пісьменніцкага з’езда нават прысніўся новы старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў У.Някляеў разам з І.Лучанком. Знаходзіць гэты аўтар усяму і пэўнае вытлумачэнне: “выпіваць трэба менш...” Магчыма, і так. Па сабе мяркую. Гэтыя развагі пісаліся пасля чарговага пасяджэння рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, на якім абмяркоўвалася кандыдатура новага рэдактара “ЛіМа”. Дык чамусьці мне не прысніўся ні цяперашні галоўны, ні новы. Відаць, таму, што апошнім часам амаль не п’ю.

**Антось НІЧЫПАРУК**

ПРОЗА

Лілія САЗАНАВЕЦ



# ТРЫ АБРАЗКІ

## Наказ сыну

Не падабаюцца нешта мне адносіны, якія склаліся ў класе, дзе вучыцца мой старэйшы сын-пяцікласнік. Кожны дзень то бойкі, то нейкія разборкі. Нібыта не дзеці вучацца, а нейкія мафіёзі. Мой сын таксама амаль штодня прыходзіць дахаты то з разбітым носам, то з падранаю кашуляй. Няма спакою нам, бацькам, з нашымі нашчадкамі! А пра класную кіраўніцу і гаварыць няма чаго. Ёй патрэбна малако прапісваць за шкодныя ўмовы працы. І галоўнае, што ні бацькі, ні тым больш класная ніяк не могуць знайсці прычыну такіх паводзін нашых дзяцей. Калі я пачынала распытваць сына, з якой нагоды яму сёння зноў расквасілі нос, аказвалася, што і прычыны ніякай не было. Сын не мог нічога растлумачыць. І не таму, што нешта ўтойваў ад мяне, а проста таму, што распавядаць не было аб чым, ні сын, ні ягоны крыўдзіцель не ведалі, чаго яны б'юцца.

І вось, седзячы неяк у фатэлі і ў чарговы раз рамантуючы сыну падраную кашулю, раптам мяне, як кажуць, "асяніла": ці не завёўся ў сынавым класе нехта шэранькі і непрыкметны, на каго ніхто ніколі не звяртае ўвагі? І гэты нехта, сам заўсёды застаючыся ў ценю, паціху падкідвае сваім аднакласнікам зярняты разладу. Прытым робіць гэта так памайстэрску, што тыя ягоныя аднакласнікі сварацца адзін з адным штодня і самі не ведаюць, а што гэта яны робяць. А ён, гэты нехта, сядзіць сабе ў куточку і ледзь не лопаецца ад задавальнення, калі бачыць, як караюць забіяк. Караюць іх заўсёды, бо б'юцца ж яны навідавоку ва ўсёй школы.

А потым мне прыйшла ў галаву іншая думка, ад якой аж но жудасна стала. А ці не мае мой сын "гонар" вучыцца разам з будучым дыктатарам? Даводзілася мне неяк чытаць жыццяпісы некаторых з іх: і рымскіх імператараў, і больш сучасных, кшталту Сталіна ці Гітлера. І зрабіла я для сябе высному: амаль усе яны, за выключэннем хіба што некаторых рымскіх імператараў, у дзяцінстве былі самымі што ні ёсць шэрымі мышанятамі. Іх не заўважалі! Да таго ж, у многіх з іх яшчэ і фізічныя заганы былі. З іх нават здзекаваліся. Сядзеў гэты будучы дыктатар, а пакуль што самы найнепрыкметнейшы вучань, недзе ззаду, назіраў за ўсімі, і нікому нават у галаву не прыходзіла, што ён не толькі назірае, але і ўсё запамінае. Усю крыўду, усю ганьбу, на яго калі-небудзь скіраваную. Запамінае ён і тых, хто, можа, ніколі не крыўдзіў яго, але быў разумнейшым, таленавіцейшым. Чорная зайздрасць паступова запаланяла сэрца. Вось ён ужо адпомсціць усім, калі будзе мець калі-небудзь уладу ў руках! І што самае жудаснае: такі вось нехта непрыкметны заўсёды тую ўладу атрымлівае, бо хто прагне, той і мае. І вось тады наставаў ягоны час! Нібы мятлою вымяталіся кудысьці ў невядомасць усе ягоныя колішнія крыўдзіцелі. А з імі разам і ўсе разумнікі, якіх так некалі хвалілі настаўнікі. Настаўнікаў таксама можна ў расход, бо яшчэ прыпамятаюць калі-небудзь, якім недарэкам быў у свой час цяперашні ўладар.

Падумалася мне гэта, і вельмі захацелася падысці да сына і сказаць: "Сыночак, не высоўвайся! Не будзь, крый Божа, занадта разумным, занадта таленавітым! Памятай, недзе там, за апошняю партаю, у самым куточку сядзіць нехта непрыкметны і шэранькі".

## Ура!

Мая дачушка Марынка проста ў захапленні ад французскага серыяла "Элен і хлопцы". Прыбегшы са школы, кідае свой рукзачок у кут, сядае каля тэлевізара і — мне з кухні чуваць толькі яе залівісты смех. Я таксама колькі разоў адрывалася ад сваіх клопатаў і разам з дачкою перажывала турботы студэнтаў з Сарбоны.

Аднойчы, пасля чарговай серыі, Марынка спытала ў мяне: "Мама, а калі ты вучылася ў інстытуце, было гэтаксама весела? Раскажы пра які-небудзь смешны выпадак". Стараючыся прыпомніць штосьці-небудзь вясёлае, я чамусьці ўспомніла, як нас, студэнтаў фізфака, рыхтавалі на першым курсе да лістападаўскай дэманстрацыі. Мая дачка зараз ведае, што калі дэманстрацыя, то гэта знак якога-небудзь пратэсту. А ў гады майго студэнцтва дэманстрацыя была звычайнай справай. 7 лістапада, 1 ды 9 мая дэманстрацыя была абавязковай. Ну, а хто зробіць масавасць на ёй, вядома — студэнты!

За колькі тыдняў да дэманстрацыі дэкан факультэта папярэджваў, што той, каго не будзе на ёй, у інстытут можа не вяртацца. Мы павінны былі не проста прайсці патрэбны адрэзак, несучы хто сцяжок, хто кветкі, хто які-небудзь лозунг. Галоўнае — у патрэбны час і ў патрэбным месцы трэба было адным духам крыкнуць гучнае: "Ура!" Менавіта дзеля гэтага "Ура!" нашыя заняткі, лекцыі, лабараторныя ды семінары, — усё адступала на другі план. На першым была рэпетыцыя, каб правільна пракрычаць тое "Ура!". Нас, маладых ды здаровых, з самай раніцы збіралі за будынкам інстытута на спартыўнай пляцоўцы, выстройвалі ў шарэнгу і загадвалі маршыраваць. Праз пэўныя прамежкі часу, вядомы толькі нашаму фізруку, па ягоным знаку мы ўсе ў адзін момант і на ўсю моц раўлі: "Ура!"

Эфект атрымоўваўся неапісальны. Ад нашага індзейскага воклічу ў суседніх дамах звінела шкло ў шыбах, у хімічных лабараторыях школ, казалі, хутчэй праходзілі рэакцыі.

Дачка рагатала пасля майго аповеду нават больш, чым ад прыгодаў французскай студэнткі Лалі. Упаўшы на канапу і закінуўшы на спінку ногі, што ў яе было верхам задавальнення, Марынка рагатала на ўсю кватэру. А мне было сумна, бо я ведала, што гісторыя перыядычна паўтараецца. І даволі часта мы робім тое, з чаго нашыя нашчадкі ў лепшым выпадку — пасмяюцца з нас.

## Прысцібка

Настрой у вахцёра Шалуды (маёра ў адстаўцы) ужо зранку быў кепскі. А тут яшчэ на дзяжурстве трэба цэлы дзень адседзець! Пасля ўчарашняй гулянкі ў суседа галава была, нібы перапоўненая бочка: вось-вось лопне. Шалуда, крэкчучы, нагнуўся, адчыніў шафу і выцягнуў пачатую пляшку. Наліў у шклянку і каўтнуў. Настрой трохі палепшаў. Схаваўшы бутэльку назад у шафу, Шалуда разгарнуў газету і запаліў настольную лямпу — прыступіў да выканання абавязкаў.

І ўсё было б добра, калі б у гэты час з другога паверха не спусцілася жыхарка Мярэжка. Яна падышла да дошкі аб'яў і пачала чытаць прымацаваную прысцібкамі газету. Яна была прымацавана няўдала — адзін ражок яе загарнуўся. А дзяўчыне якраз там патрэбна было штосьці прачытаць.

Яна асцярожна пачала адгортваць ражок. І трэба ж было здарыцца такой недарэчнасці: адна з прысцібак адскочыла і ўпала. Шалуда ўскочыў са свайго месца, як апалены, і залямантаваў:

— Мярэжка! Што ты нарабіла? Прысцібка адвалілася? Упала долу?

— Не хвалюйцеся, Васіль Міхайлавіч! Знайду я вашу прысцібку.

— Вось і шукай! Яна, можа, закацілася пад канапу!

На лямант Шалуды збегліся ўсе жыхары першага паверха. Наўколенцах поўзалі яны па вестыбюлі, шукаючы злашчасную прысцібку. А яна і сапраўды некуды закацілася. Шалуда лямантаваў немым голасам:

— Ва ўсім патрэбен парадак! Дзе прысцібка? Шукайце!

Гэтая гісторыя доўжылася б немаведама колькі, калі б жыхар першага паверха Перапечка не прынёс і не высыпаў на шалудаўскі стол ажно цэлую жменю прысцібак.

Цішыня і парадак у адным з інтэрнатаў нашага горада былі зноў устаноўлены. Парадак, як кажа вахцёр Шалуда, павінен быць у першую чаргу, а потым — усё астатняе. У тым ліку і душэўны спакой нашых людзей.

Аляксандр КРЫВАНОС



# КАШМАР

АПАВЯДАННЕ

Бой скончыўся. Ніякага бою не было. Расстраляная калона. Сажа ад пакрышак, што гараць. Сонца. Горача. Піць. Вада быццам мача: цёплая і смярдзючая. Ранены Навахрэстаў каля скальнага зрэзу. Перавязаныя грудзі, зрашэчаныя, як бляшана кансерваў, што са споду набітая цвіком. Тонкія губы чарнеюць над падбародкам. Уздрыгваюць і шавеляцца, нібы шнуркі на чаравіках у нейкага старога адстаўнога акцёра, які павольна набліжаецца да вас у жудасным сне з удзячнай усмешкай упэўненага ў вашым злачынстве суддзі.

"...яна вельмі прыгожая. І я не ведаю... як можна паміраць з такім пачуццём. А, можа, так і трэба паміраць? Ты..."

..Яна прыгожая. Напэўна. Як Аля. Вельмі. Аля. Адбітак у цьмянай памяці — быццам след чаравіка ў размяклай, усыпанай рознакаляровым лісцем глебе. Аля... Увільготненыя ломаныя губы ў бляклым святле начнога ліхтара. Апошняе шчасліва сонца Анапы. Ліст, з якога вокамгненна, як толькі вочы дакрануліся да першых радкоў, пачаў павольна вылятаць яе расплывісты вобраз, які ператварыўся ў фантом, да жаху знявечаны звычайным сэнсам: замужжа, цяжарнасць. Аля...

"Бічугоў... Ты чуеш, Бічугоў..."

Навахрэстаў аблізнуў сухія губы, паспрабаваў нешта вымавіць, але я спыніў яго:

"Пацярпі, Хрэст. Зараз мы цябе ў шпіталь..."

У шпіталь... шпіталь... Так, безумоўна, у шпіталь... Які шпіталь. Пакуль яны там разбяруцца ў часці, ачухаюцца.

Жоўтае, бязлітаснае сонца. Глыбокае пустыннае неба. Старлей каля стальнога сейфа, распатрошанага ўзрыўной хваляй. Тупа распячатвае пакеты. Асобай важнасці. Сакрэтна. Зусім сакрэтна. Чытае. Кідае ў агонь. Абкурыўся. Касяк за касяком. Гашыш. Шмат. Зрэнкі, звужаныя да кончыка іголкі. Скула з рваным шрамам.

"Мне ўсё роўна канец. Не... Прыкрый мяне лепш ад сонца..."

Брудны бінт я намачыў з флягі цёплым адварам вярблюджай калючкі, паклаў яму на лоб. Сцягнуў потную зашмальцаваную фланку, накінуў на каркас з двух аўтаматаў, скрыжаваных над ім. Згару жыўцом. Ён да таго памрэ. Сонца...

"Я табе больш нічога не скажу, — сказаў ён. — Я хачу панесці з сабою хоць што-небудзь... Чуеш?"

"Чую, Хрэст, чую. Ты толькі пацярпі. Ты яшчэ ўбачыш яе".

Сутаргавае глытанне паветра. Божа, дапамажы яму і ўсім нам. Сонца вялізнае, бязлітаснае. Расплаўленая бронза — заліваецца ў рот чужаземцам.

Незямныя, пацьмянелыя, паміраючыя вочы. Бабуліны малітвы. Амулет (абразок, малітва, напісаная дарэвалюцыйным почыркам, засушаная кветачка чабору ў скураным мяшочку) зняты з грудзей і закапаны, каб ніхто не ўбачыў і не адабраў. Божа, даруй нам, грэшным!

"Там за скалой ляжыць Бугор. Я чуў... як ён ускрыкнуў. Ён што, ранены? Скажы яму... Ты ўсё ведаеш, ідзі..."

Я ўстаў.

"Ідзі... Я буду тут... Я пачую..."

Я абышоў скалу і, адвярнуўшыся ўбок, каб не бачыць таго, што раней было тварам Бугрова, стаў моцна, амаль звар'яцела гаварыць:

"Бугор, ты ўсё чуў, так? Хрэст на цябе зуба не мае..."

Я выцягнуў аўтамат з акасцянелых пальцаў Бугрова, абярнуўся: ззаду ў мяне стаяў старлей Калеснічэнка. Мазолістай шурпатай рукой ён страсянуў мяне за шыю:

"Мы ўсе тут звар'яцеем!"

Не хаваючы слёз, я глянуў яму ў вочы, абыякава кіўнуў галавой і накіраваўся да Навахрэстава. Старлей асцярожна крануў мяне за плячо.

"Не ідзі туды, Бічугоў, — сказаў ён. — Навахрэстаў памёр".

Чужое вялізнае сонца патанала ў сінечы незамутнёнага неба. Горы расколвалі далягляд, амаль зліваючыся з ім ля самых заснежаных зеленавата-іскрыстых вяршынь. Скура на спіне распаўзалася, як машыннае масла на бране БМП. Шырока расстаўляючы ногі, зампаліт павольна і ўладна ішоў уздоўж строю, уважліва разглядваючы голых да пояса маладых, выстраеных на развод.

Хрэст стаяў тварам да строю, уткнуўшыся доўгім перабітым носам у кволыя грудзі, густа засееныя прыпухлымі фіялетавымі плямамі. Побач з ім ляжалі прамасленыя фланкі маладых, скінутыя па загадзе зампаліта. Бугроў стаяў з левага фланга, нервова жаваў ніжнюю губу і наўмысна нахабна спудживым вокам касавурыўся ў яго бок.

Старлей Калеснічэнка мазолістай рукой страсянуў мяне за плячо:

"Ты ўсё ж такі скажаш, хто яго біў? Я пытаю, ты скажаш?"

Я скінуў з пляча руку старлея. Ён запытальна і злосна паглядзеў на мяне.

"Чакайце, — машынальна сказаў я і выйшаў са строю, — чакайце. Я хачу забраць у яго сваю фланку".

 ЧАСАПІС

## Беларускі цэнтр у Оршы

**Урачыстае адкрыццё культурна-асветніцкага цэнтра імя Караткевіча адбылося днямі ў Оршы ў звычайнай гарадской кватэры. У імпрэзе ўзяло ўдзел ля 30 асоб: жыхароў Оршы, Барані і Гомеля, тых, хто цікавіцца беларускай культурай у свеце, наведвальнікаў каталіцкай абшчыны горада, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, моладзі. Прысутнічалі, у прыватнасці, пробашч Аршанскага касцёла айцец Яраслаў Хыбза, начальнік штаба адной з вайсковых часцей Ігар Супаненка, бард Андрэй Мельнікаў і іншыя.**

**У склад культурна-асветніцкага цэнтра імя Караткевіча ўвайшлі бібліятэка беларускай кнігі і перыёдыкі, а таксама фанатэка беларускай музыкі. Любы наведвальнік цэнтра можа азнаёміцца з цікавымі для яго беларускімі тэкстамі і музыкай, перапісаць на тутэйшай тэхніцы патрэбныя аўдыёзапісы.**

**Культурна-асветніцкі цэнтр быў створаны намаганнямі сяброў Таварыства беларускай мовы: настаўніцы Ларысы Кудраўцавай, рабочага чыгункі Генадзя Шэпелева, тэхнолага АП "Орша" Аляксандра Ягорава і іншых аршанцаў, неабыякавых да праблем беларушчыны.**

**Ф. КМІТА**

## Фотападарунак з Швейцарыі

**У апошнія гады магілёўскія аматары прыгожага мелі магчымасць досыць часта знаёміцца з творчасцю замежных фотамастакоў. І ўсё гэта дзякуючы творчым кантактам фотамастакоў Беларускага клуба мастацкай фатаграфіі і народнага фотаклуба "Вясёлка" пры Магілёўскім гарадскім цэнтры культуры і адпачынку з зарубежнымі майстрамі святлапісу.**

**Вось і цяпер у выставачнай зале абласной арганізацыі Саюза мастакоў РБ працуе фотавыстава швейцарскага мастака Дэрэка Слэтэры, якая стала прыкметнай падзеяй у культурным жыцці горада.**

**Творчасць Д. Слэтэры, які нарадзіўся ў Оксфардзе (Вялікабрытанія), а зараз жыве ў Жэневе, вядомая ў многіх краінах свету. Ён з'яўляецца віцэ-прэзідэнтам Еўрапейскай фатаграфічнай асацыяцыі "Вобразы без межаў", членам Каралеўскага, Аўстралійскага, Амерыканскага фатаграфічных таварыстваў, Ірландскай і Пакістанскай фатаграфічных асацыяцый, ганаровым членам фатаграфічных таварыстваў Грузіі і Тайваня.**

**У прадстаўленай экспазіцыі Д. Слэтэры — лепшыя фотаздымкі, зробленыя ў час вандровак па розных кутках свету. Тут прырода і дзікі жывёльны свет. Сярод здымкаў найбольш цікавымі з'яўляюцца сюжэты з японскімі снежнымі макакамі, пінгвінамі з Антарктыды і птушкамі з Фалклендскіх астравоў. Акрамя гэтага, у калекцыі прадстаўлены як класічны партрэт, так і фатаграфічны эксперымент.**

**Творы з гэтай калекцыі неаднаразова з поспехам экспанаваліся ў шмат якіх салонах, бралі ўдзел у конкурсах фатаграфіі розных краін свету.**

**Валянціна БОНДАРАВА**

## Уладальніца Гран-пры



**Артыстка Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Галіна Букаціна — уладальніца Гран-пры за лепшае выкананне жаночай ролі (роля Галы ў спектаклі "Таму што люблю..." па п'есе Алены Паповай "Дзень карабля") на фестывалі беларускай драматургіі ў Бабруйску.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

МУЗЫКА

# "Мне дарагія ўсе, хто ў мяне вучыўся..."

***Не заўсёды мы, абцяжараныя штодзённымі клопатамі, задумваемся пра таго, хто побач з намі жыве і працуе, не заўсёды ўсведамляем значэнне чалавечых стасункаў і маштаб той асобы, з якой маем дачыненні. А між тым у чарадзе людзей сустракаюцца тыя адметныя, якія ўзбагачаюць наша жыццё і робяць яго больш асэнсаваным і значным. З такіх — педагогі, воляй сваёй прафесіі адказныя за будучыню. Калі прызванне педагога сумяшчаецца з маральнай вышынёй яго асабістага жыцця — тым мацней выхаваўчая сіла стасункаў з ім. Менавіта такая асоба Арыядны Мікалаеўны Гужалоўскай. Настаўніка па прызванні і Музыканта па духу і прафесіі.***

Служэнне музыцы, як вядома, вымагае велізарнай самаахвярнасці. Тонкая эфемерная матэрыя музычнага гучання — і проза жыцця, узнёслыя творчыя імпульсы — і клопат пра хлеб надзённы — спрадвечныя парадоксы быцця музыкантаў. І не для ўсіх Муза здольная зацямніць штодзённы побыт. Але для такіх людзей, як А. Гужалоўская, яе прыярытэт сярод іншых жыццёвых каштоўнасцяў неаспрэчны. Гэта адчуваюць калегі — выкладчыкі Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі, і галоўнае — шматлікія вучні, удзячныя за незабыўныя гадзіны сустрэч з Арыяднай Мікалаеўнай.

Аблічча Арыядны Мікалаеўны Гужалоўскай, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, намесніка дырэктара каледжа, педагога з больш чым 35-гадовым стажам у сценах гэтай навучальнай установы адпавядае распаўсюджанаму ўяўленню пра патомную інтэлігентную асобу. Зграбная, дзелавітая, патрабавальная як адміністратар, чароўная крохкая жанчына, адухоўлены і цярплівы настаўнік са строга арганізаванай сістэмай ацэнак і меркаванняў пра музыку, фартэпіяннае выканальніцтва.

Характар яе фармаваўся ў сям'і адукаваных людзей, цаніцеляў мастацтва. "Сёстры маёй маці, Зінаіды Аўдзееўны Случэўскай, — успамінае А. Гужалоўская, — усе пявунні, нягледзячы на розны выбар жыццёвых шляхоў, яны вызначаліся музычнасцю і любоўю да спеваў, і толькі я адна стала прафесійным музыкантам". Сям'я жыла няпроста: дзед Арыядны Мікалаеўны, святар, быў рэпрэсіраваны ў 30-я гады. Але нязменная патрэба ў ведах, у інтэлектуальным і мастацкім развіцці



заставалася нормай сямейнага ўкладу.

Галоўным "шанцаваннем" свайго юнацтва А. Гужалоўская лічыць выдатных педагогаў, якія здолелі заўважыць і раскрыць яе музычны талент, удасканалены ў Маскоўскім музычна-педагагічным інстытуце імя Гнесіных. Сярод іх — С. Бумбрэх, Л. Нікалаеў, М. Брэнер, М. Юдзіна, І. Міхноўскі ды інш. Расказваючы пра сваіх настаўнікаў, яна пастаянна падкрэслівае не толькі іх прафесійныя вартасці, а і высокія чалавечыя якасці: адданасць вучню, адказнасць за сваю справу, прыстойнасць і культуру думкі. Ці не тое ж характэрна і ёй — у жыцці, у педагогіцы!

Арыядна Мікалаеўна любіць і разумее душу кожнага дзіцяці, якое прыходзіць да яе ў клас. Адораныя, але са сваімі асаблівымі праблемамі, часта неарганізаваныя, свавольнікі і гарэзы, псіхалагічна кволыя, якія нярэдка жывуць удалечыні ад сем'яў (у каледжы вучацца дзеці з усёй краіны, якія жывуць у інтэрнаце), — яны не проста казённыя вучні, а выхаванцы, якія атрымліваюць у Гужалоўскай трывалую духоўную базу і раскрываюць сваю індывідуальнасць з яе лепшых бакоў. Ёсць штосьці па-мацярынску цёплае ў гэтых дзівосных стасунках, але адначасова і этычна бескампраміснае ў высокіх патрабаваннях педагога да вучняў.

Многія выпускнікі класа Гужалоўскай — вядомыя сёння музыканты, лаўрэаты розных конкурсаў, салісты-піяністы, выкладчыкі, вучоныя-музыказнаўцы, якія захоўваюць цёплую прывязанасць да сваёй былой настаўніцы, часта наведваюць яе, дзеляцца сваімі навінамі. Сярод іх — саліст сталічнай філа-

ТЭАТР

# Два адценні кахання

I

"Нават разумны чалавек дурнее, калі закахаецца ў каго-небудзь. Што ж атрымліваецца, калі кахае дурань?" А атрымліваецца эксцэнтрычная камедыя пра грэкаў — так абазначаюць спектакль "Дурацкае каханне" яго стваральнікі з антрэпрызы "Віртуозы сцэны". Чаму "пра грэкаў"? Ды таму, што аўтар п'есы — Дзмітрый Псафас, адзін з лепшых грэчаскіх сучасных сатырыкаў. Акрамя таленавітага аўтара, "Дурацкаму каханню" пашанцавала і з перакладам. Аташэ грэчаскага пасольства на прэм'еры здзіўлялася: "Гэтага аўтара звычайна цяжка перакладаць. Неверагодна, але ў вас смяюцца на кожным слове!" Але несправядліва было б усе лаўры аддаваць толькі самой п'есе. Бо ў спектаклі шмат і акцёрскай, і рэжысёрскай дапрацоўкі. Ён дазваляе пахуліганіць, гэта бачна ўжо на прэм'ерных паказах. Здаецца, "Дурацкае каханне" чакае лёс знакамітай "Камедыі..." Уладзіміра Рудава, якая са студэнцкага дыпломнага спектакля ператварылася ў візітоўку некалі Альтэрнатыўнага, а потым Малога тэатра, і ўсё таму, што і рэжысёр, і аўтар не былі супраць "абрастання" спектакля акцёрскімі імправізацыямі і "мулькамі". У "Дурацкім каханні" дзякуючы акцёрскім "хаджэнням у народ" гульня пераходзіць у глядзельную залу, прычым робіцца гэта вельмі міла і ненадакучліва.

"Дурацкае каханне" — спектакль надзіва нязлосны, а гумар у ім зноў-такі надзіва не пошлы. Яго стваральнікі на чале з рэжысёрам Яўгенам Валабоевым (дарэчы, менавіта ён прапанаваў гэтую п'есу антрэпрызе) і прадзюсерам Уладзімірам Ушаковым перакананы, што тэатр не павінен "загружаць" чалавека — праблем і ўсемагчымага зла ў кожнага з нас у жыцці і без таго хапае. Глядач прыходзіць у тэатр па свята і "Віртуозы" лічаць сваім абавязкам яго забяспечыць. Можа, яшчэ не ўсё праходзіць так гладка, як таго хацелася б, але ж пакуль ідуць першыя прэм'ерныя паказы, пастаноўку трэба яшчэ "абкатаць", акцёры павінны звыкнуцца з ёю. Дарэчы, акцёрская каманда падабралася проста цудоўная. Хаця — не, падабралася — гэта памылкова, бо антрэпрыза ўласна праводзіць жорсткі адбор акцёраў па мінскіх тэатрах.

Галоўную ролю ў спектаклі сыграў Уладзімір Ушакоў. Для яго гэтая роля стала значнай праверкай на прафесійную годнасць пасля амаль што дзесяцігадовага перапынку ў акцёрскай дзейнасці. І ён гэтую праверку вытрымаў, хай і з дапамогай бясспрэчна выйгрышнай ролі. У яго выкананні Фамас — маленькі, нязграбны чалавек, тым не менш надзелены вялікай абаяльнасцю. Бедны Фамас! Ён доўгі час закаханы ў жанчыну, якая пагарджае ім і выкарыстоўвае ва ўласных мэтах. Хто ж яшчэ згодзіцца дзеля яе пайсці на забойства гэтак несвоечасова ўваскрэсшага нягодніка-мужа? Толькі дурань. Усе называюць яго гэтак: і маці Ураніі Феадора (Валянціна Богдан), і Фоціс (Анатоль Кот), нават ён сам упэўнены ў сваёй дурноце. Але чамусьці менавіта гэты дурань аказваецца лепшым, дабрэйшым, чалавечнейшым.

Гратэскным тыранам, па-д'ябальску хітрым і хцівым падае свайго персанажа Сацірыса, мужа Ураніі, улюбёнец гледачоў Аляксандр Бяспалы. Ілжывую жанчыну, прыгожую, але беспрынцыповую іграе Таццяна Булгакава. Уражваюць пластычныя нумары і грацыя вялікай драпежнай кошкі Фоціса ў выкананні Анатоля Ката. Дарэчы, у спектаклі ён іграе ажно тры ролі. У другім акце у адным і тым жа целе ўвасабляюцца адразу два персанажы, якія пры гэтым умудраюцца горача спрачацца адзін з адным: адвакаты Пералепіс і Саматас. Тут акцёру дапамагла мастак па касцюмах Ніна Гурло, якая прыдумала арыгінальную судзейскую мантыю, палова якой — чорная, а палова — чырвоная; варта толькі павярнуцца адным бокам да публікі — з'яўляецца Пералепіс, іншым — Саматас.

II

Калі першы спектакль "Віртуозаў" распавядае пра каханне дурацкае, сляпое, дык у другім гаворка ідзе аб пачуцці непасрэдна супрацьлеглым. Галоўная гераіня "Сублімацыі кахання" не можа (а хутчэй і не хоча) проста кахаць. Ёй трэба выбраць варты аб'ект і закахаць сябе ў яго. Небарка Леонэ Савоста! Чалавек сталага ўзросту, дэпутат парламента, нічым асабліва непрыкметны, без бліскучага таленту — як ён асмеліўся закахацца ў яе, у Паолу! Здзекуючыся, яна выклікае свайго паклонніка на прызнанне. Паола шакіруе сваёй самаўпэўненасцю. "Я ўсё вельмі дакладна разлічыла", — гэтыя словы адлюстроўваюць усю яе жыццёвую пазіцыю. Пісьменніца Паола хоча бачыць у сваім абранніку нешта непрадказальнае, нечаканае, што ўсхвалявала б да глыбіні душы. Ні прыгажосць, ні моц, ні багацце яе ў мужчыне не вабяць. Галоўнае — моцны інтэлект, па меншай меры роўны яе ўласнаму. Дзе ж узяць яго няшчаснаму Леонэ? Але тут сам лёс, здаецца, прыходзіць яму на дапамогу ў выглядзе няпрошанага візіцёра, які выпадкова падслухаў іх размову. П'ero Дэгані (яго іграе Анатоль Кот) — малады драматург, непрызнаны геній у пацёртых джынсах. У кватэру заможнага суседа яго прывяла вострая патрэба. "З трыма дыпломамі можна лёгка памерці з голаду", — з горыччу кажа ён гаспадару кватэры. (Здавалася б, Італія — а як гэта знаёма, ці не праўда?) Такім чынам, у аднаго з іх ёсць сувязі, становішча ў грамадстве, грошы, а другі валодае бліскучым розумам, талентам і трыццаццю п'есамі ўласнага сачынення. Чаму б ім не дапамагчы адно аднаму? У Растана непрыгожы, але геніяльны Сірано дэ Бержэрак укладае свае словы ў вусны прыгажуна Хрысціяна, каб пакарыць патрабавальную Раксану. А ў Альда дэ Бенедзецці П'еро Дэгані прапаноўвае Леонэ Савоста назвацца аўтарам сваіх п'ес дзеля таго, каб іх убачылі і ацанілі людзі. Што ж, іх ацанілі. І першай гэта зрабіла Паола. О гэтыя цудоўныя, поўныя глыбокіх разваг маналогі галоўных герояў, гэтак сугучныя яе імкненням! Няўжо ж яна прагледзела такі талент у непрыкметным дэпутаце парламента? Гэта ўдар па яе самалюбстве, і ўдар жорсткі. Падчас другога візіту да Леонэ Савоста яна пакорліва просіць прабачэння за мінулае пагарджанне. Але ж жыццё — гэта не п'еса, у рэальнасці Леонэ застаўся ўсё той жа пасрэднасцю. Ён праклінае дзень, калі прыняў прапанову П'еро Дэгані, але вымушаны зноў пакарыстацца ягонай дапа-

рмоніі, заслужаны артыст Беларусі арганіст К. Шараў, саліст ансамбля "Класік-Авангард" піяніст У. Дулаў, кандыдаты мастацтвазнаўства дацэнты Акадэміі музыкі В. Дадзіёмава, В. Савіцкая, выкладчыкі каледжа Т. Арлова, А. Наполава, аспірант Маскоўскай кансерваторыі І. Галянкоў і інш.

"Мне дарагія ўсе, хто ў мяне вучыўся, нават калі яго музычная кар'ера не адбылася", — гэтыя словы Арыядны Мікалаеўны знамянальныя тым, што высвечваюць сапраўдную аснову кантакту настаўніка з вучнямі. Гэта не толькі метадычная дапамога, а і глыбінная духоўная сувязь, якая прадаўжаецца і па-за школьным кабінетам, за сценамі каледжа, дыктуе нормы паводзін у жыцці наогул, спакваля выхоўваючы асобу дзіцяці.

Яна заўсёды ў цесным кантакце з бацькамі вучняў, з інтэрнатам, пад яе ўвагай ці не кожны крок юнай істоты. Адметна, што ў той час як многія педагогі дзеля прафесійнага поспеху вучня (а ў выніку — дзеля ўласнага гонару нярэдка дазваляюць сабе пагардлівае стаўленне да прадметаў неспецыяльнага цыкла, Арыядна Мікалаеўна імкнецца да цэласнага развіцця дзіцяці, нязменна падкрэсліваючы велізарную ролю багатага кругагляду, інтэлекту ў дзейнасці піяніста, сочыць за паспяховасцю сваіх гадаванцаў па ўсіх прадметах — не толькі па музычных.

Лаўрэат міжнародных конкурсаў Уладзімір Дулаў неяк адзначыў: "Бываючы часта на гастролях у розных еўрапейскіх краінах, я ўсё больш умацоўваюся ў думцы, што такіх педагогаў, як Арыядна Мікалаеўна Гужалоўская, няма больш нідзе, ды і ў нас людзей такога высокага ўзроўню вельмі мала, яна — унікальная з'ява ў нашай мастацкай культуры".

Кажуць, што творчае натхненне не дае чалавеку старэць. Сапраўды, гледзячы на гэтую элегантную жанчыну, не верыцца, што яна сёлета адзначае свой 60-гадовы юбілей. Ззаду — няпростая частка з сэнсам пражытага жыцця, дзе было месца не толькі радасцям і прызнанню, а і жыццёвым нягодам і засмучэнням. Як ва ўсіх, але па-свойму — жонка, маці, бабуля, — і Музыкант, яркая нешараговая асоба. Наперадзе — новыя набыткі і, несумненна, шчаслівыя дзеці, якім лёсам наканавана трапіць у клас да Арыядны Мікалаеўны Гужалоўскай.

**Ніна СЦЯПАНСКАЯ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

*На здымку: Арыядна ГУЖАЛОЎСКАЯ з вучнямі.*

*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

# І шчодрасць, і захапленне

## ДА 45-ГОДДЗЯ ТВОРЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ БАРАНАВІЦКАГА НАРОДНАГА ТЭАТРА

Тэатр — цудоўная з'ява ў гісторыі чалавека, яна ўзнікла з жадання паглядзець на сябе збоку і ў неіснуючых варыянтах жыцця.

Тэатральны аматарскі рух дасягнуў сталасці ў 50-я гады. Глядач ішоў у тэатр, таму што на сцэне было больш цікава, чым у жыцці. Драматычныя калектывы Брэстчыны, створаныя тады ў Пінскім і Целяханскім дамах культуры, плённа працуюць і ў нашы дні.

Сярод іх і старэйшы ў вобласці народны тэатр Баранавіцкага ГДК, творчая дзейнасць якога пачалася ў 1953 г. Як і кожны народны тэатр, ён пачынаў сваё жыццё з невялічкага драматычнага гуртка. Заснавальнікам і першым рэжысёрам быў М. Счансковіч — вопытны і таленавіты рэжысёр, акцёр, які быў у той час кіраўніком абласнога тэатра драмы ў Баранавічах. Потым, калі абласным цэнтрам стаў г. Брэст, прафесійны тэатр пераехаў туды. У Баранавічах застаўся толькі арганізаваны пры прафесійным тэатры аматарскі тэатральны калектыў.

У ім удзельнічала 31 чалавек, у асноўным — рабочыя і служачыя, навучэнцы. Першая прэм'ера калектыву адбылася 24 ліпеня 1954 г. Гэта спектакль па п'есе В. Сабко "За другім фронтам". У тыя гады народны тэатр у Баранавічах карыстаўся вельмі вялікім поспехам. Пазней, у 80-ыя і на пачатку 90-ых, ужо не было такога трыумфу, хоць спектаклі ставіліся не менш цікавыя.

За сваю гісторыю тэатр зведаў і перыяды ўздыму, і перыяды спаду. Але ён выжыў і сёлета адзначае свой саракапяцігадовы юбілей.

Лаўрэат, дыпламант, прызёр — званні быццам на крылах ляцяць услед за фестывалямі, дзе прадстаўлены тэатр. Ён нязменны ўдзельнік усіх дэкадаў, фестываляў самадзейнага тэатральнага мастацтва. На працягу ўсіх гадоў шанцавала яму на таленавітых рэжысёраў. Сярод іх былі такія апантаныя як У. Волкаў, затым М. Пячонкіна. Пры ёй тэатр дасягнуў свайго росквіту.

Каля 15 гадоў творчай дзейнасці аддаў сцэне выпускнік Мінскага інстытута культуры М. Стрыжоў. Сёння ён самы паважаны ў горадзе тэатральны дзеяч. За такі доўгі час у тэатры змянілася толькі шэсць рэжысёраў. Галіна Каралёва, якая сёння кіруе калектывам, — выхаванка Стрыжова. Яна прыйшла ў цяжкі для тэатра час — час спаду інтарэсу да народнага калектыву. Маладая ды прыбаўная, сама актрыса тэатра, яна добра разумела, што патрэбны бясконцы пошук новага, бо радасць ад сустрэчы са сцэнай засталася толькі ў дзяцей, а дарослыя лепш паглядзяць "мыльную оперу" па тэлебачанні. Але пры Каралёвай у аматарскі тэатр пайшла моладзь, студэнты, вучні, падлеткі. Галіна Веніямінаўна, якая мае музычную і педагагічную адукацыю, добра іх разумела і душой адчувала, што ім патрэбна. Сваё месца ў тэатры знайшлі падлеткі, якіх не разумелі ў школе, ПТВ і дома.




*Такі ён, тэатр "Эксперымент"....*

Тэатр пачаў працаваць над казкамі для дзяцей, музычна-гумарыстычнымі спектаклямі з выкарыстаннем эстрадных мініяцюр і рэкламных пародый. Адбыліся цудоўныя прэм'еры: "Вокны вялікага дома", "Скрытая камера ў старым парку". За 40 гадоў пастаўлена 84 спектаклі — па п'есах беларускіх драматургаў, рускіх класікаў, замежных і сучасных аўтараў. Шмат выступленняў канцэртнага характару (мініяцюры, інсцэніроўкі, вершы, гумар, тэатралізаваныя святы).

"Чым жа сёння жыве тэатр?" — такое пытанне задала я рэжысёру.

— Вось ужо некалькі гадоў, — гаворыць Г. Каралёва, — наш тэатр працуе ў асноўным над спектаклямі для юнага гледача. Казкі ў яго выкананні яскравыя і музычныя. Дэкарацыі, касцюмы, рэквізіт — усё са старога запасу. Нам, вядома, цяжка сапернічаць з тэлевізійнымі казкамі, з яскравымі дыснэеўскімі "мульцікамі" па афармленні, музыцы. Але з майстрамі сваёй справы — цудоўным мастаком Э. Тарасевічам і кампазітарам Ф. Жыляком, якія даўно ўжо працуюць з калектывам, — у нас склаліся добрыя творчыя ўзаемаадносіны і ўзаемаразуменне.

Сёння ў тэатры 16 удзельнікаў у асноўным складзе і 31 — у маладзёжнай студыі. Гэта студэнты універсітэта і Інстытута ўпраўлення, навучэнцы вышэйшага лінгвістычнага і юрыдычнага каледжаў, тэхналагічнага тэхнікума і медыцынскага вучылішча, ПТВ-61, 118, вучні школ горада, працоўная моладзь.

А дзе моладзь, там дыскатэкі, КВЗ. Таму ў 1997 г. Каралёва з удзельнікаў тэатра падрыхтавала каманду КВЗ "Інкогніта", якая прымала ўдзел у гарадскіх гульнях і выйшла ў фінал рэспубліканскага адкрытага чэмпіянату. Калектыў тэатра прыдумаў сабе назву: сёння ён народны маладзёжны тэатр "Эксперымент". Гэтая назва найлепш раскрывае творчую сутнасць калектыву, які знаходзіцца ў бясконцым пошуку.

Шмат прыгожага ў душы чалавека. І няхай народны тэатр — маленькая іскра ў вялікім свеце мастацтва, але і яна асвятляе гэтую прыгажосць, вучыць любіць чалавека, любіць жыццё. І заўжды знаходзіліся людзі, закаханыя ў тэатр.

Застаецца толькі адно пытанне: "Чаму яны ідуць у тэатр?" І адказ: таму што тэатр, сцэна прыцягваюць да сябе нібы магнітам, а гэта так дзівосна.

**Вольга ЗІНОВІЧ,**
**галоўны спецыяліст**
**Брэсцкага абласнога**
**грамадска-культурнага цэнтра**

могай, баючыся, што падман раскрыецца. Тым больш, што П'еро, які таксама закахаўся ў прыгажуню-разумніцу Паолу, прапаноўвае гэтую дапамогу вельмі настойліва. "Хацелі, як лепш, а атрымалася, як заўсёды..." Абодва яны нешчаслівыя: "Паола кахае аблічча і імя аднаго, а інтэлект — іншага. Пікантнасць сітуацыі ўсугубляецца тым, што ноч з ёю пад покрывам цемры правёў усё ж такі П'еро. Як жыць далей? Дадумваць развязку аўтар прапаноўвае гледачам, і толькі загадкавая ўсмешка Паолы дазваляе меркаваць, што яна пра ўсё здагадалася.

"Прыгожая італьянская камедыя" — значыцца на праграмцы спектакля. Што датычыцца вытанчанага гумару выдатнай акцёрскай ігры, танцавальных нумароў у пастаноўцы балетмайстра Валянціны Палушкінай, музычнага суправаджэння (у памяшканні клуба імя Дзяржынскага, дзе няма асобнай гукааператарскай кабіны, з добрым гукам звычайна ўзнікаюць цяжкасці), рэжысёрскіх знаходак — дык большасць складнікаў спектакля цалкам адпавядаюць азначэнню "прыгожы". Але што датычыцца афармлення сцэны, дык яно магло б быць больш раскошным, бо гэта ж кватэра заможнага чалавека. Што ж да касцюмаў, дык яны пакідаць уражанне занадта яркіх: хіба апранула б італьянка Паола бірузовы плашч на чырвонае аксамітнае плацце?

Калі вяртацца да акцёрскай ігры, дык асабліва запомніўся, зноў-такі, вельмі пластычны Анатоль Кот у цудоўным танцы з падсвечнікам — суцэльная рамантыка. А рэжысёр яшчэ падлівае алею ў агонь, дазваляючы яму ў кампаніі з Аляксандрам Бяспалым страляць вачамі ў публіку. Прыхільніц у акцёраў ад гэтага відавочна прыбавіцца. Як заўсёды, бездакорны Аляксандр Бяспалы. Пасля д'ябла-Сатырыса ў першым спектаклі ён здзіўляе мяккім, добрым, надзеленым абаяннем і гумарам Леонэ Савоста. Пісьменніца Паола ў выкананні Вольгі Сізовай па пластыцы, жэстах няўлоўна нагадвае гераінь нямога кіно. Ёй цудоўна ўдалося перадаць арыстакратычныя манеры Паолы, яе пачуццё ўласнага гонару.

Вось так па-рознаму бачаць каханне "Віртуозы сцэны". Але абодва спектаклі падобныя ў адным: яны ствараюць добры настрой. "Пакажаць камедыю і размаўляць аб каханні" — дэвіз праекта. І пакуль у "Віртуозаў" выдатна атрымліваецца спалучаць гэтыя рэчы.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

ЭФІР

# Ці з'явяцца зоркі?

Творчае аб'яднанне Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі "Тэлефільм" сяды-тады ўсё ж радуе нас сваімі новымі работамі. З месяц назад гледачы ўбачылі другі фільм хранікальна-дакументальнага цыкла "П'едэстал". Імёны герояў гэтых стужак упісаны золатам у гісторыю сусветнага спорту. Яны — наш гонар і слава. Па-рознаму склаўся іх лёс пасля зорнага часу...

Вялікіх спартсменаў сучаснасці бальельшчыкі ведаюць у твар. Іх пазнаюць на тэлеэкранах, у іх бяруць інтэрв'ю і аўтографы. Аднак ці задумваемся мы над тым, што схавана за бліскучымі перамогамі атлетаў? Ці ведаем, як узыходзяць яны на высокія п'едэсталы? Ці ўяўляем, якая тытанічная праца спартсмена і трэнера стаіць за кожнай перамогай і медалём? На жаль, настаўнікі застаюцца "за кадрам", у цяню прамяністай славы сваіх выхаванцаў.

Пра аднаго з іх, Ранальда Кныша, трэнера сусветнавядомых алімпійскіх чэмпіёнак Алены Ваўчэцкай і Вольгі Корбут — новая стужка "Тэлефільма" "Амплітуда Ранальда Кныша". Гэта шчымлівы аповед пра трэнера-наватара, паэта і мастака, пра лёс чалавека, які апярэдзіў час, зрабіў выклік чалавечым магчымасцям.

— Я заўжды верыў у прыгажосць. Калі былі цяжкасці — выручала паэзія, — апавядае ў фільме Ранальд Кныш. — Я няблага маляваў, канструяваў самалёты. Асноваўсяго — творчасць. Мабыць, таму і нарадзілася ў свой час тое, што павінна было нарадзіцца, — новая гімнастыка, азораная і натхнёная думкаю. Маё ўяўленне пачало працаваць у напрамку прыдумак новых элементаў і апрабавання іх на вучнях. Я зразумеў, што рух — гэта думка. І ў мяне атрымалася гімнастыка адухоўленых рухаў. Чалавек у натхненні становіцца геніяльным!

Ці не ў гэтых словах слаўтага трэнера — сакрэт яго ашаламляльных поспехаў? Ранальд Іванавіч адразу зразумеў, што юная Корбут ад прыроды таленавітая. Аднак...

— Да новай гімнастыкі немагчыма было прыйсці на дыктатуры трэнера і беспярэчнасці вучаніцы. Мы б ніколі не дасягнулі вынікаў, не пакарылі б свет. Гэта была творчасць дзвюх асоб, — паведамляе Ранальд Кныш... — Слова "страшна" перастала існаваць у нашай спартыўнай зале. Бо самыя складаныя элементы я раскладаў па частках... Увогуле прыйшоў да высновы, што методыка навучання ў спорце стаіць на недаравальна нізкім узроўні, а калі менш дапушчаць памылак, то можна значна паскорыць навучанне.

Таленавітаму трэнеру зайздросцілі і перашкаджалі. Чатырнаццацігадовую Вольгу Корбут дапусцілі, як эксперымент, удзельнічаць у чэмпіянаце СССР у Растове. Там гімнастка вынесла на суд спецыялістаў два унікальныя элементы. "Элементы пярэчаць законам фізікі і не пад сілу чалавеку", "так мы з гімнастак зноў створым малпаў", — гаварылася і пісалася ў тыя часы. Юны талент нават не ўключылі ў зборную СССР на паездку ў Мехіка.

А далей былі напружаныя гады працы, нягледзячы на знявагу і непадтрымку трэнера. Тры залатыя медалі на Алімпіядзе ў Мюнхене, пасля Манрэаль і яшчэ залаты медаль — зорны час выхаванкі Кныша Вольгі Корбут.

— У мяне часта пытаюцца: ці ўсё я ўвасобіў у Корбут, што жадаў? Не. Яна — частка вобраза, да якога я імкнуўся. Гэта толькі, прабачце, паўфабрыкат маёй мары, — адказвае на пытанне Ранальд Іванавіч. — Я адчуваю ў сабе сілы нават пасля многіх гадоў ігнаравання і прастою. Чакаю, калі паклічуць...

Корбут пакінула памост, стаўшы ўсеагульнай любіміцай. Яе няўрымслівы характар, неардынарныя ідэі і планы натыкнуліся на сцяну непаразумення і абыякавасці. Вымушаны быў пакінуць трэнерства і Кныш. "Сістэма" не ўспрыняла і адвергнула ўсіх, хто ішоў наперакор дэвізу — "не высоўвайся!" У 1991 годзе слаўтая Корбут разам з мужам, вядомым салістам ансамбля "Песняры" Леанідам Барткевічам і сынам пераехалі ў Амерыку...

— Мне прыемна ўспомніць Гродна, Мінск, Беларусь, — гаворыць у фільме знакамітая гімнастка, — дзе мы з маім цудоўным трэнерам і чалавекам Ранальдам Іванавічам Кнышам адкрылі свету новую гімнастыку.

— Сучасная гімнастыка пачынае вычэрпваць сябе. Звычайнае ўскладненне акрабатычных элементаў нічога ёй не дадаюць. У мяне былі планы — вярнуцца да трэнерскай работы, ёсць ідэі для новага штуршка ў развіцці беларускай гімнастыкі. Але ж разумення, як тады, так і цяпер, не знайшоў, — расчаравана паведамляе Ранальд Кныш.

Між тым, на апошні чэмпіянат Еўропы з вялікай цяжкасцю набралі каманду. Яшчэ горш з рэзервам. Большасць трэнераў, здатных працаваць, раз'ехаліся па іншых краінах...

Ці з'явяцца новыя Корбуты, Кімы, Багінскія? Такое пытанне ўзнікае пасля прагляду хранікальна-дакументальнага фільма "Амплітуда Ранальда Кныша", стваральнікамі якога з'яўляюцца М. Петрапаўлаўскі, У. Ісат, І. Скорынай, Б. Уманец, Г. Злабенка.

**Л. КАЧАНКА**

ПАМЯЦЬ

***Роўна паўтара дзесяцігоддзя прамінула пасля адыходу ад нас выдатнай беларускай паэткі Ларысы Антонаўны Геніюш. Яе жыццё, як і жыццё некаторых іншых "бебурнацаў", было надзвычай цяжкім і пакутлівым. Што да творчасці Л. Геніюш, яе вершаў і паэм, то яны спрэс споведныя, поўняцца пачуццямі ахвярнай любові да роднай Беларусі і яе народа, прыкладамі заглыбленага асэнсавання яго пакручастага гістарычнага шляху. Творы паэткі былі і застануцца дарагімі чытачу адмаўленнем усялякіх форм ідэйнага тэрарызму ў грамадстве, яны падвышалі і будуць падвышаць "неба душы" чалавека, сучасніка і нашчадка, абуджалі і будуць абуджаць наш нацыянальны крэатыўны патэнцыял.***

***Ёсць думка, што Л. Геніюш, не прыняўшы савецкага грамадзянства, жыла ў ізаляцыі. Шмат у чым гэта так, але ўсё ж дадзеная ізаляцыя была адноснаю. Як паказваюць факты, у тым ліку архіўныя матэрыялы, паэтка актыўна кантактавалася, праўда, галоўным чынам праз ліставанне з Зоськай Верас, Паўлінай Мядзёлкай, Сяргеем Новікам-Пеюном, Максімам Танкам, яе наведвалі Мікола Прашковіч, Алесь Белакоз, Уладзімір Караткевіч, да яе гарнуліся жыхары Зэльвы і Зэльвеншчыны, ніколі не пакідала літаратурная моладзь.***

***Прапаную ўвазе чытачоў колькі лістоў Ларысы Геніюш да Максіма Танка, выяўленых у ягоным хатнім архіве. Пісаліся яны ў 60-я гады і сведчаць пра высокую душэўна-чалавечую еднасць выдатных беларускіх паэтаў-патрыётаў.***

**Мікола МІКУЛІЧ**

# "Я не магу быць інакшай..."

ЛІСТЫ Ларысы ГЕНІЮШ ДА Максіма ТАНКА

*Зэльва 11/X. 66 г.*

**Максім Танк, вельмі паважаны і ўсім нам дарагі!**

Спадзяюся, што Вы ўжо вярнуліся са слаўнай краіны дружных генацвале, што Вы здаровыя. Як прайшло падарожжа? У прэсе нічога няма аб гэтым, калі Вы вернецеся...

Я Вам не пісала, толькі йзноў паслала верш. Вершам лягчэй гутарыць.

Цяпер спакойна ля нас, проста не верыцца. Я баялася дзякаваць Вам за гэта, але цяпер бачу, што гэта трывала. Дзякую, шчыра і шчыра дзякую. Вы харошы. Ужо не скачуць зайчыкі страху ў вачах мужа, калі адыходзіць на працу, і я спакайней сустракаю яго, адчыняючы дзверы. Стала лягчэй. У апошнім лісце сын не піша аб хваробе і болі, знача, лепей яму. Цешыцца з працы і піша, што шчасце ў лячэнні яму ўсміхаецца, хворыя яго любяць. Я зусім веру Вам, што калісьці паеду паглядзець сваіх унукаў. Мне хочацца ў гэта верыць, Максім Танк. Я крыху тэмпературу, але пакуль Вы прыедзеце — гэта міне. Паслушна глытаю лекі. Яшчэ крыху хістаюцца мае ногі. Смешна. Вы не бойцеся вельмі, я толькі прастыла ў лесе. З прыемнасцю прачытала Вашыя "Селядцы з вершамі". З гэтых стручкоў вылускваюцца харошыя зерняты мысляў. Вы крыху "з перцам" і Вам баліць... Я Вас найболей люблю з "Нарачы", Вы там да немагчымасці свой... У малюнках самой Нарачы Вы дасканалы. Я не хвалю Вас, Максім Танк, я шчыра толькі гутару з Вамі. Я думаю, што Вы здаровыя. Аднойчы я згледзела Вас, як Вы падкідалі паленцы на вогнішча Міхася Лынькова — гэта было па тэлевізары. Што да маэстро, то я, здаецца, была крыху суровая адносна яго. Судзіце па свояму, Максім Танк, аб ім. Я магу быць крыху неаб'ектыўнай, бо я яго не люблю. У кожным выпадку, калі гэта магчыма, заўсягды будзьце добрым. У нас цяпер хораша і цёпла. Зусім не думаецца аб гэтым, што заўтра можа быць холадна і дажджліва. Мы Вас вельмі чакаем, я часта паглядаю на брамку, ці не Вы адчыняеце яе... Вас так доўга няма. З нашых явараў ля хаты ўжо хутка зусім спадзе лісце...

Будзьце здаровыя! Застаюся з пашанай да Вас Ларыса Геніюш.

*Зэльва 22/X. 66 г.*

**Паважаны Максім Танк.**

Вашу паштоўку я атрымала, шчыра дзякую. Учора йзноў перачытвала "Нарач". Многа думала. Нявылежаны грып упарта вяртаецца, прыходзіцца ляжаць. Праўда, морква, буракі, пятрушка, хрэн — усё гэта выкапана. Панадворак, які занясло лісцем за час мае хваробы, чыста вымецены. Недапітая бутэлька віна нагадвае дарагога госця. На стале ўсё ляжаць падпісаныя кнігі, быццам пакінулі Вы іх учора... Часта бяру іх у рукі. Сёння цяжка мне было б гутарыць з Вамі, залажыла горла і голас ахрып. Здалёк адчуваю праменьчыкі клопатаў Вашых і дабраты... Крыху мне жаль, што Вы абманецеся ва мне, што мы з Вамі людзі рознай долі і сцежкі нашыя разыходзяцца. Гэта ўжо трэці ліст да Вас. Два папярэднія скомканыя — з адчаю. Вельмі цяжкая, жудасная атмасфера ўдома. Мой "рап і ютadra" вельмі не любіць, калі нешта парушае яго ўклад жыцця. Я сярод яго кнігаў, несцеркаў і другіх "цацаў" таксама ягоная рэч... Я хвалююся і гэта яму не па нутру. Я маю свае погляды, а гэта нельга... Вось няма яго ў хаце і думаю, што цяпер пагутару з Вамі. Усё, аб чым мы з Вамі гутарылі, аказалася не так проста, ды нават зусім не пад сілу. У руках трымаю сваю кнігу, яна гняце мяне нелюдскай караю: чвэрць стагоддзя зняволення за яе змест! Мне страшна. Прыгадваецца апалены марозам твар, загублены недзе дарагі хлопчык, лахманы на прамерзлым целе, кірка, лом і клятая кувалда, падымаючы якую, адчуваю, як надрываюцца кішкі. Міска варанага рэдзькавення, камса, пайка і так 8 1/2 лет. Прыехалі "купцы", сытыя дзядзькі ў белых кажухах і валёнках. Праходзім ля іх з апушчанымі ачамі, да паловы нагія, сінія. Зняволены лекар глядзіць нашы зубы, мацае цела, а нахабныя "босы", паводле свайго густу, выбіраюць сабе "тавар". Група надзіраценяў будзіць мяне ноччу, самы азвярэлы залазіць з нагамі на нары, трасе ўсё і перэтрасае, нават йстружкі з лагернай падушкі. Забіраюць алавічок і ўсе кусочкі паперы. Хочуць пасадзіць у "бур". Начальнік "буру" не бачыць патрэбы караць мяне. Холад, месяц запутаўся ў драты і крывавіць як паранены, пераклікаюцца канвоі на вышках, зараз пад'ём. Седзячы, сплю, сніцца: папера, папера... раніцай: развод, тундра, тое ж прыладдзе і нізка нейк неба, здаецца, рукою дастаў бы... Пішу вершы ў думках, усё іх паўтараю. Калі ўдасца запомніць і нехта дасць паперы, пашлю іх тым, якім яшчэ цяжэй... Кіркуем нечыстоты, канвой здзекліва пацяшаецца з нас. Міна Ісакаўна, выціраючы твар, шэпча: "У нас быў Таман, біблейскі прарок, і яму лілі нечыстоты на галаву, але нам куды горай, яны нам ляцяць проста ў рот"... Неба цёмнае, хмарнае. Трывожна. У зону прывезлі цела дзяўчыны — забіў канвой. Яна полька, але ў лагеры няма нацыянальнасцяў, толькі добрыя і благія людзі. Трывожна... Іду, ручаюся за спакой у зоне, прашу выдаць нам труп. Маленькая рана на жываце, кожная з нас датыкаецца да яе пальцам і нешта шэпча. Апранаем Галю ў што можам, каб прыгажэй. Выпраўджаем да брамы, плачам, надзоркі лаюцца і кажуць, што заўтра застрэляць другую... Труп на вахце, яшчэ раз ударaюць ёй малатком па белым лобіку, ці праткнуць штыком, каб ужо зусім, зусім была мёртвай... У Галі дзяўчынка, яна за яшчэ адным дротам у лагеры, гдзе дзеці, дзеці родзяцца вольныя. Маці, як львіцы, усе бегаюць ля дратоў. Раз у тыдзень іх на гадзіну пускаюць да дзетак. Дзяўчынцы нешта махлююць, пасля няведама куды яе вязуць... Можна так без канца. Успаміны, як драты, апуталі, не варухнешся... Я на волі на Радзіме ўздрыгваю (да сяння!), калі бачу ваенную форму, аглядаюся, ці штык мне не ў плечы. Жудасна. Чую, як усюды: ля крамаў, аўтобусаў, урадаў туліцца нясмела мая мова. Яна ў хустках, ватоўках, спяцоўках — працоўная. Яе не хочуць слухаць, чуць, на яе высакамерна адказваюць няласкавай мовай начальнікаў. Людзі нясуць яе ў поле. Яна, як пахучы надзённы хлеб, заўсягды на стале, у сэрцах, але на ёй не пяяюць ужо, мне здаецца, што з труднасці... Алесь Бажко — парабак Радзівіла, якая жудасць, як яму цяжка было выбіцца ў людзі... Колькі яшчэ сяння такіх, як ён, — якія залежы нявыкарыстанага розуму і талентаў народу... Беларусу-калгасніку не здаць экзаменаў з рускай мовы, яму б беларускую і ён вучыўся б... Вышэйшыя школы быццам не для нас, яны для тых, якім смешная ці абыякавая мова наша і наш народ... Алесь Бажко!.. Памятаеце хлапчукоў малых? Найменшы з іх, Міхаська, мой сябра. Ён, небескарысна, кожны дзень мяне адведвае, умее ўжо дастаць да званка. "Доблі дзень, бабця Лісія", — так пачынаецца гутарка. Аддалі яго ў садзік, за пару дзён прыходзіць, маўчыць. "Што трэба сказаць?" "Длясце". Не! "Пісіба". Не! "Пізялюста". Не, не, не, кажы: добры дзень... Не тое дзіця, здзіўлена глядзіць сінімі вочкамі, не ведае, што адбіраюць яму, у тры годзікі, тое, святое, — матчыну мову... У нас школа-інтэрнат для вясковых дзяцей. Бягуць і ўсе, усе чыста між сабою шчабечуць па-беларуску. Школа руская і ад настаўніка пачуюць яны гэтую мову, як замежную, два разы на тыдзень. Начальства і дырэктар тав. Фрэйдэнман (ці нейк гэтак) не думаюць, чым гэтыя дзеці-людзі запоўняць і грэць будуць жывую душу праз усё даўгое жыццё. Максім Танк, Вы жывеце і думаеце высокімі дзяржаўнымі, касмічнымі катэгорыямі, а маё сэрца слухае адгалоскаў мае зямлі. Я дзялю з Ёю Яе лёс і не хачу, каб мне было лягчэй ці лепей, чымсці братам маім. Я не хачу друкавацца і кнігі свае не хачу! Да сяла яна не дойдзе, ды ім і не да яе. Калі б сабраліся разумныя людзі і распрацоўвалі долю зямлі нашай, яны сказалі б: "З Беларусі, з гэтай чыстай крыніцы славянства, створым запаведнік, рэзерват. Захавайма гэтую прачыстую, польную, чалавечную, працоўную, нарачанскую, надднянроўскую, пушчанскую адвечную мову, каб не забыцца, з якіх крыніц вынеслі людзі: мужнасць сваю, мяккасць сваю і сваю дабрату..." Так сказалі б разумныя.

Я за свой век навучылася верыць не таму, што чую, а таму, што бачу сваімі ачыма. Мае думкі маюць свае крыніцы, яны з жыцця і долі майго народу. Я — крывінка ягонага цела, пяшчынка мае зямлі. Я за братэрства, за роўнасць і волю ў народзе і між народамі! Мы не горшыя, не дурнейшыя ад суседзяў. Нельга і непрыстала нам быць парабкамі, ад радзівілаўскіх пачынаючы! Я — так мала і я — так многа, я — радавы сябра маяго народу і ўсё я на сабе адчуваю. І я Вам не ахвяра, не пасмешышча для прокшаў і не той Мурын, які зрабіў сваё і можа адыйсці! І дзеля гэтага я не хачу друкавацца! Дзесяткі гадоў нікому не залежала на мне як на чалавеку і як на паэтэсе. Я не маю чаго ўстыдацца свае мінуласці — яна на далоні правяраецца ўсімі! Я мусіла друкавацца ў цяжкі і страшны час — гэта быў загад сэрца. Друкаваліся і Грубін, і Нэўман, і Сайфэрт, аднак ім па 25 лет зняволення не паспелі даць, а яны мужчыны, што гаварыць. Гэта як з маім мужам, якому абыякава, што буду рабіць, абы ён толькі меў свой абед, воду да мыцця, усе выгоды і г. д. Іначай гвалт! Абавязкі мае адносна народу я знаю, як іх зналі тры мае маладзенькія браты ў свой час... Ці бачылі Вы, як кружыць птушка над разбураным гняздзечкам? Так душа мая кружыць і плача над скрываўленым парогам бацькоў маіх, над магіламі майго роду, які выйшаў з прыгонных, і віна яго была ў тым, што прыгонным болей быць не захацеў!

Прарвалася грэбля і ўсё, што бурліць у душы, давядзецца прачытаць Вам сяння. Даруйце мне гэта. Не злуйцеся за маю пастанову. Ад радасці бачыць Вас, тварца "Нарачы", у сваёй хаце — памутнела мне ў галаве. Праяснілася сяння! Я ведаю, Вы клянеце мяне і голаў маю недзе гатуеце, у думках, "на плаху"... ну, што ж, аўтар "Нарачы", — Вашая воля...

"Мы з Вамі два рэха ў адным бары,
ад Нарачы аж да Нёмана"...

Бывайце, харошы Максім Танк, я не магу быць інакшай... застаюся са шчырым, найлепшым успамінам аб Вас.

Крыху Ваша Ларыса Геніюш.

*Зэльва 1/XI. 66 г.*

**Максім Танк!**

Я чула, што Вы на мяне не вельмі ўжо злуецеся. Дзякую Вам за гэта. Зразумейце, харошы Максім Танк, што я не магла не напісаць гэтага ліста. Мушу сказаць, што ўражанне з нашага знаёмства з Вамі і той мір і дабрата, якую адчуваю з Вашага боку, — усё гэта перамагло мае старыя і даволі яшчэ балючыя раны. Не будзем болей успамінаць мінулага, а будзем, яшчэ гэтых пару хвілін жыцця, ісці наперад ды тварыць у меру сілаў. Калі б у Вашым сэрцы згасла апошняя іскрачка злосці на мяне, дык пару слоў напішэце. Мая просьба, каб грамадскім рэдактарам гэтай мае скромнай кнігі быў Ул. С. Караткевіч. Справу выбару фатаграфіі пакідаю Вам, няхай будзе так, як Вы сказалі. Між намі, было б добра, каб Ул. Калеснік у сваёй прадмове хаця не зрабіў з мяне таго, чым я не ёсць... Спадзяюся, што Вы мяне разумееце. Я ведаю, што Вы здаровыя, і цешуся з гэтага. Знача, з сэрцам усё ў парадку. Міла вельмі пісалі аб Вас з Вільні, ды і ў Мінску (у Ленінцы) бачылі Вас працаздольным, здаровым і бадзёрым. У нас усё пастарому, толькі ўцёк, пасля 10 гадоў вернай службы, наш цэрбер — Тарзан. Крыху муж па ім плача, я не, бо ў мяне шмат іншых клопатаў. У. С. Караткевіч прывязе Вам і даручыць вершы ў "Полымя". Акрамя "Куфра" і "Зубраў", калі ласка, выбірайце, якія Вам будуць болей падабацца. Спадзяюся, што ўсё мне даравана і на светлым небасхіле нашых адносінаў з Вамі — хмарак няма.

Застаюся з вялікай пашанай і добрым успамінам аб Вас.

Ларыса Геніюш.

*Зэльва 14/I. 67 г.*

**Максім Танк!**

Спадзяюся, што Вашаму тату лягчэй у больніцы. Дадуць яму лякарствы, адыдзе непатрэбная вадкасць з арганізму, спадзе пухліна з ног, йзноў лепей будзе працаваць сэрца. Спадзяюся, бо вельмі хачу, каб Ён Вам яшчэ пажыў... Прынёс мне ўчора муж кніжку: "Максім Танк у школе", вось там я і пазнаёмілася з Вашымі бацькамі, сялібаю. Я не дзіўлюся Вашай маме, што яна не хоча ехаць у Мінск. І Вы гэта разумееце, вазьміце свой верш: "Пасля вайны"... Па-мояму, нягледзячы на ўсе паседжанні, Вы часцей павінныя быць цяпер ля Яго, каб ніколі не адчувалі папроку ў сваім сэрцы, што далі замала тым, якія Вам аддалі ўсё. Безумоўна, не трэба мне Вам напамінаць, каб былі бадзёрымі і вясёлымі мыслі пры хворым ды і наагул! Калі б і надыйшоў час разлучыцца, то і гэта трэба ўспрыняць спакойна, проста так: гаспадар застаецца на полі... толькі не праймайцеся ж лішне, не думайце аб гэты многа. Жаль, што я не магу Вам нават крыху чым памагчы. Дзякую Вам сардэчна, што маючы такое гора, знайшлі хвіліначку часу, каб ім падзяліцца...

Мая вялікая просьба да Вас — гэта каб глядзелі сябе і глядзелі добра! Акрамя ўсяго іншага, Вы вельмі патрэбныя на свеце, Максім Танк! А мне здавалася, што Вы сярод людзей і вясёлых навагодніх уражанняў... Мая дваюрадная сястра таксама папала ў аўтамабільную катастрофу, і добра яе пакаратала. Папраўляецца, аднак, хутка, з радасці, што дастала ордэн Леніна. І таксама я думала, як ёй весела на Новы год... Што да "канфліктаў", дык хто іх "арганізуе"? І скажаце ж Вы... З гэтым чалавекам я апошні раз гутарыла, калі несла Вам на пошту сваё "SOS"... Але вось сяння стукатам-грукатам у дзверы падняла мяне з пасцелі яго жонка. Ёй трэба было бляхі пячы цяляціну. Злезла з пасцелі, дастала бляхі, пачаставала цясткамі і хлопцу нешта яшчэ дала з ёлкі... Вось і "канфлікты" Вам. А на рабоце ў мужа йдзе па-свояму... Ну, цяпер спакайней, далі кабінет маленькі і цёплы. Ходзіць аб адным, каб далі спакойна чалавеку жыць і працаваць. Трудна хацець ад Івана Пятровіча нейкіх галосных працоўных подзвігаў у 65 лет жыцця, але сумленна і нармальна ён працуе ўсё сваё жыццё! Чалавек ён вельмі чэсны. І калі б йзноў з яго "дзерлі скуру", то "канфлікты" будуць! Калісьці гэты чалавек вельмі хацеў, каб я йзноў вярнулася працаваць у больніцу — я не вярнулася, вось мой адзіны "канфлікт". Я не магу Вам пісаць усяго, бо шкадую Вашага часу, напэўна, болей — чымсьці свайго спакою... Між іншым, прыгадала сабе з часоў маёй работы ў больніцы: у мяне ёсць адно знаёмства ў выдавецтве! Нехта тав. Матузаў! Аднойчы яны разбіліся з машынай каля Зэльвы. Прывезлі і ўнеслі на насілках параненых і ледзь жывых. Тав. Матузаў, цэлы, акрываўлены, адно толькі казаў: "Мой партийный билет..." Усё было ў парадку з білетам — горай было з касцяком! Памятаю, пытаўся ў мяне, чаму я ўсё найболей клапачуся ля аднаго хворага... Гэтага хворага "даверыў" мне хірург. Ён быў апераваны на рака страўніка... Я ж яго адкарміла, каб бачылі! Я не знаю, што з ім, я баялася нават цікавіцца гэтым, бо ведала, што яму доўга жыць не давядзецца... Матузаў — гэты быў надзвычайна церплівы і тактоўны хворы. Асталося ў мяне аб ім в. добрае ўражанне. Калі б ён мяне яшчэ памятаў, дык быў бы яшчэ адзін знаёмы сябра ў выдавецтве! Што да верша "Сусед", дык я адразу ведала, што ён дрэнны, і была вельмі, вельмі злосная на сябе, што Вам яго паслала. Паслала толькі таму, што вось такая рыса вельмі характэрная для маіх землякоў... Іх дабрата і шчодрасць, пры ўсёй іх часам беднаце, захапляе мяне. Я пазнала чэхаў і іншыя народы, найболей "праўды" і цікавага і любасці нейкай знаходжу ў сваім! Цывілізацыя — не заўсягды культура!.. Пісаў пару слоў Валодзя. Ён не гневаецца, але вось цяпер можа загневацца! Ён прыслаў нам "Нёман"... Я да гэтага ўжо прачытала ягонага "Хрыста". Я не магла напісаць Уладзіміру, што ён мне падабаецца. Я яму толькі напісала, што "Хрыстос"

*(Працяг на стар. 14—15)*





## Далучаны да гісторыі

**Згадваючы тых, хто шмат рабіў і робіць дзеля абуджэння нацыянальнай свядомасці народа, нельга забываць і пра першапраходцаў, у тым ліку і тых, хто стаяў ля вытокаў сучаснай гістарычнай навукі. У шэрагу такіх людзей, каму даводзілася часта ступаць па цаліку, і гісторык, архівіст, археограф, крыніцазнаўца Дзмітрый Даўгяла, з дня нараджэння якога споўнілася 130 гадоў. Родам Дзмітрый Іванавіч з вёскі Казьяны Гарадоцкага павета (цяпер Шумілінскі раён). У 1906—1915 гадах Д. Даўгяла быў членам Віленскай археаграфічнай камісіі, а з 1913-га з'яўляўся яе старшынёй, кіраўніком спраў канцылярыі папячыцеля Віленскай навучальнай акругі, кіраўніком спраў Паўночна-Заходняга аддзела Рускага геаграфічнага таварыства і рэдагаваў яго "Записки...", ганаровым членам Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. З 1915 года працаваў у Магілёве, далучыўся да беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Д. Даўгяла — удзельнік Усебеларускага кангрэса, што праходзіў у 1917 годзе. У 1925 годзе ўвайшоў у Дзяржаўную камісію па вяртанні архіваў Беларусі з Расіі, якую ўзначальваў З. Жылуновіч (Цішка Гартны). У гэтым жа годзе стаў супрацоўнікам Інстытута беларускай культуры, пазней быў дырэктарам бібліятэкі Акадэміі навук Беларусі, навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі. Дзмітрыя Іванавіча не мінуў лёс іншых нацыянальна свядомых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. 10 снежня 1937 года Д. Даўгялу арыштавалі, а ў хуткім часе выслалі на пяць гадоў у Казахстан. Паводле неўдакладненых звестак там і памёр у красавіку 1942 года. Заслугай Д. Даўгялы з'яўляецца тое, што ён першым пачаў даследаваць гісторыю і гістарычную тапаграфію полацкіх, Барысаўскага, Свіславіцкага, Аршанскага замкаў. Быў складальнікам і рэдактарам "Гісторыка-юрыдычных матэрыялаў" (тамы 27—32), удзельнічаў у выданні Актаў Віленскай камісіі. Д. Даўгяла з'яўляўся рэдактарам і складальнікам "Беларускага архіва" (тамы 1—3).**

## Ля вытокаў дзіцячай літаратуры

**Леанілу Чарняўскую трэба памятаць ужо хоць бы таму, што яна была жонкай, сяброўкай і паплечніцай класіка нацыянальнай літаратуры Максіма Гарэцкага, дзяліла з ім многія жыццёвыя нягоды. Але ж Леаніла Усцінаўна, з дня нараджэння якой споўнілася 105 гадоў (памерла 26 верасня 1976 года), — яшчэ і пісьменніца, педагог. Скончыўшы Марынскае вышэйшае вучылішча ў Вільні, яна з 1911-га да 1918 года працавала настаўніцай пачатковай школы ў Залессі на Дзісеншчыне. Потым выкладала беларускую мову ў Віленскай беларускай гімназіі. А ў 1932 годзе, апынуўшыся ў Вятцы (Расія), куды быў сасланы муж М. Гарэцкі, працавала выхавацелькай у дзіцячым садзе. Сваё першае апавяданне "Мікітка" апублікавала ў 1921 годзе ў газеце "Наша думка" (Вільня). Л. Чарняўская — аўтар чытанкі "Родны край" для 1, 2, 3 і 4 года навучання, якая неаднойчы перавыдавалася. Выйшлі кнігі прозы "Апавяданні", "Валуй — камісар часоў Кераншчыны", "Падарожніца", "Бяздзетуха" (усе ў 1930 годзе), зборнікі для дзяцей "Варка" (1928), "Кот Знайдзён" (1929), "Андрэйка" (1930), "Перамога" (1932), "Лявонка" (1932), "Сталёвы конь" (1932). Л. Чарняўская пераклала шмат кніг замежных пісьменнікаў на беларускую мову, сярод якіх творы Р. Кіплінга, Э. Ажэшкі, Э. Сэтана-Томпсана і іншых.**

## Юбілейная вечарына



**Прайшоў юбілейны вечар актэта балалаек "Віцебскія віртуозы". Яго нязменным кіраўніком на працягу вось ужо 25 гадоў з'яўляецца заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Тамара Гафранава. Калектыў неаднаразова станавіўся лаўрэатам і дыпламантам многіх конкурсаў як у бліжнім, так і дальнім замежжы.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

# "Я не магу быць інакшай..."

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

меней мне падабаецца, чымсьці ягонае "Нельга забыць" ці "Каласы пад сярпом тваім"... Я знаю, што гэта прыкра і Валодзю, і ягонай харошай маме... Ці я магла б ведаць Вашую думку аб гэтым творы? Я яго яшчэ раз буду чытаць, бо, можа, я не зразумела твор? Можа, на гэта мелі ўплыў скарочанні цэнзуры? Там ёсць захапляючыя сцэны і вобразы, але вось цэласць да мяне не дайшла, не захапіла мяне... Мне было б прыкра, калі б па сваёй абмежаванасці я хоць крышачку абразіла яго твор... Я цяпер нічога не пішу — я проста вышываю... Муж мой таксама чакае "Полымя", вельмі чакае. Ці бачылі, як пераводзяць Вашыя вершы з "Перапіскі з зямлёй"? Вельмі цікавая Ваша фатагр. у "Лит. России", Вы там як Цэзар! Сяння я прачытала, што Пётр І забараніў сваім сенатарам, выступаючы, чытаць прамову з паперы: "Дабы дурость каждого видна была"... Гэта вельмі на Пятра падобна! Мне робіцца жаль, што Вы так занятыя працаю і не маеце магчымасці болей чулай, неабходнай увагі звяртаць паэзіі, цяпер я Вас зусім разумею. Думаю, што ў Вас усё, усё добра. Не нервуйцеся толькі, дайце справам жыцця крыху самім улажыцца так, як гэта ім належыць... Калі б ад Зэльвы да Пількаўшчыны было можна заехаць саначкамі на дзень, я б паехала і праз снежныя сумёты і так ахвотна пабыла б з Вашай мамаю, але гэта аж за Нараччу... Муж мой крыху паправіўся, ачуняў, я вельмі, вельмі рада! Ён шле Вам свае прывітанні. Застаюся з вялікай пашанай да Вас.

Ларыса Геніюш.

*Зэльва 29/І. 67 г.*

**Максім Танк!**

З радасцю прачытала, што Вашаму тату крыху лепей. Ведаю, што зусім добра быць яму не можа. У такіх выпадках печань апускаецца амаль ў таз, затрымоўваецца выдзяленне мачы, вадкасць разыходзіцца па арганізме... Спачуваю ад сэрца і Яму, і Вам... Першы нумар "Полымя" на гэты год даўно ўжо ў нас на стале. Першае, на што мы "накінуліся", гэта Вашыя, жывыя, цікавыя ўспаміны. Многае прыгадваецца. Кожнае слова з нашай нешматлікай прэсы, некалі, глыбока западала ў памяць. Усе падзеі, усе адценні пачуццяў у Вашых вершах таго часу. У сваіх успамінах, як і ў жыцці, недзе, Вы такі паслядоўны, суцэльны, маеце адзін шлях і ведаеце, чаго хочаце. У Вас болей розуму, як пачуцця. Вы цвярозы і ніколі ў жыцці не адзін. Вы наш і не наш, Вы ўсіх і Вашы ўсе, Вы інтэрнацыянальны. Як жа мы былі розныя! Я адна амаль праз усё жыццё! Шырокая праграма гімназіі дае мне разгляд. Чытаю, чытаю, а побач бачу легенду, нейкую "старую байку", глыбокую і прыгожую. Я зачараваная сваім народам. Я адна ў маім асяроддзі. Я наскрозь прасякнутая ідэямі хрысціянства і гуманізму і бачу нешта, ад чаго жудасна. Жывы, харошы мой народ як гной для некага! Як жа ён стараецца, каб выжыць... Родзяцца сотні дзяцей і ўдзел іх пасвіць і дзяліць, дзяліць вузкую, неўражайную палоску і гаснуць... А побач атупелыя чыноўнікі, якім панаванне над намі здаецца нармальным явішчам! Жывуць дзесяцігоддзі і мовы нашай не ведаюць, а мы як слугі... Не, так нельга, нельга! Сколькі дум, слёз, трагедыяў за гэта ўдома... Не бачу розніцы між людзьмі, акрамя таго: добрыя яны ці паганыя... Бачу, як ашукваюць гэты народ яўрэі, як нашыя дзяўчаты йдуць на службу да іх, паняверапыя. Худому Мітрафану пазычылі яны грошы і бяруць 10% у месяц!!! Купляючы жывёлу, робяць "хэйрым", і чалавек яе аддае за паўцаны. У час, калі трэба плаціць падаткі, йзноў "хэйрым", цана на збожжа мінімальная... Яна дарагая напрадвесні, калі няма чаго есці і чым засеяць яравы загон. Ліцытацыя на нашы Жлобаўцы (бацькаў хутар 12 км ад Гудзевіч), я еду ў Гродна прасіць, каб разлажылі на раты: банк, обротова, обоходова, дрогова і г.д. На мне тканая спаднічка, кажушок вышыты кароткі, я так люблю гэты кусочак зямлі, так люблю... Тата нікуды не ездзіць, ён сумны як ноч. Яўрэі скупілі нашыя вэксалі і хочуць зямлю. У часе неабходнай патрэбы тата даваў ім падвойныя, а то і патройныя вэксалі... А нас 9 чалавек! А зямля цвіце па-своему, дрэвы шумяць і так там люба... Я гутару з нейкім начальнікам фінансавай установы, прашу... Уваходзіць чалавек. У лапцях, шыракаплечы, сільны, з прыгожым, мужным тварам, бледным, недзе, ад паснаты. Просіць, каб не бралі апошняй каровы, што не мае гэтых 40 злотых, не мае... На яго крычаць і ён знае, што рады няма, і тагды па гэтым твары — градам слёзы. Аж на грудзі, горкія, вялікія, мужчынскія, нашыя. О Божа... Сэквэстратары ўрываюцца ў наша сяло, рвуць квіты з заплочаных падаткаў. Рвуць!!! У недалагі Петручка забіраюць куфар яго швагеркі, якая служыць у яўрэяў век цэлы. Жонка Петручкова бароніць палотны свае сястры, яе кідаюць на зямлю, б'юць ботамі... На трэці дзень "нарадзіла" пяцімесячнае дзіцятка, ляжыць сама і грошай няма на доктара. І я ўсё бачу, бачу... Чытаю Максіма Танка і мне лягчэй... Я пішу, але не друкую, бо Вы пішаце лепш за мяне! Мне няма чаго рабіць, калі Вы пішаце! І вось я за граніцай. Газета беларуская і я магу ўсё пісаць. Я так кахаю, так сумую, мне не залежыць на тым, якая газета, мне хочацца гутарыць, гутарыць... Я не магу сяння пісаць свае ўспаміны. Максім Танк, яны цяжкія вельмі. Я іх ніколі не буду пісаць! Жыццё маё — гэта лобам у сцяну зла і цемры. І пашто я Вам усё гэта пішу! Я не зусім люблю Вашыя ўспаміны. Я, можа, калі-небудзь скажу Вам, чаму. Яны да болі цікавыя, да адчаю цвярозыя, лагічныя, мужчынскія, халаднаватыя... Я хацела б, як Роза Вэнэда, пагглядзець, якое ў Вас сэрца?.. Вы гневаецеся? Ужо ноч. Муж на дзяжурстве, цэлы дзень былі нейкія людзі ў нас, а мне так вельмі хацелася гутарыць з Вамі. Як жа добра пра рыбу! Якая ж пераацэнка вартасцяў! Рыбе б у воды нырнуць і паплысці... Вельмі чакаю далейшых успамінаў! Як той грып? Ці ўсе здаровыя! Як маленькі ўнучак? Вы ж такі непадобны на дзеда! "Хрыстос" Валодзін, зразумела, што "недаходзіць", там жа з 500 старонак машынапісу надрукавана толькі 150! Таму няма цэласці. Тав. Матузаў стаіць мне перад ачамі, ці, праўдзівей, ляжыць.. Харошы ён чалавек, сапраўдны мужчына, цярплівы на боль, шляхотны, а гэта куды важней за тое, што ён дырэктар! Праўда? Што да сябра Карпюка, то баюся, што на гэты раз ён праў! Вы думаеце пра альбом? Як жа нядобра зрабілі яму і Данусі... Колькі ж там тае "ідэалогіі" ў абразках?.. Гэта проста сафістыка, каб толькі спрачацца ды рабіць яму крыўды. А мне яго жаль! Калі б я была на Вашым месцы, я яго, напэўна, абараніла б! Начальства гродзенскае не ідэальнае!.. Карпюк шчыры чалавек, праўдзівы, сказала б, без хітрасці нават... Мы з ім часта сварымся, але ўсё за Івана Пятровіча, якога ён не любіць... Часта Карпюк бывае праў, але я не хачу гэтага прызнаць. Ён колькі гадоў ездзіў да нас і ўсё дарма і ўсё роўна рады, што буду друкавацца, пішa: "О, нарэшце!" Ён мне па-своему дарагі і бліжэйшы, чымсці Васіль, хоць той большы дыпламат! Так шкада мне таго альбому! Праўда?

Гдзе Вы цяпер? Толькі б не ў Мядзелі... А, можа, там, йзноў едзеце праз сумёты? Як жа Вашае здароўе асабіста? Ці грып не пакінуў слядоў? Трэба абавязкова яго вылежаць! Хварэў і наш сын. Наагул, чуецца ён пагана... Напісала, каб хутчэй прыслаў выклік, я там, здаецца, вельмі патрэбная... Як мала далі мы сваяму сыну, і ён адчувае гэта, ён бывае як маленькі. Толькі б быў здаровы, а мужу б хутчэй на пенсію і тагды будзе лягчэй на душы. Спадзяюся, што месяц без мяне Іван Пятровіч нейк пражыве, вытрывае! Мае цёплы кабінет. Я не ведаю, ці перазімаваў бы ён у тым з пачакальні? Там цяпер толькі пачакальня! Усё гэта дзякуючы Вам, а найболей Вы харошы за тое, што чакаеце нашыя вершы! Я ведаю, што і маладыя паэты Вас любяць і будуць прыслухацца і прыглядацца да Вас у сваёй творчасці. Так ціха, ціха. На сцяне, супраць мяне, корміць спакойна сваё дзіцятка Мадонна... Цікае гадзіннік. Вельмі хачу, каб Вы былі здаровыя, і гэта галоўнае! Дзякую Вам за ўсё, за ўсё. Мяне заўсягды вельмі ўзварушвае тая хвілінка часу, якую ўмееце знайсці і для мяне.

Застаюся з вялікай пашанаю да Вас
Ларыса Геніюш.

*Зэльва 7/ІІ. 67 г.*

**Максім Танк!**

Сяння лістаношка прынесла ліста ад Юры, у якім быў толькі вызаў (!), і ад жанчыны, якую ён вылечыў і якая вельмі перажывае і яго нездароўе, і адносіны, якія склаліся ў яго дома. Болей, мне сказалі, лістоў няма... Вечарам я ўзяла газету і, калі разгарнула яе, — выпаў ліст... Гэта быў ліст ад Вас, тонкі, як лязо брытвы, і таму непрыкметны адразу. Муж ужо схадзіў у міліцыю і яму сказалі: ніякіх выездаў — яшчур! Што рабіць, Максім Танк? Я знаю, што Вы мне паможаце, але як і каму даць вызаў, калі яны не хочуць яго браць? Трэба паехаць, бо шкада сына, шкада да болю, і трэба вярнуцца хутчэй, бо што будзе з мужам? Я крыху перажываю Ваш адыход з "Полымя". Часопіс якасны, вартасны і выгляд цяпер, як у "Нового мира"! Усё радуе. Я баюся, што ўсё гэта залежыць, у велькай меры, ад галоўнага рэдактара. Ці не найлепей было б на Ваша месца паставіць некага, хто з Вамі працаваў? Спадзяюся, што нейкая змена ў Вас ужо гадуецца, зарысоўваецца, больш-менш дастойная Вас. Вельмі чакаю ўспамінаў, іх усе, усе друкаваць неабходна! Тое, што мне "бракуе" ў іх, поўнасцю дапаўняе "Нарач" і ўся насычаная болем, змаганнем і каханнем да Зямлі нашай Ваша тагачасная і сучасная творчасць! Не маглі ж Вы быць такімі, як я Вас сабе намалявала? Вы цікавы сам па сабе, а я ж зусім што другая, я проста вясковая дзяўчына, некалі. Я трагічна заўсягды — адна... У гэтых успамінах столькі роздуму, розуму і... дыплямацыі! Я ўсё памятаю! І тое, як слухаючы Вас, ген. Жэлігоўскі "адкрыў Амерыку!, што т. зв. "хамы" маюць сваю, зусім сваю культуру! Пры тым вялікую! Яна біла фантанам з "Нарачы", а тую "Нарач" Вы ледзь закранулі ва ўспамінах! Як жа тактоўна, дыпламатычна аб сабрацтвах па пяру... Я з нецярпеннем чакаю працягу. Я аналізую сябе. Я крыху зайздросная за Вас, бо ўсе маюць свае велічыні і могуць "весела" аб сабе думаць і клапаціцца, а мы маем мала такіх, як Вы, і Вы НАШ!!! Я так думаю. Я не магу быць інакшай, чымсці я ёсць! Я куды болей думаю аб Вашых успамінах, чымсці аб сваіх вершах, я ўжо адвыкла зусім друкавацца і мне здаецца, што гэта — фантазія! Вы ўжо мне зрабілі многа добрага, я і ад гэтага адвыкла ў жыцці, мне часамі не верыцца... З жахам адкрываю ў сабе матэрыяльныя зацікаўленні: Міхаську шубку, нагавічкі цёплыя, Юру кашулю капронавую, каб мог, як казаў мне, сам пад кранам яе вымыць, не просячы жонкі... Мужу кнігі, Алесіку мядзведзя вялікага, а свім суседзям 100 грам! Яны ўжо чакаюць на гэта, язык высалапіўшы! Я жартую, безумоўна, але не зусім жартую, я змянілася!?

Не магу вытрымаць з цікавасці, што там так вельмі няздатна начоўп наш вечны партызан? Ведаю адно, што намеры ў яго заўсягды добрыя, ручаюся! Урэшце, клопаты — гэта жыццё, калектыўныя клопаты — рух! Цешуся, што Вы адведалі свайго тату! Што казалі лекары? Чаму Ён сумны? Шкада, недзе, яму поля, бору і Нарачы... Вы добра яго знаеце? Я так хацела б чуць, як яны калісьці вылічвалі, калі якое свята... Гэта так важна, ад гэтага мяняецца пагода, работа і крыху жыццё. Хочацца, каб пажыў хоць лежачы, дачакаўся вясны яшчэ раз, можа, гэтая будзе — найпрыгажэйшая... дзякую шчыра Захару Пятровічу за прывітанне і цешуся, што ён пра мяне не забыўся. Я ж і з ім гутарыла па-беларуску! Шчыра вітаю Любоў Андрэеўну, дзякую Ёй і ўсім за прывітанні! З новых думак:

●

***Я сільны, захочацца — мучу, да слёз,***
***спыняю, закоўваю мігам!***
***Маўчыць усё і стыне, — хваліўся мароз,***
***пакуль не прыйшла адліга.***

***І не ад такога ліхога, як сам,***
***што мучыць — марозіць бясконца,***
***і сцюжу і лютасць дыктуе вятрам,***
***загінуў мароз — ад сонца!***

●

***Мудра ўсё прыдумана ў прыродзе,***
***рыбе дано — плаваць і маўчаць,***
***думкам — не хадзіць на валаводзе,***
***сэрцу — ненавідзець і кахаць...***

З мінулага.

●

***Можна ўсё забіць, хлуснёй знявечыць.***
***Моўкне слова перад страхам пут,***
***але праўда сэрцаў чалавечых***
***свой, выносіць, гэтакім прысуд.***

***Дужаму ці мала што ўдасца,***
***сніцца ўлада на гарбах людзей,***
***толькі суд, цяжкі, без апеляцыі,***
***ім не сніцца, але суд ідзе!***

Пішу Вам толькі кароткія, каб Вас не нудзіць лішне. Наш "глаў" змяніўся! Здаецца, не знайшоў больш магчымасці ўкусіць, не магу верыць, што з яго атрымаецца — чалавек... а можа? Гыркае яшчэ толькі Зеўс — бухгалтар, але не кусае, хоць відно, што апетыт ёсць... Пакуль усё добра, грып, хворых многа, справаздачы зданыя, і муж пачынае папраўляцца! Шчыра Вам за гэта ўсё дзякую! Кладу кусочак ліста ад п. К., каб крышачку мяне зразумелі... Пішучы, яго прышлеце назад. Ці пазбавіліся грыпа? Як Ваш малы ўнучак? Жадаю Вам усяго добрага.

З вялікай пашанай да Вас
Ларыса Геніюш.

*Зэльва 14/II. 67 г.*

**Максім Танк!**

Цікава мне, ці застаўся Ваш тата ў больніцы? Па-мояму, трэба зрабіць так, як Ён гэтага хоча... Ён будзе дома ляжаць, далечвацца. Будзе есці. А, можа, будзе памаленьку развітвацца з тым, што кахае... У больніцы Ён толькі хворы, а ўдома Ён гаспадар! Гэта важна. Трэба, каб не нерваваўся! Можна лячыць яго і даглядаць дома! Я думаю, што Ён ужо на сваёй пасцелі і яму крыху радасна. Так хочацца, каб пажыў... Не ведаю, як Вам і дзякаваць за помач. Мяне ўжо 11/II, у суботу, выклікалі ў міліцыю і паведамілі, што, па ўзгадненню з райкомам партыі, дазволяць мне паехаць да сына. Начальнік міліцыі быў вельмі ветлівы. Ён так паважна аднёсся да Вашай просьбы, што, як мне сяння сказалі, тэлефанаваў нават у гор. савет, каб далі мне патрэбныя спраўкі! Усё гатова ўжо, заўтра падамо дакументы. Калі прыдзе дазвол, дык паеду недзе у пачатках сакавіка. З голымі рукамі не паеду. Але што Вы і пра гэта падумалі... О, Танк... Сяння напішу Аляксею Нікіфаравічу, папытаюся, што можна з сабою ўзяць. Цёпла і прыгожа. Касцюмчык Міхасіку за 19 рб. ужо ёсць! Мне здаецца, што трэба памаленьку расшыфроўваць усё, што захавалася! Гэта так важна! Я ўжо раней чула ад Прашковіча, што Вашыя ўспаміны будуць найбольшай цікавасцю нашай прэсы на 67 год! Ці не вяртаўся болей туберкулёз? Гэта было пасля вязніцы, так? Нічога не пішаце аб сваім сэрцы і я хачу верыць, што ўсё добра! Ці будзеце выступаць на з'ездзе пісьменнікаў у Маскве? Гэта, па-мояму, будзе цікавы з'езд і Вы будзеце рэпрэзентаваць харошую літаратуру. Цешуся з гэтага! У "Зубрах" у "ЛіМе" крыху Валодзя не так напісаў: "Мы адною жывем чалядкаю", а ён: калядкаю... "Блішча сонца", а было: "Плешча сонца вясну з гары". Ад слова плёскаць, расплюскаць фарбы па палатне ці палітры. Ну, але гэта драбінцы. Іначай усё добра. Пісала яго маці, што здае ўжо, за пару дзён, зборнік у друк. Мне крыху няёмка, жаль яго творчага часу, патрачанага на мяне і г. д. Хацелася б ведаць, што друкуецца ўжо. Як я ў гэтых справах нічога не разумею... Я сяння нейк вельмі прыціхла. Гэта ад Вашай тонкай і паслядоўнай дабраты, Максім Танк. Як добра, што Вы не староннік толькі вялікіх рэчаў! А, можа, Вы вялікі і ў драбніцах і ў будні жыцця? Я веру, што так, бо мне вельмі хочацца думаць аб такіх людзях. Калі ласка, прачытайце ў "Ніве" за 5/II. 67 Юркін "Новы год". Гэта коратка і змястоўна. Гэта вынік думаў і закідаў сумлення. Дыпламатычнае заканчэнне і мужнае. Веру, што будзе добрым чалавекам, бо быць ім хоча! Толькі б яго пакінулі ў спакоі тыя, што топяць у балоце і спойваюць... Мала ўжо ў ім здароўя... Так хочацца гутарыць з Вамі некалі, гэта неабходна. Толькі, каб Вы былі здаровыя і мелі крыху часу! Некалі! Не трэба мне пісаць даўгіх лістоў, што Вы! Мне важна атрымаць вестку і ведаць, што Вы здаровыя! Гэта важна! Я ніколі не переставала следкаваць за Вашым літаратурным дыханнем. Мне здаецца, што я пра Вас многа ведаю і зусім не са слоў. Фактычна словы гавораць не ўсё, Вы заўважылі? Грып ўвайшоў у нашую хату і калоціць мужа. Ён сумны з мае, ужо выразней, паездкі да сына. І мне шкада яго пакідаць самога, але ехаць трэба! Будзе мне там нялёгка. Я пастанавіла маўчаць і прыглядацца. Жаль Міхасіка, мы з ім вялікія сябры з яго першых дзён жыцця. Ён радзіўся ў Зэльве. Цешуся, што змагу з ім хадзіць у кіно (на дзецкія), у цукерню і ў кніжныя магазіны. У мінулым годзе казаў мне: "Які я сцаслівы". Гэта пасля выхаду з крамаў... Алесіку ўсяго два годзікі, і я яго першы раз яшчэ ўбачу! Зусім гэта не драбніца, гэта вялікая падзея жыцця! На ўсякіх сваякоў не буду мець дастаткова часу, хіба ў Крынках назбіраю яшчэ апавяданняў пра дзеда і яго 1/2 участка зямлі... Ёсць старыя знаёмыя і ў Варашве, яшчэ ўдзельнікі ці сябры "Легіёну маладых". Я тагды чытала і Вашыя вершы ў іх прэсе, памятаеце, па-беларуску! Важней за ўсё — унукі! Як жа Вы бесканечна добры...

З мысляў:

***Хто боль мой падбярэ і словы згорне,***
***Мой жаль душы, што ветры не змаглі?***
***Жыццё маё — агарак свечкі сяння,***
***На аўтары пакутнае Зямлі.***

***Крываві ў боль, надзея палымнела,***
***сплывалі воскам слёзы на аўтар.***
***О, Беларусь, мой галубочак белы,***
***ад чысціні нязлічаных ахвяр!***

Толькі не пішэце мне болей: цудоўная падборка! Я вельмі хацела б, каб яна такою была, але як на той, Монт Эверэст, падняцца? Буду думаць, што Вы здаровыя! Буду верыць ва ўсё добрае кругом Вас! А цяпер дабранач, Максім Танк! Абавязкова, хоць пакрысе, расшыфроўвайце сваю юнасць! Гэта вельмі важна! З пашанаю і подзівам да Вас Ларыса Геніюш.

**Публікацыя Міколы МІКУЛІЧА**

# Прыцягненне Баршчэўскага

## НАТАТКІ З ДРУГІХ МІЖНАРОДНЫХ ЧЫТАННЯЎ, ПРЫСВЕЧАНЫХ ТВОРЧАСЦІ ПІСЬМЕННІКА

Час няўмольна рушыць наперад. І мы наўрад ці за ім паспяваем. Шкада, калі не заўважаем сапраўдныя вартасці, не азіраемся ў такое павучальнае мінулае, а марна губляем час у паспешлівых перабежках з аднаго краю на другі.

Але ў рэшце рэшт не трэба нічога выдумляць, лепей узяць у рукі добрую старую кнігу і даверыцца прадбачліваму класіку. Усё ўжо было. Толькі дахі дамоў змяніліся і пахмурнела неба. А кніга — як жыватворная крыніца, што вучыць нас мудрасці і чалавечнасці.

Ян Баршчэўскі, паэт і пісьменнік першай паловы мінулага стагоддзя, вярнуўся на Бацькаўшчыну напрыканцы XX стагоддзя. Вярнуўся ў кнігах, фільмах, памяці, размовах. Але яшчэ няма вуліцы з яго імем, няма музея, помніка, нават барыльефнай дошкі. Праўда, у Мурагах на Расоншчыне, там, дзе нарадзіўся песняр, летась з'явіўся памятны знак — камень-валун. І глядзіць з гэтага валуна сам Баршчэўскі на лясныя пагоркі і сенажаці. Край ягоны малалюдны і нейкі суровы — самая поўнач Беларусі. Стаяць Мурагі на беразе вялікага возера Нешчарда. Як сцвярджаюць нашы віцебскія філолагі, правільная назва возера — Няшчэдра, у сэнсе "няшчэдрае".

У лістападзе ў Полацку праходзілі другія міжнародныя літаратурныя чытанні па творчасці Яна Баршчэўскага. Арганізавалі іх Віцебскі дзяржуніверсітэт імя П. Машэрава, Польскі інстытут у Мінску, Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік, абласны краязнаўчы музей. На чытанні з'ехаліся літаратуразнаўцы, пісьменнікі, гісторыкі з Варшавы, Мінска, Віцебска, Невеля. Мерапрыемства нечакана супала з Днём незалежнасці Польшчы. Яго ўдзельнікі павіншавалі дырэктара Польскага інстытута ў Мінску Томаша Нягодзіша, доктара Варшаўскага універсітэта Аляксандра Баршчэўскага і яго калегу пані Надзею Панасюк. На жаль, не змог прыехаць у Полацк актыўны ўдзельнік ранейшых чытанняў і фундатар памятнага знака ў Мурагах Мечыслаў Яцкевіч, які прызначаны на пасаду генеральнага консула Рэспублікі Польшча ў Летуве.

Адкрываючы чытанні, загадчык кафедры беларускай літаратуры Віцебскага дзяржуніверсітэта Вольга Русілка заўважыла, што іх кафедра планава працуе над праектам "Ян Баршчэўскі і яго час: вяртанне спадчыны".

А час Баршчэўскага быў даволі супярэчлівы. Мікалай І сваім загадам забараніў ужываць у афіцыйных дакументах тэрмін "Беларусь", аб'явіў пра пачатак працэсу поўнай русіфікацыі беларусаў. Але пісьменнік, нягледзячы на забарону, на тытульным аркушы сваёй кнігі напісаў: "Беларусь у фантастычных апавяданнях". Ён служыў простаму люду і шляхце Беларусі. І дзе б ні жыў паэт — у паўночнай сталіцы на Няве, ці ва ўкраінскім Чуднаве, — "самотныя думкі" яго вярталіся ў родны край, на поўнач Беларусі.

З асаблівай цікавасцю ўдзельнікі чытанняў слухалі даклад Уладзіміра Арлова "Полацк часоў Яна Баршчэўскага як адзін з інтэлектуальных цэнтраў Еўропы".

Баршчэўскі вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіуме. Калегіум стварылі езуіты. Дзейнасць іх таварыства была забаронена папам Рымскім. І тады расійская імператрыца Кацярына II дала ордэну прывілеі, і Полацк стаў фарпостам езуітаў. Калегіум быў падобны на універсітэт. Ад шкаляроў не патрабавалася быць католікамі або мяняць веру. Манахі ахвотна прымалі ў свае школы дзяцей сялян і мяшчан. З 1584 года ў Полацкім калегіуме выкладалася старабеларуская мова як самастойная дысцыпліна. Тут выкладалася арыфметыка, геаметрыя, фізіка, астраномія, гісторыя, геаграфія, музыка, логіка. У Полацк ехалі таленавітыя і бліскуча адукаваныя людзі. Усе іншаземцы вучылі мову народа, сярод якога пасяліліся. Абсталяванне аўдыторый і кабінетаў уражвала гасцей. Быў у калегіуме і тэлескоп даўжынёй 8 футаў, і багатая калекцыя мінералаў, сем ёмістых скрынак займала нумізматычная калекцыя. Колішні кіраўнік ордэна Г. Грубэр стварыў кунсткамеры і карцінную галерэю. У 1787—1820 гады ў Полацку дзейнічала выдавецтва, якое выпусціла больш за паўтысячы назваў кніг. Менавіта ў такіх спрыяльных для развіцця творчай асобы ўмовах і выхоўваўся Ян Баршчэўскі. Тут, у калегіуме, Баршчэўскі займеў славу "вершапісца". "Не толькі ў школе, але і на вёсцы ў бацькоў ці ў засценках у суседзяў, у свята альбо на ўрачыстасць, на вакацыях вылучаўся ён сваімі паэтычнымі здольнасцямі", — пісаў Ю. Барташэвіч у некралогу пра Баршчэўскага.

Удзельнікі чытанняў наведалі расонскія Мурагі, каб пакласці кветкі да помніка і на месцы былой хаты шляхціца Завальні. У Гарбачэўскай сярэдняй школе адбылася творчая сустрэча навучэнцаў і настаўнікаў з пісьменнікамі. Дарэчы, тут, у Гарбачэве, праходзілі першыя міжнародныя чытанні два гады назад. Мясцовая моладзь ганарыцца сваім славутым земляком. Нейкай сапраўднай любоўю і пяшчотай павеяла ад такога па-дзіцячы наіўнага пытання, якое задала гарбачэўская школьніца вядучаму сустрэчы Анатолю Канапельку: "Як вы думаеце, калі Баршчэўскі ішоў пехам з Пецярбурга ў Мурагі, ён праходзіў праз Гарбачэва ці праз Краснаполле?"

— "Вось у такіх пытаннях — пачуццё патрыятызму", — заключыў пазней Анатоль Мікалаевіч.

У Мурагах у дзевяці жылых хатах засталіся адны састарэлыя. Ала Рыгораўна Аляксеева, калі я яе нечакана наведала, мыла на кухні бялізну — як і ўсе сучасныя спадарыні, у пральнай машыне пральным парашком замежнай вытворчасці. Віцебскай госці яна была рада.

— Тры гады, як мужа пахавала, — гаворыць жанчына. — А цяпер сваю маці забрала сюды, у Мурагі. Тут раней жылі мае свёкар са свякрухай, а я пераехала за мужам у 1964 годзе.

Ала Рыгораўна пяць гадоў на пенсіі, але яна й самая маладзейшая жыхарка Мурагоў. Трынаццаць гадоў даіла кароў на саўгаснай ферме ў Люцькаве. Ездзіць трэба было за пяць кіламетраў тры разы ў дзень. Вазіў саўгасны транспарт, але ж часам машыны не было.

— За гэтыя гады хіба што на самалёце ў Люцькава не лётала, а так на ўсім, — жартуе жанчына. Трымае коз, парася, курэй. Бульба не ўрадзіла, дык прыйдзецца ад парсючка на зіму адмовіцца.

У хаце Алы Рыгораўны — чыста і ўтульна. Даматканыя палавічкі і абраз на куце.

— Быў час, калі нас усіх агітавалі зняць абразы, схаваць іх. А мы ў адказ: да нас віселі і вісець будуць.

Старажылы Мурагоў — Марыя Іванаўна Аляксеева, 1907 года нараджэння. Жыве адна. Яе адведвае сацыяльны работнік Таня Войтава, з Гарбачэва. І дроў наносіць, і пол памые, і бульбу дапаможа выкапаць. Мурагоўскія старыя Таню шануюць. Заходзіць яна ў дом да Голубевых, дзе гаспадар — інвалід Айчыннай вайны, да Антаніны Сяргееўны Варажынскай.

Бабулі Варажынскай 72 гады, было трое дзяцей, але зараз адна — перажыла дзяцей. Страшэнны лёс. Жыве тут з 1939 года. У яе доме захоўваліся старыя сямейныя фотаздымкі, якія зараз экспануюцца ў Літаратурным музеі Віцебска.

Дзвярэй яна доўга не адчыняла. Не чакала, што ў сцюдзёны, амаль зімовы, лістапад хтосьці зойдзе. Але размова наша, хоць і кароткая, атрымалася шчырай. Жанчына гэтая — цудоўная майстрыха. Дываны — проста захапленне. Абрус на круглым стале таксама яе рукі вязалі. А пакрывала нават у музей забралі...

Вось так і жывуць нашчадкі шляхціца Завальні на беразе жыватворнай Нешчарды. Прырода і лёс пакінулі самых выпрабаваных і моцных. Вядома, што на Расоншчыне даваенная шчыльнасць (і колькасць) насельніцтва так і не аднавілася да цяперашняга часу.

Пакуль наша "ГАЗель" куралесіла па дарогах Баршчэўскага, мы заўважылі нават прыкметы багацця ляснога краю. Паўзлессем пабегла ліса. Нядаўна адной жанчыне надарылася сустрэцца з мядзведзем, калі ў грыбы хадзіла. Праўда, сюжэт быў крыху не такі, як у "Палясоўшчыку" Багушэвіча, але ўсё ж мясцовым ёсць пра што пагаманіць...

●

Час выспявае грамадскую думку і гістарычную свядомасць разам. Добра, што ў Расонах, не толькі ў Віцебску ці Мінску, усё часцей гавораць пра неабходнасць мемарыялізацыі мясцін Баршчэўскага.

Музей — хата шляхціца Завальні на беразе Нешчарды — гэта тая высакародная справа, якая будзе да гонару нашых сучаснікаў.

— Ведаеце, які самы моцны вобраз у творчасці Баршчэўскага? — спытаў мяне малады гісторык з Полацкага універсітэта Уладзімір Лобач. І сам адказаў: — Плачка. Гэта ж сама Беларусь, якая нікому не можа "даверыць таямніцу свайго сэрца".

Пра гэты літаратурны сімвал гаварылі многія ўдзельнікі чытанняў. Бо ў гэтым — сіла слова класіка: плач і малітва мінулага стагоддзя засталіся плачам і малітвай напрыканцы гэтага.

**Святлана ГУК**

*Віцебск—Полацк—Расоны*

# Блізкая гісторыя

## Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945—1965

### КОНКУРС ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

Архіў найноўшай гісторыі (пры Беларускім гуманітарным фондзе "Наша Ніва") пры ўдзеле Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны абвясціў конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945—1965" (пра што мы ўжо аднойчы паведамлялі).

Заснавальнікі конкурсу хочуць зацікавіць школьнікаў гісторыяй паўсядзённасці нядаўняга часу — мінулым сваёй сям'і, атачэння, населенага пункта. Хочуць заахвоціць да самастойнай даследчай працы, якая патрабуе выкарыстання метадаў дзейнасці гісторыкаў і прыёмаў журналістыкі.

У конкурсе могуць узяць удзел навучэнцы сярэдніх навучальных устаноў: школ (пачынаючы з сёмага класа), ліцэяў, гімназій, каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў.

Форма конкурснай працы адвольная. Гэта можа быць сачыненне альбо эсэ, калаж з фотаздымкаў ці нават фільм, інтэрв'ю і г.д. Галоўнае — праца павінна мець творчы характар. У выпадку нятэкставых форм да працы павінна быць далучана пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс даследавання і збору інфармацыі.

Конкурсная праца падаецца на беларускай мове. Тэксты крыніц могуць падавацца ў арыгінале.

Праца можа быць падрыхтавана як індывідуальна, так і групай, самастойна альбо з дапамогай настаўніка, бацькоў, бібліятэкара і г.д. Да працы павінна быць абавязкова далучана метрычка.

Працу трэба даслаць у адным асобніку да 30 снежня (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) на адрас: **220123, Мінск а/с 71.**

Вынікі конкурсу будуць абвешчаны 30 студзеня 1999 года. Пераможцаў чакае мультымедыйны камп'ютэр (галоўны прыз), а таксама фотаапараты, дыктафоны і мноства іншых прызоў.

*Усю патрэбную інфармацыю і парады можна атрымаць ад сакратара конкурсу Ірыны Коваль (тэл. (0172) 77-46-25 з 7-00 да 8-00 і з 22-00 да 23-00) альбо ў газеце "Наша Ніва"* **(N 10 за 1 чэрвеня 1998 г.).**

**Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі выказвае спачуванне супрацоўніку інстытута доктару мастацтвазнаўства Р. СМОЛЬСКАМУ з нагоды смерці маці.**

**Беларускі саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў выказвае спачуванне доктару мастацтвазнаўства Р. СМОЛЬСКАМУ з нагоды смерці маці.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае спачуванне пісьменніку Івану КУРБЕКУ з прычыны смерці сястры.**

ПЕРАКЛАДЫ

# "За келіхам віна"

**Зусім нядаўна ў Балгарыі выйшла адметная сваім зместам і накірункам паэтычная анталогія "За келіхам віна". Гэта — вершы сучасных (дакладней, тых, што жывуць і працуюць сёння) балгарскіх паэтаў пра віно і вінаробства, вінаград і вінаградарства. Але на самай справе, і застолле, і віно, і келіх — толькі вонкавыя атрыбуты гэтай шчырай і, я сказаў бы, мудрай лірыкі, толькі повад пагаварыць на тэмы, у паэзіі вечныя: аб жыцці і смерці, аб маладосці і старасці, аб сяброўстве і каханні, аб радасцях і пакутах, аб прызванні і абавязку...**

**Вершы, якія я выбраў і пераклаў для гэтай публікацыі, належаць паэтам розных узростаў — ад тых, каму ўжо за семдзесят, да тых, каму каля трыццаці. Сярод іх аўтараў — імёны даўно і добра вядомыя ў Беларусі (Н.Вылчаў, Л.Леўчаў, П.Мацеў, Э.Эўцімаў, С.Паптонеў, М.Шопкін і інш.) і імёны, якія адкрываюцца беларускім аматарам паэзіі ўпершыню: Э.Алекава, А.Аляксандрава, К.Барысаў, Р.Міраслававa, В.Любенаў.**

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

Найдзен ВЫЛЧАЎ

## Богароўныя

*Як на карціне на класічнай:*
*зімовы вечар за сцяной;*
*гарыць камін; наўзбоч, прывычна —*
*віно і хлеб; меланхалічна*
*мы на агонь глядзім з табой.*

*Што міг? Што даўнасць?*
*Келіх поўны*
*не скажа нам. Сябе саміх —*
*сівых, слабых, безабаронных —*
*мы лічым тут за богароўных*
*перад гурбой грахоў сваіх.*

*Гэй, вы, хто чысты і бязвінны,*
*вы, што ўзышлі на шлях круты,*
*для гэткай ночы ў зімняй стыні*
*шануйце даўнія каміны —*
*у іх ёсць попел залаты.*

Эўцім ЭЎЦІМАЎ

●

*Што ты слабак*
*і ўшчэнт п'янееш хутка,*
*віно вініць у гэтым — неразумна.*
*Жанчына грэецца*
*ў чужых закутках,*
*калі ёй дома холадна і сумна.*

*Так, так, над д'яблам*
*узыходзіць зорка,*
*калі анёл яе не разумее.*
*Каханне сыдзе са свайго падворка,*
*калі ў недакаханасці марнее.*

*Мужчыны знаюць:*
*гонар каб не страціць —*
*на моц надзеі ўсе, а не на модлы!*
*Віно, як і жанчына, можа здрадзіць*
*адно тады, калі піток нямоглы.*

Павел МАЦЕЎ

●

*Маю магілу ты віном чырпанскім*
*зрэдзь-часу палівай — я смак яго*
*пазнаю ўраз. Яно пад небам наскім*
*было натхненнем голасу майго.*

*Яго на ўсё і для ўсяго мне хопіць.*
*З яго анёльскай мовы я змагу*
*пачуць той край, дзе хмельны*
*вецер ходзіць*
*у гэты міг, што слыхам сцерагу;*

*дзе юнакі спрачаюцца аб творах*
*паэта ўзнёслага, што там узрос;*
*дзе нават птахі божыя гавораць*
*радком ягоных вершаваных кроз...*

*Абломкам вечнасці, напэўна, здасца*
*мне той радок. І ў малітоўны час*
*лізну віна я капку — як прычасце,*
*што ў дні дзяцінства*
*там прымаў не раз.*

Любамір ЛЕЎЧАЎ

## Навагодні тост

З чэрапа, знойдзенага ў садзе старажытнага манастыра, Байран зрабіў сабе кубак для віна.

*Лорд Байран,*
*не адмоўце госцю ў просьбе.*
*Наліце ў чэрап беднага манаха.*
*Я вып'ю прагна*
*і без страху.*
*Хіба жыццё —вялікі трыумфатар—*
*чагосьці пабаіцца раптам?*

*Ніякі страх ужо мяне не возьме.*

*Сяброў найблізкіх*
*траціў я не раз.*
*Разлюбліваў каханак найласкавых.*
*Павекі бацьку закрываў на лаве...*
*Але і ў самы найжахлівы час*
*не закрываў ад страху смерці*
*павекі веры — той, што ў сэрцы!*

*О, хай агністае віно ўвальецца*
*бяссмертным полымем*
*у грудзі мне!*

*Што чалавечнае?*
*Жыць у сталецціях!*
*Не чалавечнае — спаць у труне!*
*Але калі ўжо дні мае падлічаны*
*і трэба мне збірацца ў небыццё, —*
*хай гэта ў бітве стане,*
*а не ў ложку!*
*Тады і смерць успрымецца*
*хоць трошку*
*падобнай на жыццё.*

*Лорд Байран,*
*дык напоўніце па венчык.*
*Я ўсё-такі ваш навагодні госць.*
*І я хачу ў святочны гэты вечар*
*падняць за свой уласны чэрап тост.*

*Калі яго*
*дзесь на раскопках моглiц*
*хтось знойдзе —*
*хай са шкадаваннем мовіць:*
*"Для кубка не гадзіцца ён, на жаль.*
*Ён з дзіркамі —*
*ад куль ці ад нажа..."*

Стэфан ПАПТОНЕЎ

## Дзве кроплі

*Пасля віна,*
*што выпілі з табой мы,*
*святых званоў пачулі галасы,*
*і адышлі грахі, як зданяў плоймы, —*
*і сённяшнія, і за ўсе часы.*

*Пасля віна,*
*што выпілі з табой мы,*
*прычасце ўгрэла нас, а лістапад*
*пацвердзіў жоўтым*
*шэлестам спакойным,*
*што нам былога не вярнуць назад.*

*Пасля віна,*
*што выпілі з табой мы,*
*данёсся з выраю крык журавоў,*
*і ацвярэзілі наш дух свабодны*
*дзве капкі-кроплі ў келіху гадоў.*

Матэй ШОПКІН

## Маналог маладога віна

*Абручамі ў бочках абкручанае,*
*б'юся, рвуся,*
*вірую бруёй.*
*Разумею, чаму мяне мучаеце*
*сваёй жорсткаю дабрынёй.*
*Але я не крану вам нервы —*
*да старых вы прывыклі він.*
*Бунт мой ярасны супраць цемры —*
*нібы сонечны бунт крыві.*
*Сіл мне мала,*
*вы гэта знаеце,*
*і над крыкам пакут маіх*
*злосна зубы парою скаліце.*
*Ды ўсё ж думаеце пра міг! —*
*Міг,калі,*
*нібы бліскавіцаю,*
*абручы я ўшчэнт разламлю*
*і мацней вам, чым акавітаю,*
*сэрцы ўзрушу і акрылю.*
*Разбуджу словы грознай клятвы*
*і прымушу вас сціснуць нож.*
*І... раз'ятраныя, як д'яблы,*
*мяне піцьмеце вы ўсю ноч!*

Георгі КАНСТАНЦІНАЎ

## Святочнае віно

*Мы не адны ў бязмежным*
*гэтым свеце,*
*але па святах толькі*
*ў гурт гуртуемся.*
*Адной і той жа чаркай*
*душы квецім,*
*а блізкімі — плячо ў плячо —*
*не чуемся.*

*Што неўпрыкмет нас б'е і разбівае*
*на дробныя асколкі,*
*як на атамы —*
*за хлеб змаганне? Слава "баявая"?*
*Ці зморанасць?*
*Ці прага стаць багатымі?*

*Мы і ў застоллях*
*застаёмся рознымі —*
*самотны жэст,*
*пагляд сцюдзёна-востры...*
*Жыццё не мераецца*
*толькі тостамі,*
*жыццё — не тосты...*

Кінка КАНСТАНЦІНАВА

## Прагныя вусны мае

*Гэта трапеза мая не з учора*
*доўжыцца —*
*з першай далёкай вясны.*
*Цяжкія ўсё яшчэ ў гожых узорах*
*гарнцы-збаны.*
*Хай жа віруе віно маладое,*
*духам зямлі і лісця абдае,*
*хай будзе даўкім і горкім да болю —*
*прагныя вусны мае.*
*П'ю вас, дзянёчкі, ці зімна, ці цёпла,*
*з сокам, што ў келіху грае-пяе —*
*цёмна і светла, светла і цёмна.*
*Прагныя вусны мае.*
*Можа, я чуюся п'янай ад сонца,*
*ад навальніцы, ад песень яе?*
*Шмат асушыла пасудзін да донца!*
*Прагныя вусны мае!*
*Колькі трапезнічаць буду — не знаю,*
*вечар не страшны, няхай настае.*
*З поўнага глечыка зноў наліваю.*
*Прагныя вусны мае!..*

Калін ДОНКАЎ

## Толькі не забыццё

*Налі віна мне ў келіх тонкасценны*
*і побач сядзь з усмешкаю нязменнай.*

*Каханая, сумнеў адпаў, здаецца:*
*Усё па заслугах сэрцу дастаецца.*

*І чалавек звыкаецца пакрыху:*
*крычыць ад цішыні,*
*маўчыць ад крыку.*

*Іспыт на ўсё,*
*што зведаць давядзецца, —*
*ён па заслугах сэрцу дастаецца.*

*Цалуй жа доўга!*
*Жар любві пяшчотны*
*хай будзе сёння, як ніколі, шчодры!*

*Не можаш доўга?*
*Ну, тады да смерці!*
*Такога свята заслужыла сэрца.*

*І калі дзесь праглянуў*
*момант стратны —*
*няшчыры голас*
*ці паруха клятвы —*

*боль, што струменьчыкам*
*салёным льецца,*
*ён па заслугах сэрцу дастаецца.*

*З табой ці без цябе, а толькі знаю:*
*што судзіць лёс —*
*спакойна прычакаю.*

*Усё па заслугах сэрцу дастаецца.*
*І толькі забыццё хай не кранецца!*

Раманьёла МІРАСЛАВАВА

## Вінаробня кахання

*Я — вінаробня жарсцяў, бровар я*
*для прагнасці тваёй буяна-дзікай.*
*Ты ад майго напою — як вар'ят:*
*шалееш проста ноччу сонна-ціхай.*

*Я тайну ласк няўрымслівых тваіх*
*нашу схаванай ад паглядаў пошлых.*
*Я — твой Парнас*
*у гэны зорны міг,*
*калі глытаеш ты глыток апошні.*

*Ты ад мяне ратунку не чакай,*
*бо я — віно не толькі для прычасця.*

*Палай, палай яго агнём і знай:*
*з адною мной сваё*
*ты знойдзеш шчасце.*

Элена АЛЕКАВА

●

*Які вялікі ў небе вячэрнім*
*сонца дыск!*
*А чалавек не бачыць —*
*бяжыць, бяжыць кудысь.*

*Якою цішынёю звініць нябёс сяйво!*
*А чалавек не чуе —*
*з-за голасу свайго.*

*Спыніся, чалавеча! Не можа...*
*А таму:*
*ці ў неба, ці ў магілу —*
*усё адно яму.*

*Калі жыццё — хвіліна,*
*а шчасце — міг у ёй,*
*калі ўсе нашы парыванні — вецер,*
*І лёс туды-сюды нас гне, як вецце,*
*калі мы вырай выпадковы ў свеце,*
*і ўсе імчымся*
*ў бездань беспрасвецця,*
*калі ўзышлі з зямлі і станем*
*зноў зямлёй...*

*калі нам так баліць,*
*калі душа ў адчаі,*
*калі не ўзводзіць цуд нас*
*на зямную цвердзь, —*
*падымем поўныя*
*з віном-гаркотай чары:*
*"Здарова будзь, Жыццё!*
*І на здароўе, Смерць!.."*

Ана АЛЕКСАНДРАВА

## Збавіцель наш абраў цябе метафарай...

*"Ін віно верытас!"*
*Прыслоўе? Ці павер'е?*
*Не! Досвед з векавымі вымярэннямі.*
*З паганскай Дыянісавай містэрыі*
*твая прамудрасць*
*прарасла карэннямі.*

*Магічнае пітво! Ты язвы з ранамі*
*рубцуеш,*
*носіш нас шляхамі зорнымі...*
*Але праходзіць ачмурэнне... П'яныя*
*ілюзіі на дол злятаюць чорнымі.*

*З табой, віно, шчаслівых*
*колькасць большае,*
*забыўшых на евангельскія ісціны.*
*Ты — д'ябла дар! Але ж —*
*і зелле божае!*
*Рубін Хрыстовы*
*ў келіху раз'іскраным.*

*Збавіцель наш абраў*
*цябе метафарай*
*крыві ахвярнай —*
*для ратунку нашага.*
*Каб мы любоўю сестрынай*
*і братавай*
*жылі пад Ім —*
*сярод знявер'я страшнага.*

Кірыл БАРЫСАЎ

## Вечнасць

*Вадою і агнём, віном і хлебам*
*з нас кожны хрышчаны*
*ў жыцці не раз.*
*І нанізку гадоў, як гронку летам,*
*зрывае ўрэшце з небасхілу час.*

*Але ў рэальнасці нам невядомай*
*і духам і агнём нас хрысціць лёс.*
*Шчаслівцы тыя ўсе,*
*хто ўцяміў добра:*
*вось гэта тайна вечнасці і ёсць.*

Владо ЛЮБЕНАЎ

## Гайдуцкае віно

*Перасмяглы ўвесь, сярод начы,*
*прама ў хату да цябе ўвалюся.*
*Вінаграднай гронкай у кашы*
*я зграбу цябе і ў кут заб'юся.*

*Пацячэ па грубых пальцах сок*
*з цёплых ягад, сонцам набрынялых.*
*Касмаццём зарослы ўвесь, як цмок,*
*кіну цела на тапчан драўляны.*

*І сярод раскошнай цемнаты*
*увайду ў цябе пад стогн нягромкі,*
*каб спазнала гэтай ноччу ты,*
*як віно рабіць са спелай гронкі.*

Слаўча ЧАРНІШАЎ

## Рыбацкі матыў

*З віном мне лепей, чым з табой,*
*— лягчэй.*
*Не так балюча думкі*
*рвуцца-скачуць.*
*Таму што... у яго няма вачэй,*
*якія хлусяць і пры гэтым плачуць.*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2847-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2847-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2847-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4009
Нумар падпісаны ў друк 10.12.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 7121/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12